# Кааперацыя БССР

## Часопіс

кааперацыйных цэнтраў БССР, Белсельбанку і Усекабанку


Май

№ 3-4

1929

Менск




## ЗЬМЕСТ

Стар.



### Практыка нашае працы



### На мясцох



### Каапэрацыя за мяжою



### Бібліографія



### Афіцыйны аддзел

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, ТУМАСА,
МАТУСЭВІЧА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 3–4

МАЙ





МЕНСК — 1929

# На сацыялістычнае спаборніцтва ў каапэрацыі!

Вялікія задачы пастаўлены перад працоўнымі нашае краіны. Мы павінны найхутчэйшым тэмпам рабіць перабудову ўсяе народнае гаспадаркі на сацыялістычны лад. У гэтай справе каапэрацыі належыць адказьнейшая роля. Мы павінны забясьпечыць хуткае разгортваньне буйнае калектыўнае гаспадаркі на вёсцы на аснове высокае машыннае тэхнікі. Нам неабходна забясьпечыць шырокае, масавае ўцягненьне бядняцкага і серадняцкага сялянства ў больш простыя вытворчыя каапэратывы: мэліярацыйныя, машынныя, малочныя, насеньняводныя і іншыя вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні. Мы павінны разгортваць і накіроўваць работу сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў у бок узмацненьня калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня сялянскіх гаспадарак і арганізацыі агратэхнічнае дапамогі асобным бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам.

Выкананьне галоўнейшае задачы падвышэньня ўраджайнасьці ў значнай ступені залежыць ад тэмпу і якасьці работы сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі. Мы павінны аб'яднаць разьвіцьцё прамысловых арцеляй, якія існуюць пераважна на мясцовай недэфіцытнай сыравіне і задавальняюць патрэбы гаспадаркі і насельніцтва. Спажывецкая каапэрацыйная сыстэма павінна ауладаць амаль цалком таварным зваротам, выцясьняючы прыватніка і запаўняючы пакінутыя ім месцы.

Задача наступу на капіталістычныя элемэнты ў горадзе і на вёсцы найбольш войстра і непасрэдна пастаўлена перад каапэрацыйнымі сыстэмамі.

Колькасныя тэмпы і якасныя пажаданьні разьвіцьця калектыўнай і каапэрацыйнае гаспадаркі ў пяцігадовым пляне народнае гаспадаркі становяцца праграмнымі асновамі для практычнае работы каапэрацыйных сыстэм і асобных каапэрацыйных арганізацый. Мабілізацыя і арганізацыя актыўнасьці бядняцкіх і серадняцкіх мас вакол задач уздыму тэхнікі і рацыяналізацыі працы ў каапэрацыйных прадпрыемствах, уздыму дысцыпліны і вытворчасьці працы, пашырэньня пры дапамозе каапэрацыйнае самадзейнасьці пасяўное плошчы, уцягненьне сялянства ў калгасы, павялічэньне якасьці прадукту, зьніжэньне сабекаштоўнасьці, уцягненьне ў каапэрацыю новых пайшчыкаў і паявых укладаў, арганізацыя культурна-бытавых устаноў-павінны быць у цэнтры ўвагі каапэрацыйных арганізацый.

Для выкананьня ўсяго гэтага неабходна арганізаваць шырокую пераклічку каапэрацыйных арганізацый на падставе сацыялістычнага спаборніцтва ў справе выкананьня пастаўленых перад каапэрацыяй задач.

Хваля сацыялістычнага спаборніцтва, узьнятая рабочымі масамі на фабрыках і заводах, павінна перакінуцца ў шэрагі калектыўных і каапэрацыйных арганізацый і працоўных мас, якія аб'яднаны імі.

Сацыялістычнае спаборніцтва шматлікае арміі калгасаў, вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў, сельска-гасп. крэд. т-ваў, спажывецкіх таварыстваў, прамысловых арцеляй, жактаў і іншых каапэрацыйных арганізацый і іх саюзаў узьніме творчую ініцыятыву каапэраваных і некаапэраваных мас і забясьпечыць рух народнае гаспадаркі і культуры па вызначаных партыяй шляхох.

Хай кожная арганізацыя альбо група арганізацый вызначыць практычную праграму мерапрыемстваў па ўздыму тэхнічнае, грашовае, гаспадарчае і грамадзкае базы сваёй работы і выкліча на спаборніцтвы другія арганізацыі.

Няхай старонкі нашае каапэрацыйнае часопісі стануць арэнаю спаборніцтва каапэрацыйных арганізацый за лепшыя посьпехі ў рабоце, у падвышэньні яе прадукцыйнасьці, у выкананьні дырэктыў па наступу на капіталістычныя элемэнты вёскі, за індустрыялізацыю краіны і будаўніцтва сацыялізму на падставе высокае тэхнікі, падвышэньня творчае энэргіі працоўных.

Сацыялістычнае спаборніцтва--магутны сродак абуджэньня і арганізацыі ініцыятывы мас для выкананьня пяцігадовага пляну і разам з тым магутны сродак разьвіцьця самакрытыкі зьнізу.

Хай разгорнецца шырокае спаборніцтва ўсіх пралетараў, усіх працоўных гораду і вёскі за лепшае выкананьне задач па індустрыялізацыі савецкае краіны, па аграмаджаньню і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, па магутнаму разгортваньню каапэрацыйнага будаўніцтва, за далейшы пераможны наступ пралетарскае дыктатуры на клясавых ворагаў!

---

А. Фрыд

# Да 5-гадовага пляну саматужна-прамысловай сыстэмы каапэрацыі БССР

Асноўныя ўстаноўкі пяцігадовага пляну разьвіцьця саматужна-прамысловай сыстэмы каапэрацыі наступныя:

а) далейшы ахоп сыстэмай саматужных промыслаў і саматужнікаў павінен ісьці пераважна ў напрамку выяўленьня і арганізацыі промыслаў, што грунтуюцца на мясцовай сыравіне і не ахапляюцца прамысловасьцю, і на перасоўваньні цэнтру ўвагі сыстэмы з гораду на вёску і мястэчка;

б) удзяленьне асаблівае ўвагі разьвіцьцю промыслаў, якія задавальняюць вытворчыя і будаўнічыя патрэбы сельскае і гарадзкое гаспадаркі і патрэбы экспарту;

в) больш хуткі тэмп разьвіцьця арцельнага сэктару параўнальна з тэмпам каапэраваньня адзіночак у крэдытна-прамысловыя таварыствы;

г) падвышэньне прадукцыйнасьці працы і зьніжэньне сабекошту прадукцыі на аснове мэханізацыі працэсаў вытворчасьці і адпаведнага рэгуляваньня зарплаты;

д) падвышэньне якасьці прадукцыі саматужна-каапэрацыйнага промыслу, падвышэньне кваліфікацыі і дысцыпліны працы і паляпшэньне спосабаў унутраной яго арганізацыі;

е) правільнае пабудаваньне паю на аснове яго дыфэрэнцыяцыі і забесьпячэньне інтэнсыўнага паянакапленьня, мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў сыстэмы ў мэтах забесьпячэньня фінансаваньня яе вытворчых і гандлёвых зваротаў і капітальных укладаньняў;

ж) інтэнсыўнае ўцягненьне бядняцкіх і пралетарскіх элемэнтаў, забесьпячэньне іх выстарчальнага ўплыву і недапушчэньне кулацка-нэпманскіх элемэнтаў у сыстэму;

з) вядзеньне палітасьветнага і навучальна-вытворчага выхаваньня сярод шырокіх мас пайшчыкаў.

### Каапэраваньне

Бурны працэс росту саматужна-прамысловых арцеляй за 1926-27 і 1927-28 г. г. закранаў пераважна масы рамесьнікаў абутковага і швейнага промыслаў, які мае ў БССР вялікі рэзэрв рабочае сілы і забясьпечваецца пры пасрэдніцтве саматужна-прамысловай сыстэмы завознай дэфіцытнай сыравінай. У працягу 1927-28 году арцельны сэктар пачаў ахапляць і промыслы, якія працуюць на мясцовай і недэфіцытнай сыравіне. Гэта тэндэнцыя павінна ў працягу пяцігодзьдзя разьвівацца і перайначваць узаемаадносіны промыслаў, якія абслугоўваюцца саматужна-прамысловай каапэрацыяй, што відаць з наступнай табліцы:

| Лік членаў | 1927-28 г. | | | 1932-33 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У арт. | У тавар. | Усяго | У арт. | У тавар. | Усяго |
| А . . . . . . . . . . . . | 5449 | 11563 | 17082 | 19859 | 8029 | 27888 |
| Б . . . . . . . . . . . . | 5120 | 3095 | 8215 | 23294 | 6801 | 30095 |
| | 10569 | 14758 | 25227 | 42539 | 14830 | 57369 |

Да групы „А“ адносяцца промыслы, што працуюць на дэфіцытнай сыравіне (абутковы, швейны, мэталяапрацовачны, скураны і г. д.)

Да групы „Б“ адносяцца промыслы, якія працуюць на сыравіне мясцовай і недэфіцытнай (дрэваапрацовачны, лесахэмічны, кэрамічны і інш).

Тэмп росту каапэраваньня па арцельнай сетцы раўняецца 432 проц. у той час, як па таварыствах лік пайшчыкаў адзіночак застаецца амаль стабільным. У той-жа час для каапэраваньня ў арцелі, якія працуюць на мясцовай і недэфіцытнай сыравіне, намечаны больш хуткі тэмп, чым у арцелі, якія працуюць на сыравіне дэфіцытнай. Асабліва ўзмоцненае разьвіцьцё на працягу пяцігодзьдзя намечана па групе арцеляй, што выпрацоўваюць будаўнічыя матар'ялы і лесахэмічныя прадукты для патрэб прамысловасьці і экспарту.

Да канца пяцігодзьдзя процант каапэраваньня саматужнікаў па БССР у дачыненьні да агульнага ліку саматужнікаў і рамесьнікаў будзе складаць 54,7, замест 27 у 1927-28 г.

Валавая прадукцыя саматужна-прамысловай сыстэмы ў цэнах 1926-27 г. (у тыс. руб.).

| 1927-28 г. | | | 1932-33 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Арцелі | Таварыствы | Усяго | Арцелі | Таварыствы | Усяго |
| 301904 | 24509 | 56413 | 134766 | 26366 | 161132 |

Гадавая выпрацоўка на аднаго работніка падвышаецца ў працягу пяцігодзьдзя нязначна з прычыны няпоўнае нагрузкі дэфіцытнай сыравінай і ўцягненьня ў сыстэму новых промыслаў. Зьніжэньне сабекошту прадукцыі праэктуецца па розных промыслах ад 9,1 проц. да 28,4 проц.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвёрнута сыстэмай на падвышэньне якасьці прадукцыі, бо толькі пры гэтай умове можна будзе забясьпечыць збыт прадукцыі і канкурэнтназдольнасьць.

З узаемадачыненьняў тэмпаў росту валавой прадукцыі і каапэраваньня відаць, што саматужна-прамысловая сыстэма каапэрацыі, акрамя простай вытворчай задачы, павінна выконваць сур'ёзную задачу паглынаньня рабочай сілы і зьмякчэньня беспрацоўя, чым і тлумачыцца намечаны нязначны рост выпрацоўкі на аднаго работніка ў адзінку часу. З прычыны гэтага да канца пяцігодзьдзя зьменяцца узаемадачыненьні ролі саматужна-рамесьніцкай каапэрацыйнай прамысловасьці і прамысловасьці ВСНГБ, па якой пяцігадовы плян праэктуе значны рост прадукцыйнасьці рабочага дню.

| | 1927-28 г. | | 1932-33 г. | |
|---|---|---|---|---|
| 1. Лік занятых асоб | | | | |
| Прамысл ВСНГБ | 27755 | 100 | 67107 | 100 |
| Прам. сампрамсаюз | 25227 | 91 | 57369 | 85,5 |
| 2. Валавая прадукцыя ў цэнах 1926-27 г. | | | | |
| Прамысл. ВСНГБ | 118327 | 100 | 564107 | 100 |
| Прам. сампрамсаюз | 56413 | 48 | 161132 | 28,6 |

Як відаць з гэтае табліцы, процантныя адносіны валавой прадукцыі саматужна-каапэрацыйнай прамысловасьці, параўнальна з прамысловасьцю ВСНГБ, моцна зьніжаюцца за пяць год у той час, як процантныя адносіны ліку занятых асоб зьніжаюцца нязначна.

Абсталяваньне арцеляй інвэнтаром і забесьпячэньне іх памяшканьнямі патрабуе на працягу пяцігодзьдзя значных капітальных затрат, якія ў асноўным павінны быць пакрыты ўнутранымі накапленьнямі сыстэмы і адлічэньнямі яе ў фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня, і толькі ў невялікай частцы за лік сродкаў з бюджэтных крыніц. Найбольшыя сумы ўкладаньняў будуць накіраваны ў промыслы: керамічны, мэталяапрацовачны, дрэваапрацовачны і лесахэмічны.

Зваротныя сродкі арцельнага сэктару будуць ствараццa з паявых узносаў і часткі прыбыткаў. Дыфэрэнцыяваны пай па арцелях будзе па будаваны на прынцыпе кратных суадносін паю да месячнага заработку. Арыентыровачна можна вылічыць суму паявых капіталаў па сетцы арцеляй да канца пяцігодзьдзя ў разьмеры 5 мільёнаў руб., прыблізна такую-ж суму можна праэктаваць у выглядзе накапленьняў з прыбыткаў. Гэтымі сродкамі, акрамя крэдытаў, павінны будуць харчавацца вытворчыя і гандлёвыя звароты арцельнага і саюзнага зьвенчака сыстэмы.

Пасьпяховаму ўцягненьню ў сыстэму беднаты павінен спрыяць фонд крэдытаваньня беднаты, што ствараецца з штогодніх адлічэньняў ад прыбыткаў. Гэты фонд можна вылічыць арыентыровачна да канца пяцігодзьдзя ў 1 міл. руб.

Задача вучоту сацыяльных праслоек у сыстэме сампрамкаапэрацыі ўскладняецца рознастайнасьцю сацыяльнага складу, з якога яна камплектуецца. Чыстка радоў сыстэмы ад сацыяльна чужых элемэнтаў, якія засьмечвалі яе ў першыя гады яе разьвіцьця, і далейшае яе камплектаваньне будуць патрабаваць самае сур'езнае ўвагі.

Складанай задачай на бліжэйшае пяцігодзьдзе зьяўляецца пастаноўка прафтэхнічнае асьветы для падвышэньня кваліфікацыі і для перакваліфікацыі мас работнікаў саматужна-прамысловай сыстэмы, а таксама падрыхтоўка кадраў для тэхнічнага інструктажу. Арганізацыя для гэтай

мэты школ і курсаў будзе складаць адну з важнейшых задач саматужна-прамысловай сыстэмы і органаў НКАсьветы ў бліжэйшай пяцігодцы.

Пастаноўка правільнай і сыстэматычнай палітасьветнай работы сярод масы саматужнікаў і рамесьнікаў будзе набываць у працягу пяцігодзьдзя тым большае значэньне, чым больш сыстэма будзе ўкараняцца ў гушчу мястэчка і вёскі. Выстарчальная ўвага нашай партыйнай і савецкай грамадзкасьці да патрэб саматужна-прамысловай каапэрацыйнай сыстэмы, якая займае выдатнае месца ў эканоміцы БССР, забясьпечыць належны посьпех у яе далейшай рабоце і разьвіцьці

---

**М. Цынкоў**

# За масавую калектывізацыю!

У 1928-29 годзе, як ніколі, камуністычнай партыяй і савецкай уладай высунуты задачы па ўздыму ўраджайнасьці і рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на падставе калектывізацыі. Высунутыя задачы натолькі вялізарныя, што сотні тысяч раздробленых сялянскіх гаспадарак змогуць выконваць пастаўленыя перад імі задачы толькі шляхам масавага вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі. Толькі на гэтым шляху можна ўзьняць вытворчыя сілы сельскай і народнай гаспадаркі наогул.

Шэраг установ да гэтага часу недастаткова ўлічвалі сапраўдныя запатрабаваньні шырокіх колаў бядняцка-серадняцкага насельніцтва да справы калектывізацыі. Да гэтага часу формы і мэтады калектывізацыі, пры якіх, галоўным чынам, падыходзілі з пункту погляду абагульваньня адразу ўсіх сродкаў вытворчасьці, не стваралі і не маглі стварыць досыць спрыяючых умоў таму, каб калектывізацыя прыняла масавы характар і зрабілася магчымай для самых шырокіх колаў бядняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі.

Аб гэтым дастаткова сьведчыць тое, што нашы плянавыя органы ў пяцігадовым пляне калектывізацыі прадугледзелі ахоп калгасамі толькі 10 проц. зямельнай с.-г. плошчы Беларусі да канца пяцігодзьдзя. Вопыт калектывізацыі за апошнія 7 месяцаў 1928-29 г. паказаў тэорытычнасьць гэтых лічб і што 10 проц. недастаткова. За гэты час (з 1/X-28 г. па 25/IV-1929 г.) па БССР арганізавана 378 калгасаў на плошчы 49.106 гэкт. Пры гэтым ня ўлічана тое, што пры земляўпарадкаваньні склад гэтых калгасаў і іх памер значна павялічыцца за кошт уцягненьня новых сяброў і прырэзкі зямлі да мінімальнай і звыш мінімальнай нормы. Такім чынам, маецца ўпэўненасьць, што ахопліваемая плошча калектывізацыі ў 49.106 гэкт., як мінімум, будзе павялічана да 60-70 тысяч гэкт. Прымаючы пад увагу, што існуючыя старыя калгасы ўзбуйнены звыш, чым на 10.000 гэкт., трэба адзначыць, што плян калектывізацыі гэтага году, па якому вызначалася ахапіць 52.000 гэкт., ужо выкананы на 102 проц.

Да канца земляўпарадкуючага сэзону, уключаючы тыя калгасы, якія ўжо зарганізаваны пасьля 20/IV-29 г. і будуць яшчэ арганізоўвацца, можна ўпэўніць, што вызначаны плян ахопу плошчы будзе выкананы звыш, чым на 150 проц. Выходзячы з гэтакага разгортваньня працы за апошні час, вызначаная раней лічба ў 10 проц. ахопу плошчы пад калгасамі да канца пяцігодзьдзя пастановай усебеларускага зьезду саветаў павялічана да 16 проц. Прымаючы пад увагу, што ў сучасны момант зямельная плошча пад калгасамі складае ўсяго каля 2 проц., зусім зразумела, што тэмп разгортваньня працы па калектывізацыі яшчэ недастатковы. У далейшым неабходна ўжыць усе захады, каб да калектыўнай формы вядзеньня гаспадаркі пераходзілі цэлыя вёскі і пасёлкі, якія стваралі-б буйныя

калгасы ў 1000 гэкт. і больш. Пры масавым пераходзе цэлых вёсак і пасёлкаў у калектывы ўся работа павінна быць накіравана ў такім напрамку, каб жыльлёвыя будынкі да часу ўзмацненьня калгасу засталіся на старым месцы, а ў першы год прыступіць толькі да пабудовы гаспадарчых будынкаў, што дасьць магчымасьць накіраваць большую частку сродкаў, замест пераносу і пабудовы будынкаў, на набыцьцё прадукцыйнае жывёлы і с.-г. машын і іншыя вытворчыя працэсы гаспадаркі.

Масавая калектывізацыя ня можа вырашацца ствараньнем складаных форм калгасаў з поўным абагульваньнем адразу ўсіх сродкаў вытворчасьці, калі даводзіцца вытвараць поўную ломку індывідуальных гаспадарак. Масавая калектывізацыя павінна пачынацца ня толькі па лініі абагульваньня палявое і жывёлаводнае гаспадаркі, як галоўных галін, але можа пачынацца праз абагульваньне іншых дробных галін гаспадаркі як-то: закладка садоў, выхавальнікаў, арганізацыя калгасамі на каапэрацыйных пачатках тэхнічных прадпрыемстваў па перапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі, доўгатэрміновая кантрактацыя з пасевам агульнымі сіламі кантрактуемых культур на абагуленых вучастках і г. д.

Значную ролю ў справе масавае калектывізацыі павінны адыграць мэліорацыйныя, машынныя і жывёлаводныя т-вы, у якіх неабходна праводзіць працу, якая спрыяла-б хутчэйшаму і лягчэйшаму пераходу іх у калгасы. У першую чаргу неабходна павесьці працу па поўнаму ахопу гэтымі аб'яднаньнямі цэлых вёсак і пасёлкаў, каб потым паступова праз іх вытворчае крэдытаваньне, абагульваючы сродкі вытворчасьці і працу, яны стварылі-б сапраўдную базу па пераходу ў калектыўную гаспадарку.

Толькі пры гэтакім вырашэньні пытаньня, калі разам з арганізацыяй складаных форм калгасаў з абагульваньнем усіх сродкаў вытворчасьці павядзём шырокую працу, каб бяз ломкі вёскі, ня ўжываючы большых капітальных укладаньняў на будаўніцтва ў першыя гады, паступова абагульваць вытворчыя працэсы сельскае гаспадаркі, дык пасьпяхова выканаем вызначаны плян калектывізацыі—16 проц. зям. с.-гасп. плошчы за пяцігодзьдзе і атрымаем сапраўдны эканамічны эфэкт.

---

Дацэнт С. Л. Пэўзнэр

# Да пытаньня аб рэарганізацыі гандлёва-каапэрацыйнага цыклю факультэту права і гаспадаркі беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту ў самастойнае каапэрацыйнае аддзяленьне таго-ж факультэту

Каапэрацыйны рух у БССР натолькі разросься ў шырыню і глыбіню, што ён патрабуе ўжо цяпер ня толькі асоб, якія маюць агульныя веды аб функцыях і задачах паасобных відаў каапэрацыйных арганізацый, але мае зараз узмоцнены попыт на вузкіх спэцыялістых у тых ці іншых галінах ці частках свае работы.

З прычыны гэтага існуючы зараз гандлёва-каапэрацыйны цыкль факультэту права і гаспадаркі БДУ пазбаўлены, папершае, элемэнтарных адзнак спэцыялізацыі, хоць-ба па відах каапэрацыйнага руху, якія маюць свае асаблівасьці, і, падругое, з навучальным плянам, у якім адсутнічае цэлы шэраг дысцыплін, якія патрэбны для вывучэньня.

Адсюль паўстае вывад, да якога ўжо прышла нарада, скліканая яшчэ ў сьнежні 1928 г. галоўным інспэктарам НКАсьветы БССР па ВНУ—аб неабходнасьці рэарганізаваць гандлёва-каапэрацыйны цыкль права і гаспадаркі БДУ ў каапэрацыйнае аддзяленьне з шэрагам самастойных цыкляў. Гэтых цыкляў павінна было быць чатыры, згодна асноўным і галоўнейшым відам каапэрацыйнага руху ў БССР, а іменна: цыкль спажывецкай каапэрацыі, цыкль сельска-гаспадарчай каапэрацыі і с.-г. каапэрацыйнага крэдыту, цыкль саматужна-прамысловай каапэрацыі і цыкль жыльлёвай каапэрацыі. Аднак з прычыны таго, што жыльлёвая каапэрацыя надае попыт на асоб з вышэйшай спэцыяльнай асьветай на бліжэйшае 5-годзьдзе ўсяго ў колькасьці да 30 чалавек, паводле фінансавых меркаваньняў, не рацыянальна адчыненьне самастойнага цыклю жыльлёвае каапэрацыі, і таму каапэрацыйнае аддзяленьне павінна быць адчынена ў складзе першых трох вышэйпаданых цыкляў.

Каго-ж змогуць рыхтаваць гэтыя цыклі?

*Па цыклю спажывецкай каапэрацыі*—спэцыялістых і кіраўнікоў наступных галін каапэрацыйнай работы ў Белкаапсаюзе, яго 5 аддзяленьнях, 4 акруговых саюзах і 17 ЦРК:

а) у галіне рэвізійнай, справаздачна-фінансавай, арганізацыйнай і рацыяналізатарскай работы, падрыхтоўваючы інструктароў-рэвізораў і арганізатараў, рацыяналізатараў, загадчыкаў фінансавымі і справаздачнымі аддзеламі;

б) у галіне плянава-эканамічнай—эканамістых-плянавікоў і эканамістых-статыстыкаў;

в) у галіне гандлёвай работы—кіраўнікоў гандлёвымі аддзеламі каапэрацыйных арганізацый (у ЦРК і буйных сельскіх шматкрамах);

г) у галіне культурна-асьветнай работы—арганізатараў і кіраўнікоў культработай, а таксама інструктароў-культурнікаў у саюзах і ЦРК.

На бліжэйшае пяцігодзьдзе патрэбнасьць спажыўкаапэрацыі БССР у вышэйпаданых работніках, па дадзеных Белкаапсаюзу і нашых карэктывах, узгодненых з праўленьнем Белкаапсаюзу, вылічаецца ў наступных лічбах: да канца 1932-33 году будзе патрэбна для Белкаапсаюзу, яго 4 аддзяленьняў і 4 акрспажыўсаюзаў:

інструкт.-арганіз. эканам.-плян. і экан. статыст. 30, інструктароў-культурнікаў 12, тавараведаў 24;

для ЦРК:

інструктараў-арган. і эканамістых 20, інструктароў-культурнікаў 17, тавараведаў па прам. тавар. і с.-г. тав. 30; для буйн. сел.-т. і местачковых таварыстваў заг. гандлёвым і аргаддзелам 25.

Акрамя работнікаў для спажыўкаапэрацыі, па цыклю спажыўкаапэрацыі трэба будзе сканцэнтраваць падрыхтоўку працаўнікоў і для жылкаапэрацыі.

Жыльлёвая каапэрацыя—найбольш малады від каапэрацыйнага руху ў БССР. Ня маючы папярэднікаў у мінулым, у дарэвалюцыйны пэрыод і ўзьнікнуўшы ў СССР толькі ў 1924 г., гэты від каапэрацыі, натуральна, ня мае кадру спэцыялістых, якія ствараліся паступова ў папярэднія гады, і таму гэты від каапэрацыі асабліва адчувае патрэбу ў адказных і кваліфікаваных служачых.

Цыкль спажывецкай каапэрацыі каапэрацыйнага аддзяленьня здолеў бы падрыхтаваць для гэтага віду каапэрацыі наступных работнікаў, у якіх асабліва востра адчуваецца патрэба, а менавіта:

**у акруговых і гарадзкіх саюзах жылкаапэрацыі:**

1) інструктараў-арганізатараў ЖАКТ'аў і жылбудкаапэратываў;
2) інструктараў-культурнікаў і па аграмаджаньні быту;
3) эканамістых і плянавікоў і эканамістых статыстыкаў.

У БССР у сучасны момант да 82 ЖАКТаў і 61 жылбудкаапэратыў. Грунтуючыся на пэрспэктыўным 5 гадовым пляне разьвіцьця жылкаапэрацыі ў БССР, патрэбнасьць у інструктарох-арганізатарах на бліжэйшае пяцігодзьдзе ў 12 чалавек і інструктарох-культурніках 11 чалавек, эканамістых 7 чалавек.

Усяго па лініі жыльлёвай каапэрацыі на бліжэйшае 5-годзьдзе патрэбна будзе 30 кваліфікаваных работнікаў, ці ў сярэднім у год 6 чал.

Выходзячы з штогодняе патрэбы беларускай спажыўкаапэрацыі ў новых работніках высокай кваліфікацыі ў колькасьці звыш 30 чалавек і для жылкаапэрацыі ў колькасьці 6 чалавек, трэба будзе ўстанавіць увосень 1929-30 навучальнага году такі прыём студэнтаў на каапэрацыйнае аддзяленьне, які забясьпечваў-бы вышэйадзначаны попыт беларускай спажывецкай і жыльлёвай каапэрацыі, г. зн. арыентыровачна прыняць на цыкль спажыўкаапэрацыі ня менш 45 чалавек, бо да канца вучобы магчымы адсеў ня менш чым у 25 проц. колькасьці студэнтаў, прынятых на 1-ы курс.

## Па цыклю сельска-гаспадарчай каапэрацыі і сельска-гаспадарчага каапэрацыйнага крэдыту

Аддзяленьне зможа ўзяць на сябе падрыхтоўку спэцыялістых у наступных галіанх:

а) у галіне арганізацыйнай і інструктарскай работы—у сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту, выпушчаючы інструктароў і рэвізораў для Белсельбанку, Белсельсаюзу, акруговых сельбанкаў, акруговых сельска-гаспадарчых і крэдытных саюзаў;

б) у галіне эканамічна-плянавай работы, падрыхтоўваючы эканамістых-плянавікоў і эканамістых-статыстыкаў для цэнтральных і акруговых саюзаў с. г. і с.-г. крэдытнай каапэрацыі;

в) апэрацыйна-гаспадарчай работы, выпушчаючы асоб, якія могуць заняць пасады членаў праўленьня ў буйных с.-г. крэдытных таварыствах, таварыствах с.-г. крэдыту, крэдытсаюзах і загадчыкаў гандлёва-апэрацыйным аддзелам у саюзах с.-г. каапэрацыі;

г) у галіне справаздачна-фінансавай работы, выпушчаючы асоб, якія могуць заняць пасады загадчыкаў фінансавымі часткамі саюзаў с.-г. каапэрацыі, а таксама бухгальтараў для гэтых арганізацый.

Усяго па сыстэме с.-г. каапэрацыі патрэба ў кваліфікаванай рабочай сіле на бліжэйшае пяцігодзьдзе можа быць вылічана ў наступных лічбах: 1928-29 г.—38 чалавек, 1929-30 г—61 чал., 1930-31 г.—39 чал., 1931-32 г.—32 чал., 1932-33 г.—32 чал., а ўсяго—202 чалавекі.

Выходзячы з таго, што с.-г. каапэрацыя, як, між іншым, і другія віды каапэрацыі, ня можа поўнасьцю задаволіць свае патрэбнасьці ў бліжэйшыя 2-3 гады, для арыентыроўкі можна прыняць, што к канцу пяцігодзьдзя ў 1932-33 годзе сыстэма с.-г. каапэрацыі будзе мець патрэбу ня менш, чым у 35 асобах высокай кваліфікацыі. З прычыны гэтага для забесьпячэньня будучага цыклю с.-г. каапэрацыі і с.-г. крэдыту належнай колькасьцю студэнтаў, што будуць выпушчацца ў 1932-33 годзе, трэба будзе прыняць увосень 1929-30 г. на каапэрацыйнае аддзяленьне ня менш 45 чалавек, улічваючы магчымы адсеў у тыя-ж 25 проц., што і па цыклю спажыўкаапэрацыі.

## Па цыклю саматужна-прамысловай каапэрацыі

Каапэрацыйнае аддзяленьне зможа падрыхтаваць наступных спэцыялістых для работы ў саюзах саматужна-прамысловай каапэрацыі БССР:

а) інструктараў-арганізатараў вытворчых арцеляй і крэдытна-прамысловых таварыстваў;

б) інструктараў-культурнікаў;

в) эканамістых-плянавікоў і эканамістых-статыстыкаў;

г) тавараведаў для заняцьця адказных пасад у гандлёвых аддзелах саюзаў;

д) бухгальтараў буйных саматужна-прамысловых арцеляй і заг. фінансавымі часткамі саюзаў.

І па лініі саматужна-прамысловай каапэрацыі поўнасьцю забясьпечваецца ў сярэднім штогодняе разьмяшчэньне звыш 20 чалавек спэцыялістых па гэтаму віду каапэрацыі. З прычыны таго, што ў саматужна-прамысловай каапэрацыі найбольшая патрэба ў кваліфікаваных спэцыялістых адчуваецца ў бягучым 1928-29 г. (якая, відавочна, з прычыны адсутнасьці на рынку працы адпаведных спэцыялістых будзе мець месца і ў 1929-30 г.) і потым зьмяншаецца ў наступныя гады, таму трэба будзе для забесьпячэньня патрэбы саматужна-прамысловай каапэрацыі ў спэцыялістых ў 1932-33 г. прыняць увосень 1929-30 навучальнага году на каапэрацыйнае аддзяленьне для будучага цыклю саматужна-прамысловай каапэрацыі толькі 20 чалавек.

З паданага відаць, што каапэрацыя БССР на бліжэйшае 5-годзьдзе прад'яуляе попыт на кваліфікаваную рабочую сілу, якую здолее падрыхтаваць каапэрацыйнае аддзяленьне факультэту права і гаспадаркі БДУ у наступных лічбах:

| ГАДЫ | Спэц. па спаж. каапэрац. | Спэц. па с.-г. каапэрац. | Спэц. па сам.-прам. каапэр. | Спэц. па жыльлёв. каапэрац. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 28 | 38 | 45 | 9 | 119 |
| 1929-30 г. | 34 | 61 | 15 | 7 | 117 |
| 1930-31 г. | 33 | 39 | 16 | 6 | 93 |
| 1931-32 г. | 31 | 32 | 16 | 4 | 83 |
| 1932-33 г. | 32 | 32 | 27 | 4 | 85 |
| Усяго | 158 | 202 | 119 | 30 | 497 |

З прычыны таго, што існуючы зараз гандлёва-каапэрацыйны цыкль факультэту права і гаспадаркі БДУ ў бягучым 1928-29 г. канчае толькі 17 чалавек і на III-м курсе гэтага цыклю знаходзіцца 26 чалавек, з якіх скончаць асьвету ў будучым 1929-30 г., напэўне, ня больш 23 чалавек, трэба ясна заявіць, што патрэба беларускай каапэрацыі ў кваліфікаванай рабочай сіле на бліжэйшыя два гады БДУ здолее здаволіць толькі ў разьмеры 14,5 проц. у 1928-29 г. і 20,1 проц. у 1929-30 г.

Што датычыцца наступных год, дык, прымаючы пад увагу, што на II курсе эканамічнага аддзяленьня права і гаспадаркі ёсьць зараз 120 чалавек, на I-м курсе 142 чал. і што ня менш 30 проц. з гэтае колькасьці студэнтаў (мяркуючы па практыцы разьмеркаваньня студэнтаў на III і IV курсах цяперашняга складу эканамічнага аддзяленьня) захоча спэцыялізавацца па каапэрацыйных навуках,—БДУ здолее забясьпечыць патрэбу беларускай каапэрацыі ў спэцыялістых вышэйпаданых спэцыяльнасьцяй у

памеры 39 проц у 1930-31 г. і 46 проц.—у 1931-32 г., бо ў 1930-31 г. змогуць скончыць каапэрацыйнае аддзяленьне 35-36 чалавек і ў 1931-32 г. 40-45 чалавек.

Поўнасьцю забясьпечыць патрэбы беларускай каапэрацыі ў кваліфікаваных спэцыялістых БДУ здолее толькі ў 1932-33 г. пры ўмове, што ўвосень 1929-30 навучальнага году будзе прынята на новае аддзяленьне ня менш 95-100 чалавек, якія па асобных цыклях павінны быць разьмеркаваны наступным чынам:

на цыкль спажывецкай каапэрацыі . . . . . . . . 40-45 чал.
„ „ с.-г. каап. і с.-г. крэдыту . . . . . . . . 35 „
„ „ саматужна-прамсысловай каапэрацыі . . . 20 „

*(Працяг у наступным нумары)*

---

**А. Чумак**

# Аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў спажывецкай каапэрацыі

*(У парадку абгаварэньня)*

На працягу апошніх гадоў спажывецкая каапэрацыя выявіла буйны рост свае гаспадарчай і арганізацыйна-культурнай работы і з году ў год займае ўсё большую і большую ўдзельную вагу ў эканоміцы краіны. Партыяй і савецкай уладай перад каапэрацыяй пастаўлены задачы рашучага і арганізаванага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пры адначасовым узмацненьні тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва краіны. Усё гэта высоўвае каапэрацыю на адно з першых месц сацыялістычнага фронту і патрабуе ад апошняй выразнае клясавае лініі ў штодзённай сваёй дзейнасьці і максымальнага паляпшэньня якасьці гаспадарчай і арганізацыйна-культурнай работы.

Пасьпяхова-ж выканаць паказаныя задачы каапэрацыя можа толькі ва ўмовах наяўнасьці выстарчальных па колькасьці і якасьці грамадзкіх ініцыятыўных, клясава-вытрыманых, дзейных сіл, якія могуць і здольны быць праваднікамі палітыкі напружанага і ўпартага будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі. Між тым, мы можам канстатаваць рэзкую неадпаведнасьць між складам каапэрацыйных кадраў, што ў нас ёсьць, і тымі запатрабаваньнямі, якія да іх прад'яўляюцца.

На падставе шматлікіх фактаў мы сёньня можам сьмела гаварыць, што становішча каапэрацыйных кадраў у нашай спажыўсыстэме не здавальняючае. Наш каапэрацыйны, галоўным чынам нізавы, апарат у значнай меры засьмечаны сацыяльна-чуждымі элемэнтамі (былыя гандляры, кулакі-растратчыкі, элемэнты, якія абюракраціліся і разлажыліся і г. д.), якія ня могуць працаваць у каапэрацыі. Дзякуючы росту работы і цякучасьці кадраў працаўнікоў каапэрацыі наш каапэрацыйны апарат па якасьці свае кваліфікацыі таксама ў значнай меры адстае ад ступені тых запатрабаваньняў, якія да яго сёньня прад'яўляюцца.

Усё гэта падсказвае нам, аб неабходнасьці завастрыць увагу ўсіх арганізацый нашае сыстэмы на пытаньнях паляпшэньня нашага каапэрацыйнага апарату, шляхам разьвіцьця плянавых мерапрыёмстваў у галіне каапэрацыйнай асьветы, якая забясьпечвала-б каапэрацыю плянамернай і шырокай прытокай у каапэрацыйныя арганізацыі новых падрыхтаваных сіл

і замену імі сацыяльна-чуждых элемэнтаў, элемэнтаў, што разлажыліся і абюракраціліся, і наогул нягодных элемэнтаў каапэрацыйнага апарату. Галоўным і пераважным пастаўшчыком тых кадраў, якія праходзяць вучобу, павінен быць рабочы, батрацкі, бядняцкі і лепшай часткі серадняцкі каапэрацыйны актыў.

Вось чаму ўсю работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы неабходна ўвязаць з работай нізавога каапэрацыйнага актыву. У рабоце з каапактывам трэба знаёміць яго з бягучай дзейнасьцю і чарговымі задачамі каапэрацыі і забясьпечыць далейшае прасоўваньне яго на больш адказную каапэрацыйную работу і вучобу.

Першапачатковым зьвенчаком каапэрацыйнай вучобы трэба лічыць каапэрацыйны гурток і школу каапэрацыйнай граматы з кіраўнікамі, а таксама гурткі завочнага навучаньня.

Трэба паставіць задачай гурткамі ахапіць усіх упаўнаважаных, членаў крамкамісій, аргасьветкамісій, праўленьняў, рэвізійных камісій і іншых відаў каапэрацыйнага актыву, а таксама пайшчыкаў, якія найбольш цікавяцца.

З гэтай мэтай трэба ў 1929-30 г. мець ня менш як адзін каапэрацыйны гурток або школу каапэрацыйнай граматы пры кожным спажывецкім таварыстве і па аднэй аднагадовай каапшколе для актыву ў кожным ЦРК, пры чым асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўцягненьне ў такія гурткі рабочых, калгасьнікаў, батракоў, беднякоў і саўгасскіх рабочых. Трэба, каб склад гэтых гурткоў і школ улічваўся і вывучаўся каапарганізацыямі з мэтай прасоўваньня іх для далейшай вучобы і работы.

Да гэтага часу каапэрацыйныя гурткі слаба працавалі і часта зусім развальваліся з-за адсутнасьці і невыстарчальнай зацікаўленасьці іх работай кіраўнікоў, а таксама адсутнасьці падручнікаў. Улічваючы гэта трэба ўвесьці ў практыку аплату кіраўнікоў, гурткоў за кошт кульдфондаў і сваечасова забясьпечыць каапгурткі і школы праграмамі і патрэбнымі падручнікамі. Для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў каапэрацыйных гурткоў і школ каапэрацыйнай граматы трэба практыкаваць правядзеньне пры райсаюзах кароткатэрміновых курсаў-сэмінараў і метадычных нарад, а таксама арганізоўваць курсы прапагандыстых з большым тэрмінам навучаньня. Больш фундамэнтальным і мэтазгодным мерапрыемствам у падрыхтоўцы каапактыву можа быць арганізацыя, прыкладна, 2-месячных каапэрацыйных школ-перасовак з сталымі добра падрыхтаванымі кіраўнікамі. У 1929-30 годзе павінна быць арганізавана па аднэй такой школе ў кожнай акрузе.

Акрамя гэтага, трэба разьвіць сетку гурткоў завочнай каапэрацыйнай адукацыі, практыкуючы выпіску для груп актывістых і пайшчыкаў за кошт культфонду спажывецкіх таварыстваў і ЦРК камплектаў завочных курсаў Цэнтрасаюзу і інш. Для падрыхтоўкі каапэрацыйнага актыву да бягучых задач каапэрацыі і ўзмацненьня яго каапэрацыйнай граматнасьці ў кожным адміністрацыйным раёне трэба пэрыодычна, ня менш 2 раз у год, праводзіць тыднёвыя курсы-зьезды каапактыву.

Вялікае значэньне ў справе падрыхтоўкі культурных каапэрацыйных працаўнікоў і каапэрацыйнага актыву для нізовай каапэрацыйнай сеткі павінны адыгрываць школы сялянскай моладзі (ШСМ) і школы канторскагандлёвага вучнёўства (канторвуч), а таксама сямігодкі з каапэрацыйным ухілам. Да гэтага часу пака-аныя навучальныя ўстановы зусім мала скарыстаны для падрыхтоўкі рабочай, батрацкай і бядняцкай моладзі на каапэрацыйную работу. З боку каапэрацыйных арганізацый гэтым школам была аддана невыстрачальная ўвага. З мэтай сапраўднага і мэтазгоднага

іх скарыстаньня трэба паставіць перад Наркамасьветы пытаньне аб ўвядзеньні ў навучальныя пляны ШСМ больш важных прадметаў і практычных заняткаў аб каапэрацыі і аб наданьні аднэй ШСМ у кожнай акрузе і некалькім сямігодкам ў гарадох каапэрацыйнага ўхілу з больш дэталёвым вывучэньнем тэорыі і практыкі каапэрацыі з мэтай падрыхтоўкі вучняў да непасрэднай работы ў нізавой сетцы каапэрацыі ў якасьці прадаўцоў, загатоўцаў, членаў праўленьняў і проста каапактывістых

Не малую ўвагу ўсіх каапэрацыйных арганізацый павінна займаць пытаньне кваліфікацыі бронь-падросткаў, трэба ўжыць меры да стопроцантнага ахопу школамі канторвучу ўсяе броні падлеткаў

Бронь-падлеткі Менскага ЦРК вучацца ў канторвучы. З 1929-30 году трэба адчыніць школы канторвучу пры Віцебскім і Гомельскім ЦРК. У тых мясцох, дзе па ўмовах не магчыма арганізаваць канторвуч, трэба стварыць брыгады вучнёўства, устанавіўшы праграмнасьць і адказнасьць за навучаньне. У спажывецкіх таварыствах бронь-падлеткі павінны быць таксама прымацаваны да асобных спэцыялістых.

Навучальныя пляны і праграмы школ канторвучу павінны быць прыстасаваны да падрыхтоўкі неабходных для каапэрацыі работнікаў: падрыхтоўка павінна ісьці пераважна па лініі гандлёвых спэцыяльнасьцяй—культурных прадаўцоў.

Усе вышэйпаданыя школы трэба зьвязаць з каапэрацыйнымі арганізацыямі, з мэтай сталага ўдзелу спажывецкай каапэрацыі ў іх кіраўніцтве. Вучняў зьвязаць з штодзённай грамадзка-каапэрацыйнай работай, зацікавіць іх каапэрацыяй і г. д.

Трэба дабіцца ўвядзеньня сыстэмы практыкі вучняў гэтых школ і правільнага скарыстаньня іх на рабоце.

Каапэрацыйныя арганізацыі на мясцох павінны прыняць актыўны ўдзел у камплектаваньні каапшкол. Зусім неабходна матар'яльнае ўзмацненьне каапшкол шляхам удзелу ў абсталяваньні габінэтаў і інтэрнатаў іх, стыпэндый і г. д. Кожнае буйнае спажывецкае таварыства, па нашай думцы, павінна мець аднаго стыпэндыята ў ШСМ з ліку батрацкай і бядняцкай моладзі, з мэтай скарыстаньня іх па сканчэньні на практычнай рабоце ў сваім спажыўтаварыстве.

Каапэрацыйных работнікаў з сярэдняй кваліфыкацыяй да гэтага часу падрыхтоўваў каапэрацыйны тэхнікум. У апошнія два гады ўкамплектаваньне тэхнікумаў рабілася галоўным чынам практычнымі работнікамі нізавой сеткі каапэрацыі, што значна палепшыла склад вучняў тэхнікуму. Патрэбнасьць у працаўнікох з сярэдняй спэцыяльнай кваліфікацыяй для нашай сыстэмы зьяўляецца і на другі час будзе зьяўляцца вялікаю.

Па настойлівасьці каапэрацыйных цэнтраў, у тым ліку і Белкаапсаюзу, пастановаю адпаведных дырэктыўных органаў кааптэхнікум з гэтага году рэарганізуецца: адчыняецца чацьверты падрыхтоўчы курс і таваразнаўчае аддзяленьне. Таксама з бягучага году адчыняецца таваразнаўчая каапэрацыйная прафшкола.

Каапэрацыйны тэхнікум і таваразнаўчая школа павінны будуць зьяўляцца сур'ёзнымі пастаўшчыкамі асноўнай кваліфікаванай сілы для нізавой сеткі спажыўсыстэмы.

Укамплектаваньне тэхнікуму і ў далейшым павінна адбывацца практычнымі працаўнікамі каапэрацыі і перадавога рабочага і сялянскага каапактыву. Для высоўваньня на каапэрацыйную вучобу каапэрацыйнага актыву з батракоў і беднякоў, асьвета якіх у большасьці яшчэ зусім нізкая, трэба паставіць пытаньне перад НКАсьветы аб арганізацыі на аб'яднаныя сродкі дзяржбюджэту і каапэрацыі пры кааптэхнікуме курсаў для падрыхтоўкі гэтых гру : насельніцтва да паступленьня ў кааптэхнікум.

Перад 1929-30 навучальным годам трэба перагледзець навучальны плян і праграму спажывецкага аддзяленьня кааптэхнікуму з мэтай прыстасаваньня іх да рэальных патрэб сыстэмы і ўдасканаленьня мэтавай ўстаноўкі тэхнікуму. З мэтай лепшага забясьпечаньня тэхнікуму навуковымі сіламі і большай сувязі тэхнікуму з цэнтрам спажыўсыстэмы трэба яшчэ раз узьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб пераводзе яго ў цэнтр рэспублікі—г. Менск.

У першы раз у гэтым годзе спажыўсыстэма атрымлівае нязначную колькасьць падрыхтаваных працаўнікоў выпуску Белдзяржунівэрсытэту. З 1929-30 навучальнага году пры БДУ павінна адчыніцца спэцыяльнае каапэрацыйнае аддзяленьне, якое, бязумоўна, павінна сваёй падрыхтоўкай папаўняць нашу сыстэму работнікамі вышэйшай кваліфікацыі.

Правільнае скарыстаньне БДУ і сярэдніх навучальна-каапэрацыйных устаноў патрабуе сур'ёзнае арганізацыі практыкі вучняў у каапэрацыйных арганізацыях і правільнага разьмеркаваньня і мэтазгоднага скарыстаньня скончыўшых на практычнай рабоце ў сыстэме спажыўкаапэрацыі.

Штогодна ў апарат спажыўсыстэмы ўліваюцца сотні новых каапэрацыйных работнікаў, якія ня маюць дастатковае агульнае і спэцыяльнае падрыхтоўкі. Побач з гэтым трэба адзначыць зусім невыстарчальную кваліфікацыю нават і ў тых работнікаў, якія ўжо некаторы час працуюць у апараце спажыўкаапэрацыі. Калі прыняць пад увагу яшчэ тое, што наш каапэрацыйны апарат у значнай меры засьмечаны чужымі нам па сваёй ідэалёгіі, якія ў хуткім часе падлягаюць зьмене, дык перад намі з усёй вострасьцю становіцца задача курсавой падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі каапэрацыйных работнікаў з рабочых, батракоў, бядняцка-серадняцкага сялянства як нанава ўцягнутых у каапэрацыйны апарат, так і стала ў ім працуючых.

У мінулым годзе ўпяршыню ў спажыўсыстэме Беларусі была праведзена шырокая перападрыхтоўка каапэрацыйных работнікаў нізавой сеткі. За гэты час праз курсы перападрыхтоўкі пры райсаюзах перападрыхтавана 669 чалавек, з якіх членаў праўленьняў 80 чал., членаў рэвізійных камісій 23 чал., рахункаводаў 20 чал., прыказчыкаў і загатоўцаў 138 чал., кіно-работнікаў 9 чал. Бязумоўна, што гэтыя курсы садзейнічалі значнаму росту каапэрацыйных ведаў работнікаў і ўздыму іх кваліфікацыі.

Але ўсё-ж тая курсавая работа, якая праводзілася Белкаапсаюзам, райсаюзамі і ЦРК у мінулым годзе, зусім невыстарчальна і, акрамя таго, мае цэлы шэраг буйных недахватаў.

Мы маем зусім нязначны ахват работнікаў рознымі курсамі. У адносінах да ўсяго ліку працуючых перападрыхтавана членаў праўленьняў 10,2 проц., членаў рэвіз. камісій 2,1 проц., рахункаводаў 40,8 проц., прыказшчыкаў і загатоўцаў 7 проц., кіно-мэханікаў 64 проц. Вялікі процант работнікаў, якія вызначаны прайсьці курсы падрыхтоўкі пры райсаюзах, не зьявіліся на курсы (па Менскім аддзяленьні не зьявілася 43 проц., Гомельскім райсаюзе—53 проц. Віцебскім—34 проц. і г. д.), што тлумачыцца недаацэнкай з боку некаторых спажыўтаварыстваў патрэбы падрыхтоўчых мерапрыемстваў, за днаго боку, і ўскладаньне некаторымі райсаюзамі вялікай часткі выдаткаў на курсах на дробныя спажыўтаварыствы—з другога.

Сярод працаўнікоў, якія прайшлі курсы перападрыхтоўкі вельмі вялікі процант служачых (па Менскім аддзяленьні—72,3 проц., па Дняпросаюзу—61,8 проц.) за кошт малога ліку рабочых і сялян. У некаторых райсоюзах адсутнічалі загадчыкі курсамі, што адбівалася на арганізацыйна-мэтадычным кіраўніцтве курсамі. Нездавальняючы склад і недахват лекцыйных сіл, урэшце кароткатэрміновасьць курсаў (ад 5 да 14 дзён).

Адзначанае вышэй становішча высоўвае перад намі задачу каранное рэарганізацыі нашае курсавое работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы

работнікаў. Гэта карэнная рэарганізацыя павінна выявіцца ў тым, каб ад эпізадычных арганізацыйных форм і мэтадаў падрыхтоўкі перайсьці да сыстэматычных мерапрыемстваў, якія павінны выявіцца ў арганізацыі пры Белкаапсаюзе і ўсіх райсоюзах стала дзейнічаючых курсаў са зьменным складам.

Сталадзейнічаючыя курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі каапэрацыйных работнікаў павінны быць створаны пры райсоюзах—для перападрыхтоўкі работнікаў сельскіх спажывецкіх таварыстваў: членаў праўленьняў, членаў рэвізыйных камісій, гандлёва-загатоўчых; пры Белкаапсаюзе—для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі старшынь і членаў праўленьняў спажывецкіх таварыстваў.

Побач з гэтым павінны існаваць эпізодычныя курсы пры БКС для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў райсоюзаў і ЦРК, а таксама і спажыўтаварыстваў тых спэцыяльнасцяй, якія наогул у сетцы райсаюзу складаюць невялікую колькасьць, і іх падрыхтоўка і перападрыхтоўка магчымы і мэдазгодны толькі ў цэнтралізаваным парадку. Гэтыя катэгорыі і спэцыяльнасьці наступныя: вучастковыя інструктары, інстуктары-асьветнікі, прапагандыстыя, мясьнікі, кніжнікі кіно-мэханікі, прадаўцы гародніны і садовіны і г. д. Пры райсоюзах падобныя курсы павінны склікацца для рахункаводаў, членаў крамных і аргасьветных камісій і г. д.

Пры буйных ЦРК (Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск і г. д.) неабходна арганізаваць аднагадовыя школы для працаўнікоў прылаўку, з падразьдзяленьнем на цыклі па асобных спэцыяльнасьцях. Працаўнікі прылаўку, якія праходзяць школу, павіны звальняцца, прыкладна, на 4 гадзіны ад сталае работы за прылаўкам. У тых цэрабкопах, дзе па тых ці іншых прычынах немагчыма арганізацыя аднагадовых школ павінны працаваць па прыкладу Гомельскага ЦРК, вытворчыя гурткі працаўнікоў прылаўку, з частковай аплатай спэцыялістых, якія будуць весьці ў іх заняткі.

Тэрмін навучаньня на курсах павінен быць, бязумоўна, павялічаны і для асобных катэгорый працаўнікоў быць прыкладна такім: 1) на стала-дзейнічаючых курсах пры БКС для старшынь і членаў праўленьня спажыўтаварыстваў—5 мес., пры райсаюзах для членаў праўленьня спажыўтаварыстваў—3 мес., для членаў рэвіз. камісій спажыўтаварыстваў 1 мес., для прадаўцоў і загатоўцаў—1 месяц; 2) на эпізодычных курсах пры БКС для вучастковых інструктараў—2 мес., інструктараў-асьветнікаў—1½ мес., прапагандыстых—1 мес., мясьнікоў—1 мес., прадаўцоў гародніны і садовіны, загадчыкаў сталовых—9 мес., кніжных працаўнікоў—1 мес., кіно-мэханікаў—1 мес., жанкаапактыву—2 мес.; пры райсоюзах—рахункаводаў—2 тыдні, членаў крамавых і аргасьветных камісій—2 тыдні.

Як правіла, на працягу 1929-30 г. павінна быць перападрыхтавана ня менш 35% асноўнага складу выбарчых і платных працаўнікоў спажывецкага таварыства і спэцыялістых райсаюзаў. Дзеля гэтага трэба своечасова падрыхтавацца і скласьці зусім рэальныя пляны перападрыхтоўкі працаўнікоў з паказаньнем колькасьці работнікаў, якія павінны быць перападрыхтаваны па асобных катэгорыях і спэцыяльнасьцях, чаргаваць і тэрміны перападрыхтоўкі кожнай катэгорыі. Ва ўмовах бесперапыннасьці курсаў, калі курсы становяцца самастойнай вучэбнай адзінкай, загадваньне апошнімі павінна быць ускладзена на спэцыяльнага працаўніка, а калі гэта па тых ці іншых прычынах зрабіць немагчыма, павінны быць ускладзены на аднаго з работнікаў саюзу.

Для курсаў трэба знайсьці сталае вучэбнае памяшканьне, інтэрнаты, якія павінны быць задаволены спэцыяльнымі школьнымі прыладамі і адпаведным абсталяваньнем. Дзеля гэтага пры курсах трэба арганізаваць сталыя бібліотэкі і каапэрацыйныя габінэты тавараз наўства, загатовак і г. д.,

якія павінны мець усе неабходныя для курсаў падручнікі і экспанаты і сыстэматычна папаўняцца імі. У прыватнасьці пры БКС трэба арганізаваць каапэрацыйны музэй.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на камплектаваньне курсаў. Улічваючы зусім невыстарчальную праслойку рабочых і батракоў у складзе інструктароў і старшынь і платных членаў праўленьняў спажывецкіх таварыстваў, а таксама вялікі недахват у падрыхтаваных работніках паказаных катэгорый, трэба побач з перападрыхтоўкай ужо працуючых адначасова весьці падрыхтоўку новых кадраў з рабочых, батракоў і бяднейшага сялянства. Пры камплектаваньні курсаў работнікаў іншых катэгорый і спэцыяльнасьцяй трэба больш увагі зьвярнуць на паляпшэньне іх сацыяльнага складу.

Для зьнішчэньня зьявішч значнае няяўкі на курсы работнікаў спажыўтаварыстваў перанесьці па меры неабходнасьці матар'яльныя траты слабых спажыўтаварыстваў на кошт райсаюзаў. Для замены ад'яжджаючых на курсы практыкаваць перакіданьне працаўнікоў часова з другіх месц. З мэтай падбору аднастайнага па свайму агульнаму разьвіцьцю складу курсантаў трэба рабіць пры прыёме на курсы калёквіум. У падборы кандыдатур на мясцох трэба, каб удзельнічалі інструктары райсаюзаў.

Разам з органамі Наркамасьветы трэба вызначыць кадр сталых выкладчыкаў. Для чытаньня лекцый па спэцыяльных прадметах павінны быць выкарыстаны сілы саміх арганізацый. Востры недахват лектароў-спэцыялістых паказвае нам на неабходнасьць мець пры Белкаапсаюзе спэцыяльнае лекцыйнае бюро з спэцыялістых найбольш важных спэцыяльнасьцяй. З гэтай мэтай мэтазгодна нават запрасіць для работы ў БССР спэцыялістых з іншых буйных гарадоў.

Падрыхтоўка і высоўваньне жанчын на каапэрацыйную работу яшчэ невыстарчальная. На курсах перападрыхтоўкі работнікаў пры райсаюзах зусім мала жанчын (Віцебск—9 проц., Менск—12 проц. і г. д.). У гэтым годзе ў першы раз пры БКС былі праведзены 2-месячныя курсы жанкаапактыву, на якіх, галоўным чынам, навучаліся батрачкі і сялянкі-бяднячкі.

Правядзеньне падобных курсаў жанкаапактыву трэба практыкаваць у далейшым, паставіўшы мэтай падрыхтоўку з работніц, батрачак, бяднячак і серадняччак практычных работнікаў у каапэрацыі. На курсах перападрыхтоўкі работнікаў пры райсаюзах і БКС ня менш 25 проц. павінна быць жанчын.

Тое-ж самае можна сказаць і аб падрыхтоўцы каапрацаўнікоў з нацменшасьцяй, асабліва палякаў і г. д. Трэба больш сур'езна паставіць пытаньне аб тым, каб каапэратывы ў нацыянальных мясцовасьцях абслугоўваліся работнікамі адпаведных нацыянальнасьцяй. Дзеля гэтага патрэбна павялічэньне пасылкі нацменаў на курсы каапшколы, у тэхнікум і г. д.

Вышэйпералічаныя мерапрыемствы патрабуюць вялікіх матар'яльных затрат. За апошні год выдаткаваньне культфондаў на навучальна-курсавую работу ў сілу росту яе значна павялічылася. Пастановаю сэсіі савету БКС з 1928-29 году створаны цэнтралізаваныя фонды і цэнтральны стыпэндыяльны фонд, што дае магчымасьць больш плянамернага і мэтазгоднага скарыстаньня сродкаў на падрыхтоўку і перападрыхтоўку.

Памер выдаткаваньня сродкаў на навучальна-курсавыя мерапрыемствы павінен быць і ў далейшым у адпаведнасьці з пастановай праўленьня Белкаапсаюзу: райсаюзы—ня менш 35 проц. і ЦРК—ня менш 40 проц. свайго культфонду на курсавыя мэты і 10 проц. адлічэньняў з культфондаў у цэнтральны стыпэндыяльны фонд. Аднак, у выпадку недахвату сродкаў для правядзеньня самых неабходных курсавых мерапрыемстваў не патрэбна абмяжоўвацца скарыстаньнем толькі паказаных сродкаў, а абгаварыць пытаньне на прадмет папаўненьня навучальна-курсавога фонду з іншых крыніц.





Разам з тым трэба ўжыць самыя жорсткія захады да рацыянальнага выдаткаваньня сродкаў.

Наша сыстэма павінна поўнасьцю скарыстоўваць месцы, якія ёй прадастаўляюцца на курсах і навучальных установах Цэнтрасаюзу. Некаторыя-ж арганізацыі на месцах з прычыны нежаданьня траціць шмат сродкаў, часамі ўхіляюцца ад скарыстаньня месц на курсах, якія ім БКС прадастаўляе. Трэба паставіць пытаньне перад сэсіяй савету БКС аб цэнтралізацыі гэтага мерапрыёмства.

Разам з правядзеньнем шырокай работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў каапэрацыйных работнікаў трэба забясьпечыць пляна-мернае прасоўваньне лепшай часткі, па меры пасьпяховасьці, на вышэйшую работу. Зусім ненармальным у нашай сыстэме зьяўляецца частае і масавае перакіданьне каапэрацыйных работнікаў на іншую работу. Трэба ўзьняць пытаньне перад адпаведнымі дырэктыўнымі органамі аб замацаваньні каапэрацыйна падрыхтаваных работнікаў на каапрабоце на пэўны больш працяглы пэрыод.

Поўнае ажыцьцяўленьне ўсіх пералічаных мерапрыемстваў сумеснымі намаганьнямі ўсіх зьвенчакоў спажыўсыстэмы разам з органамі Наркамасьветы і прафсаюзаў, пад агульным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, забясьпечыць каапэрацыі плянамерны і шырокі прыцёк у каапэрацыйныя арганізацыі новых падрыхтаваных сіл з рабочых, батракоў, беднякоў і лепшай часткі серадняцкага сялянства для замены імі сацыяльна-чужых элемэнтаў, элемэнтаў, які разлажыліся, абюракраціліся і наогул нягодных элемэнтаў нашага каапэрацыйнага апарату.

---

А. Д.

# Задачы па загатоўках і збыце садова-гароднай каапэрацыі ў 1929 годзе

З усіх відаў сел.-гасп. каапэрацыі садова-гародная каапэрацыя зьяўляецца самай маладой. Яшчэ нядаўна ў БССР збыт садова-гароднай прадукцыі цалком быў у руках прыватніка, які працаваў амаль выключна шляхам арэнды садоў і ні ў якай меры не клапаціўся аб іх становішчы, а таксама і аб культурных спосабах збыту.

Апроч таго, нашы садовыя гаспадаркі прамысловага тыпу, якія даюць асноўную таварную масу, галоўным чынам, складаюцца з былых абшарніцкіх садоў, і, пачынаючы з часу імпэрыялістычнай вайны і да самага нядаўняга часу, яны былі зусім ў заняпадзе. Гэта давяло да вялікага скарачэньня садовае плошчы, да зьмяншэньня як валавых збораў ураджаю, так і асабліва таварнай яго часткі. Дакладна ў лічбах гэтага паказаць нельга, бо статыстычны вучот вядзецца ў нас па мэтаду выбарачнага досьледу і сапраўднага становішча садовых гаспадарак не адбівае.

Вопыт па збыту прадукцыі нашага садаводзтва і досьлед досыць значнае колькасьці садоў прыводзяць нас да сумных вынікаў. Становішча робіцца яшчэ горшым, калі прыняць пад увагу яшчэ тое, што амартызацыя нармальна ў садзе вылічваецца у 3 проц. ў год, а пры іх запусташы яе трэба падвысіць да 4 проц. Асноўныя прамысловыя выхавальнікі закладзены ў нас усяго толькі ў 1924 г., і пасадачны матар'ял з іх паступіў у продаж толькі восеньню 1928 г. Такім чынам гэты год і даводзіцца лічыць пачаткам адраджэньня нашае садовае гаспадаркі. Гэтыя пасадкі дадуць плады толькі к 1940 году. Значыцца, працэс скарачэньня нашае

плоданасяшчае садовае плошчы будзе працягвацца яшчэ праз 10—12 бліжэйшых год, і можа цяперашні памер яе зьменшыцца амаль што ў два разы. Гэта няўхільна давядзе да зьмяншэньня таварных зваротаў і да ўсё большага разрыву паміж попытам і прапановамі.

Рост гэтага разрыву павялічваецца яшчэ ад таго, што ў даваенныя часы, напр., імпартавалі сьвежыя плады на суму каля 12.000.000 руб., цяпер-жа мы маем экспарт іх, які ўсё больш павялічваецца. Аснову гэтага экспарту складалі паўднёвыя, пераважна крымскія, плады. Вываз жа „антонаўкі" да мінулага году даваў адмоўныя вынікі. Але вопыт леташняга году паказаў, што пры адпаведнай пастаноўцы справы вывазу „антонаўкі" забясьпечаны посьпех.

Рост насельніцтва і рост спажываньня прадукцыі садаводзтва нашай прамысловасьцю таксама вядуць да павялічэньня попыту.

Адзіным выхадам з гэтага становішча трэба лічыць безадкладнае прыняцьце рашучых мер па адраджэньню і прывядзеньню ў культурны стан садовае плошчы.

Так як асноўная плошча нашых прамысловых гаспадарак знаходзіцца ў калгасах, якія складаюцца, галоўным чынам, з беднаты, якая ня мае зваротных сродкаў, дык для адраджэньня і разьвіцьця гэтых гаспадарак неабходна адпаведнае крэдытаваньне. Лепшым спосабам такога крэдытаваньня зьяўляецца доўгалетняя кантрактацыя, але яна, на жаль, немагчыма, бо рэгулюючыя і крэдытуючыя ўстановы, выходзячы з таго, што нібыццам няправільна, што прадукты садаводзтва зьяўляюцца прадметамі першай неабходнасьці,—у крэдытах для яе адмаўляюць.

У зьвязку з немагчымасьцю атрыманьня крэдытаў для пэўных мэт, так і крэдытаў на кантрактацыю, мы прымушаны лічыць крыніцай фінансаваньня—прыцягненьне сродкаў пакупнікоў у асобе як спажыўсыстэмы па генэральнаму дагавару з Цэнтрасаюзам, так і дзяржаўных арганізацый, якія працуюць на экспарт.

Адраджэньне садовае гаспадаркі ва ўмовах арэнднае яе эксплёатацыі немагчыма, а таму мы катэгарычна павінны прызнаць далейшае існаваньне у нас арэнды садоў зусім недапушчальным.

Як вытворчасьць, так і збыт садовае прадукцыі патрабуюць спэцыяльных ведаў, вялікай да сябе ўвагі і выключна выразнае і акуратнае работы. Толькі пры гэтых умовах магчыма пасьпяховае вядзеньне садовай справы. Для кіраўніцтва гэтай справай нашы акруговыя саюзы павінны запрасіць у свае апараты адпаведных спэцыялістых.

Каапэраваная плошча садоў дасягае ў нас ў сярэднім каля 500 гэктараў на акругу, валавая каштоўнасьць прадукцыі, уключаючы гародніну ягады звыш паўміл'ёна рублёў на акругу. Каб кіраваць такой гаспадаркай, неабходна добра ведаць усё, што тычыцца дагляду за садам і яго ўраджаем, прывядзеньнем гэтага ураджаю ў ліквіднае становішча, тэхнічнай пераапрацоўкай таварных яго адыходаў, а таксама мець арганізатарскія здольнасьці і вялікі гаспадарчы вопыт.

Апроч таго, неабходны кадры вопытных сэзонных працаўнікоў, якія маглі-б кіраваць ў садох сартыроўкай і ўпакоўкай пладоў, былі прыёмшчыкамі тавару ад садакарыстацеляў і здатчыкамі яго нашым пакупнікам.

Разьвязаньне пастаўленых перад намі задач вельмі ўскладняецца яшчэ тым, што цяпер цяжка знайсьці неабходных нам працаўнікоў.

Лічачыся з недахватам ведаў у запрошваемых намі работнікаў, мы павінны даць ім магчымасьць папоўніць гэтыя веды на кароткатэрміновых практычных курсах. Мы карыстаемся для гэтай мэты курсамі Плодавінсаюзу ў Маскве і лічым неабходным наладзіць ў канцы лета свае курсы ва ўсіх акругах непасрэдна ў садох.

Выходзячы з неабходнасьці абслугоўваньня ўсяе каапэраванае намі садовае плошчы, мы ставім сёлета сваёй задачай арганізаваць збыт сьвежых яблыкаў ва ўсіх акругах нашай сыстэмы. Плошча каапэраваных намі садоў складае каля 3300 гэктараў. З гэтае плошчы мы мяркуем мець для збыту 9900 тон стандартнага тавару. З акругленьнем гэта складае тысячу вагонаў на агульную суму па арыентыровачнай продажнай цане 1.881.000 р.

Правільнай і вытрыманай формай збыту садова-гароднай прадукцыі мы лічым камісійны продаж. Другой важнай умовай збыту зьяўляецца яго цэнтралізацыя, поруч забясьпечваючы інтарэсы як нашае сыстэмы, так і вытворцы. Толькі пры цэнтралізаваным і адзіным выступленьні на рынку можна дабіцца найлепшых умоў работы.

Для фінансаваньня вытворчых і загатоўчых выдаткаў, мы лічым неабходным прыцягваць сродкі пакупнікоў у памеры 40 проц. арыентыровачнае збытавое цаны, з якіх 25 проц. мяркуецца атрымоўваць пры заключэньні зьдзелак на продаж, а астатнія 15 проц. па выяўленьні памераў ураджаю, але не пазьней 15 чэрвеня. Канчатковы разьлік учыняецца пасьля дачы і адгрузкі тавару ўплатай супроць прыёму здатачных і транспартных дакумэнтаў роўнымі часткамі гатоўкай і вэксалямі тэрмінам на 90 дзён.

У дагаворы на загатоўку сьвежых яблыкаў будуць уключацца поўныя аграмінімумы па адраджэньню садоў і дагляду за імі, гэтым самым на нашу сыстэму будзе ўскладацца адказнасьць за мэтазгоднае скарыстаньне атрымліваемых авансаў па прамым іх прызначэньні.

Ажыцьцяўлельне вядзеньня буйных гандлёвых апэрацый са сьвежай садовінай магчыма толькі пры той умове, калі як якасьць тавару, так і яго ўпакоўка прыводзяцца ў строгую адпаведнасьць з прынятым стандартам. Толькі пры гэтай умове магчымы папярэднія зьдзелкі на буйныя партыі тавару, якія забясьпечвалі-б як інтарэсы прадаўца, гэтак і пакупніка. Мы сёлета продаж сьвежай садовіны лічым абавязковым праводзіць у адносіне якасьці тавару ў поўнай адпаведнасьці з стандартам Наркамгандлю СССР.

Загатоўку тары мы мяркуем праводзіць ў цэнтралізаваным парадку. У адносіне стружак гэта цэнтралізаванасьць павінна быць поўнай, што-ж тычыцца скрынак, дык тут па мясцовых умовах магчымы выключэньні

Лічачы сваёй задачай усямернае патаненьне прадукцыі, мы вызначаем камісію нашай сыстэме па збыту сьвежых яблыкаў у памеры 15 проц. ад продажных цэн: з іх на долю Белсельсаюзу адлічваецца 3 проц., акрсельсаюзам—5 проц. і нізавым таварыствам—7 проц.

Каапэрацыйны збыт сьвежых ягад у нашай сыстэме таксама толькі пачынае разьвівацца, але па цэламу шэрагу акалічнасьцяй можна лічыць, што будучына ягаднай справы ў нас забясьпечана. Галоўныя з гэтых акалічнасьцяй—гэта надзвычайна спрыяючыя для ягаднікаў кліматычныя ўмовы, блізкасьць сталічных рынкаў і здавальняюча разьвітая сетка чугунак.

Для патрэбнага ў гэтай справе фінансаваньня як дагляду за ягаднікамі, так і загатоўкі тары мы вызначаем прыцягненьне сродкаў нашых сталічных камісіянэраў у памеры 25 проц. арыентыровачнае збытавое цаны.

Тэхнічная перааправоўка пладоў і ягад амаль што зусім не ўтваралася, калі ня лічыць нашых невялічкіх пачынаньняў ў мінулым годзе. Між тым наліччя вялікае колькасьці сыравіны і апалу даюць шырокія магчымасьці для гэтае справы. І толькі нашай някультурнасьцю і адсутнасьцю неабходных ведаў можна тлумачыць тое, што ў нас дагэтуль ня сушылі і не перааправоўвалі тэй часткі садовіны і ягад, якая ня можа паступаць на рынак у сьвежым выглядзе.

Па нашых нормах выхад таварнага яблыка вызначаецца ў сярэднім у 2½ тоны з гэктару штогод, сярэдні звычайны брак пры гэтым складае 40 проц. Палова гэтага браку можа быць рэалізавана на мясцовым рынку, другая-ж палова, г. зн. 50 пудоў з гэктара, а са ўсёй каапэраванай намі плошчы каля 150.000 пудоў ні ў якую рэалізацыю ў сьвежым выглядзе не паступае. Калі гэта частка ўраджаю ня будзе высушана, або інакш пераапрацована, яна прападзе, абернецца ў гной, і ўсе меркаваньні аб нявыгаднасьці такой пераапрацоўкі грунтуюцца проста на адсутнасьці элемэнтарнага разуменьня гаспадарчага боку садовае справы.

Адносна справы з гароднінай трэба сказаць, што нашы кліматычныя і грунтавыя ўмовы для культуры цэлага шэрагу гародніны ня толькі спрыяючыя, але для некаторых з іх, як, напрыклад, для капусты, морквы, бурака, цыбулі, і асабліва для бульбы, зьяўляюцца проста выключнымі. Бульба у нас адзначаецца ня толькі вялікай ураджайнасьцю і добрай якасьцю, але дзякуючы супяшчанаму грунту, мае значную устойлівасьць супроць розных хвароб яе.

Попыт, які ўсё павялічваецца на бульбу як з боку нашае прамысловасьці, так і харчовага забесьпячэньня Ленінграду, Масквы і наогул буйных нашых гарадоў, настойліва патрабуе пашырэньня плошчы яе пасадкі. Але, на жаль, як відаць з дадзеных нашага ЦСУ, гэтая плошча за апошнія чатыры гады значнага росту не паказвае. Гэта залежыць, трэба думаць, ад памераў нашае жывёлагадоўлі і атрымліваемага гнойнага ўгнаеньня, так як пасадка бульбы без угнаеньня ў нас не рэнтабельна.

Прамысловае гародніцтва наогул у апошнія гады па ўсяму нашаму Саюзу дужа адстае ад попыту на яго прадукцыю. Недахват гародніны, як, харчавога прадукту, на рынках вялікіх нашых гарадоў настолькі вялікі і цэны на яе такія высокія, што за яе кошт моцна ўзрасло спажываньне хлеба і мяса.

Гэтае становішча настолькі сур'ёзна, што пытаньню прамысловага гародніцтва ўдзяляецца цяпер максымум увагі як нашымі каапэрацыйнымі цэнтрамі, так і вышэйшымі ўрадавымі органамі. Нарада па гэтаму пытаньню пры Наркамгандлі РСФСР прызнала неабходным дабівацца пашырэньня гароднае плошчы сёлетняй вясной ня менш чым на 15 проц. і адпаведнага павялічэньня крэдытаў.

Вынікі з ўсяго сказанага зусім яскрава вызначаюць той напрамак, у якім павінна весьціся наша работа.

---

І. Байцоў

# Будаўнічая праграма спажыўсыстэмы на 1928-29 год і яе фінансаваньне

Можна лічыць, што ў сучасны момант спажыўсыстэмай Беларусі ўжо напэўне выяўлены як аб'екты будаўніцтва, так і крыніцы фінансаваньня.

Як і трэба было чакаць, гарадзкая сетка патрабавала найбольшых сродкаў для здавальненьня яе патрэб. Прычыны заключаюцца ў наступным.

1. Пры перабудаваньні быту каапэраванае насельніцтва ў гарадох патрабуе найбольш прасторных і лепш прыстасаваных сталовых,

2. Саматужныя хлебапякарні ня могуць задаволіць нават паловы патрэб насельніцтва ў печаным хлебе, і таму па буйных гарадох, з вялікай колькасьцю рабочага насельніцтва, мяркуецца пабудова буйных мэханізаваных хлебазаводаў.

3. У зьвязку з пашырэньнем ЦРК продажу мяса і гародніны зьявілася патрэба ў пабудове прыстасаваных мясных крам, ляднікоў-скляпоў і адпаведных памяшканьняў для сховы гародніны.

4. Існуючая сетка крам ЦРК мала прыстасавана да абслугоўваньня большае колькасьці пайшчыкаў і патрабуе буйнага рамонту.

У раённых саюзах цяпер адчуваецца моцная патрэба ў досыць прасторных, прыстасаваных для захоўваньня рознага роду тавараў, складачных памяшканьнях, трэба, каб гэтыя памяшканьні былі недалёка ад чыгунак. Сельскія спажыўтаварыствы—у прыстасаваных памяшканьнях, аднначасова служачых і для канторы, крамы і склады тавараў.

Уся будаўнічая праграма на 1928-29 г., пасьля двух-трох урэзак, у зьвязку з памяншэньнем сродкаў па фінансаваньні, вызначаецца ў суме 1.715.000 р.; з іх на будаўніцтва: а) па рабочай каапэрацыі—1.078.500 р.; б) па райсаюзах—270.000 руб. і па сельскіх спажыўтаварыствах—357.500 рублёў.

Будаўніцтва па сэктары рабочай каапэрацыі: а) грамадзкае харчаваньне на суму 355.000 руб.

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт у тыс. руб. | Крыніцы фінансаваньня | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Уласн. сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд | Народн. харч. | Камун. банк | Фонд нархарчу |
| Нова-Беліца | 169 | 15 | 50 | 34,5 | 50 | 15 | 4,5 |
| Рэчыца | 135 | 10 | 30 | 40,0 | 50 | 5 | — |
| Рамонт сталов. па 7 ЦРК | 27,3 | — | — | — | — | — | 27,3 |
| Цэнтр. кухня ў Барысаве | 23,7 | — | — | 16,5 | — | — | 7,2 |
| Усяго | 355 | 25 | 80 | 91,0 | 100 | 20 | 39 |

а) Па будаўніцтву хлебазаводаў мяркуецца: 1) скончыць будаўніцтва заводаў у Гомелі, Віцебску і хлебапякарань у Воршы, Рэчыцы, Клімавічах і Шклове і 2) зноў распачаць пабудову вялікага заводу ў г. Бабруйску. Кошт будаўнічых работ у гэтым годзе вызначаецца ў суме 397.000 руб., а менавіта:

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт | Крыніцы фінансаваньня | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Уласн. сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд | Усекабанк | Фонд агнятрыв. будаўн. | Мясцовы бюджэт |
| Гомель | 90,5 | 10 | 50 | 15 | 10 | 10 | — |
| Віцебск | 170 | 15 | 110 | 35 | — | 10 | — |
| Бабруйск | 80 | 20 | 40 | — | — | — | 20 |
| Ворша | 40 | 5 | 15 | 10 | 10 | — | — |
| Рэчыца | 5 | — | 5 | — | — | — | — |
| Клімавічы | 5 | — | — | 5 | — | — | — |
| Шклоў | 2 | — | — | 2 | — | — | — |
| Усяго | 392,5 | 50 | 220 | 67 | 20 | 20 | 20 |

б) Будаўніцтва мясных крам, ляднікоў-скляпоў і гароднінасхоў:

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт | Крыніцы фінансаваньня | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Уласн. сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд | Камун. банк | Фонд агнятрыв. будаўн. |
| Барысаў | 11 | — | — | — | 1 | — |
| Бабруйск | 10 | — | 7 | — | 3 | — |
| Віцебск | 51 | 5 | 27 | 9 | 10 | — |
| Гомель | 33 | — | 23 | — | 10 | — |
| Менск | 67 | — | 40 | 9,5 | 15 | 2,5 |
| Магілеў | 25 | 5 | 14 | 3 | 3 | — |
| Мазыр | 2 | — | — | — | 2 | — |
| Ворша | 5 | — | — | — | 5 | — |
| Полацак | 6 | — | — | — | 6 | — |
| Рэчыца | 5 | — | — | — | 5 | — |
| Усяго | 215 | 10 | 111 | 21,5 | 70 | 2,5 |

в) Пабудова ларкоў і раённых крам:

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт | Крыніцы фінансаваньня | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Уласныя сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд |
| Барысаў | 6 | 4 | 5 | — |
| Бабруйск | 18 | 5 | 7 | 6 |
| Віцебск | 19 | — | 10 | 9 |
| Гомель | 24 | 10 | 14 | 2,5 |
| Менск | 23,5 | 11 | 10 | — |
| Магілеў | 10 | 2 | — | 8 |
| Ворша | 3 | — | — | 3 |
| Полацак | 3 | 1 | — | 2 |
| Рэчыца | 5 | 2 | 2 | 1 |
| Усяго | 111,5 | 35 | 45 | 31,5 |

Такім чынам, рабочая каапэрацыя на будаўніцтва на 1928-29 г. у суме 1.078.500 руб. павінна затраціць з уласных сродкаў—120.000 р., з агульнага фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня (сродкі НКФ)—456.000 р., спэцфонду спажыўкаапэрацыі—211.000 руб., фонду нархарч—139.000 руб., сродкаў Усекабанку 20.000 руб., фонду агнятрывалага будаўніцтва пры УКБ—22.500 руб., мясцовага бюджэту 20.000 руб. і Камунбанку—90.000 р.

Будаўніцтва па агульна-грамадзянскай каапэрацыі вызначана:

а) Пабудова баз (цэнтральных складаў) пры чыгунцы:

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт | Крыніцы фінансаваньня | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Уласныя сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд | Фонд агнятрыв. будаўн. |
| Бабруйск | 35 | 10 | 10 | 15 | — |
| Віцебск | 50 | 10 | 10 | 20 | 10 |
| Гомель | 94 | 15 | 20 | 45 | 14 |
| Менск | 100 | 25 | 20 | 35 | 20 |
| Усяго | 279 | 60 | 60 | 115 | 44 |

б) Пабудова спажыўтаварыствамі крам і чайных:

| МЕСЦА ПАБУДОВЫ | Кошт | Крыніцы фінансаваньня | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Уласныя сродкі | Агульн. фонд ДК | Спэц. фонд | УКБ | Фонд агнятрыв. будаўн. | Культ-фонд |
| Бабруйскага саюзу | 67,5 | 44,5 | — | 6 | 10 | 6,0 | 1 |
| Віцебскага „ | 72,0 | 47,0 | 1,0 | 7 | 10 | 6,0 | 1 |
| Гомельскага „ | 71,5 | 47.5 | — | 7 | 10 | 6,0 | 1 |
| Дняпросаюзу | 71,5 | 44,5 | 2,0 | 7 | 10 | 7 0 | 1 |
| Белкаапсаюзу | 75,0 | 47,5 | 1,0 | 7 | 10 | 8,5 | 1 |
| Усяго | 357,5 | 231,0 | 4,0 | 34 | 50 | 33,5 | 5 |

Ва ўсю будаўнічую праграму ў 1928-29 г. спажыўсыстэмай будзе ўкладзена:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Уласных сродкаў | 411,0 | тыс. руб. | 24,0% |
| З агул, фонд. ДК | 520,0 | „ „ | 30,3% |
| З спэцфонду с/с | 360,0 | „ „ | 21,0% |
| Сродкаў Усекабанку | 70,0 | „ „ | 4,1% |
| Фонд агнятрыв. будаўн. | 100,0 | „ „ | 5,7% |
| Камунбанку | 90,0 | „ „ | 5,3% |
| Фонду нархарч | 139,0 | „ „ | 8,1% |
| Мясцовага бюджэту | 20,0 | „ „ | 1,2% |
| Культфонду | 5,0 | „ „ | 0,3% |
| Усяго | 1715,0 | тыс. руб. | 100% |

Разглядаючы прыроду сродкаў, можна канстатаваць, што спажыўкаапэрацыя для выкананьня свае будаўнічае праграмы толькі 660 т. р. (44,9% пляну) прыцягвае з боку, а рэшту сумы яна стварыла шляхам накапленьня ў сябе, у Цэнтрасаюза, ва Ўсекабанку, па каапэрацыйным страхаваньні і г. д.

Можна меркаваць, што будаўнічая прагрaма спажыўсыстэмы будзе выканана з перапавялічэньнем вызначанага пляну і што яна фактычна будзе вызначацца ў суме, даходзячай да 2 мільён. руб., а гэта самае дасьць права на сьцьвярджэньне таго, што будаўнічая прагрaма спажыўсыстэмы па пяцігадовым пляне ў 11.500.000 р. будзе поўнасьцю выканана.

**ТАВАРЫШЫ КААПЭРАТАРЫ!**

**ДАСЫЛАЙЦЕ АБ НЕЗРАЗУМЕЛЫМ ДЛЯ ВАС У РАБОЦЕ НА МЯСЦОХ ПЫТАНЬНІ**

**РЭДАКЦЫЯ АДКАЖА**

А. Плышэўскі

# За падвышэньне эфэктыўнасьці сел.-гасп. крэдыту

Штогод дзяржава накіроўвае на крэдытаваньне сел. гаспадаркі ўсё больш і больш сродкаў, якія дасягаюць у нас па БССР за апошнія гады дзесяткаў мільёнаў руб. Зразумела, што накіроўваючы столькі сродкаў, дзяржава жадае, каб эфэкт (карысьць) ад гэтых укладаньняў быў як мага больш.

Чаго канкрэтна ў асноўным жадае дзяржава ад сел.-гасп. крэдыту?

Яна жадае, каб крэдыт:

1) у найбольшай меры спрыяў абагуленьню дробных сялянскіх гаспадарак у калгасы і розныя сел.-гасп. вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні і разьвіцьцю гэтых аб'яднаньняў;

2) найбольш дапамагаў уздыму бядняцкіх гаспадарак і падтрымоўваў крэдытам серадняцкія гаспадаркі пры поўным спыненьні крэдытаваньня кулацкіх гаспадарак;

3) садзейнічаў сапраўднаму разьвіцьцю закрэдытаваных гаспадарак, а, значыць, і ўсяе сельскай гаспадаркі ў цэлым у напрамку тых пэрспэктыў, якія вызначаны земорганамі для сельскай гаспадаркі раёну (індустрыялізацыя, уздым ураджайнасьці наогул, разьвіцьцё спэцыяльных сыр'явых і экспартных галін і г. д.).

Калі зьвярнуцца да фактаў, дык трэба адзначыць, што дасягненьні сел.-гасп. крэд. таварыстваў у гэтых адносінах далёка недастатковыя, а менавіта:

1. Пераважная большасьць крэдытаў усё яшчэ накіроўваецца таварыствамі па лініі індывідуальных гаспадарак, і недастаткова зьвяртаецца ўвага на садзейнічаньне праз крэдыт абагуленьню індывідуальных бядн.-сер. сялянскіх гаспадарак у калгасы і масавыя вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні і на ўзмацненьне існуючых.

2. Заможныя гаспадаркі складаюць яшчэ даволі высокі процант, як сярод пазычнікаў, так і сярод запазычанасьці т-вам—каля 2,5 проц.

3. Сярэдні памер пазыкі і запазычанасьці на 1 гаспадарку ў заможных усё яшчэ большы, чымся ў беднякоў і сераднякоў.

Мы не гаворым тут аб грубых парушэньнях клясавае лініі, якія выяўлены ў паасобных таварыствах.

Далёка горш яшчэ стаіць справа з уплывам крэдыту на гаспадарчае разьвіцьцё пазычнікаў, з гаспадарчай эфэктыўнасьцю нашых крэдытаў.

Да гэтага часу нам у шмат якіх выпадках даводзіцца наглядаць або вельмі нязначны дадатны ўплыў крэдыту на ўздым закрэдытаванае гаспадаркі, або нават выпадкі адмоўнага яго ўплыву.

На прычынах гэтых заявішчаў нам трэба спыніцца больш падрабязгова.

Апрача агульна-эканамічных умоў, гаспадарчая эфэктыўнасьць крэдыту залежыць у вялікай ступені ад наступных асноўных момантаў:

1. Ад умоў крэдыту, гэта значыць ад тэрміну, які павінен быць такім, каб даць магчымасьць крэдыту акупіцца ў гаспадарцы, і проціанту, які павінен быць нявысокім.

2. Ад памеру пазыкі, які павінен быць такім, каб разам з укладваемымі пазычнікам сродкамі ўпаўне забясьпечвалася магчымасьць утварэньня гаспадаркай мерапрыемства, на якое дадзены крэдыт.

3. Ад таго, наколькі складзены ў гаспадарцы пазычніка ўмовы для таго, каб набытая за пазыку рэч магла з карысьцю ў ёй ужывацца.

Бо нельга гаварыць, скажам, аб карысным ужываньні ў гаспадарцы купленага за крэдыт каня, калі ў ёй няма возу, інвэнтару ці хлява і г. д., або каровы, калі няма таго-ж хлява, корму і г. д. Іначай кажучы, калі ўжо ў гаспадарку (паасобную ці калектыўную) укладаюцца т-вам крэдытныя сродкі, дык трэба глядзець, каб даць ёй магчымасьць набыць усе мінімальныя рэчы, патрэбныя для пасьпяховага вядзеньня гаспадаркі, г. зн. трэба ўжыць мэтад так званага комплекснага крэдытаваньня.

У якім-жа становішчы знаходзяцца гэтыя неабходныя для гаспадарчай эфэктыўнасьці крэдыту умовы?

Мы маем значнае з кожным годам паляпшэньне якасьці крэдытаў. Калі на 1/X-25 г. доўгатэрміновыя пазыкі складалі па балянсу таварыстваў толькі 12 проц. да ўсіх пазык, дык на 1/X-1928 года яны ўжо складаюць 63 проц.; калі ў 1924-25 г. па пазыках бралі 7-10 проц. гадавых па доўгатэрміновых і 12-15 проц. па кароткатэрміновых, дык цяпер бярэцца па кароткатэрміновых—10 проц., а па доўгатэрміновых—6 проц., а па шэрагу крэдытаў бярэцца таварыствамі толькі 4-5 проц.; з беднаты ж і з аб'яднаньняў бярэцца толькі па кароткатэрміновых—7 проц, і па доўгатэрміновых 4 проц., а па фонду беднаты—толькі $2^1/_2$ проц.

За тое ў мэтадах накіраваньня крэдытаў, якімі-б забясьпечвалася найбольшая іх гаспадарчая эфэктыўнасьць і якія залежаць цалком ад саміх таварыстваў, мы маем вельмі нязначныя паляпшэньні. Так, сярэдні памер пазык, якія выдаюцца пачатковай сеткай БССР, за два гады быў такі:

| Прызначэньні пазык / ГАДЫ | Сярэдні памер пазыкі ў рублёх | | | | | | Сярэдн. запазыч. 1 паз. на кан. году |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На прац-жывёлу | На с.-г. інвэнтар | На будынкі | На жывёлаводства | На расьлінаводз. | Усіх прызнач. | |
| 1925-26 г. | 56 | 41 | 42 | 40 | 18 | 42 | 40 |
| 1926-27 г. | 68 | 41 | 50 | 37 | 18 | 41 | 52 |
| 1927-28 г. | 86 | 44 | 77 | 65 | 13 | 38 | 60 |

Адсюль бачым падвышэньне сярэдняга памеру пазыкі за 1926-27 г. толькі на 1 рубель, а 1927-28 г. дае сярэдні памер пазыкі толькі 38 руб., г. зн. ізноў паніжэньне. Трэба мець на ўвазе, што сюды ўваходзяць пазыкі ня толькі паасобных пазычнікаў, а арганізацый, якія, як вядома, атрымліваюць большыя па памеру пазыкі.

Калі браць асобныя прызначэньні, дык ўбачым яскрава недапушчальную драбімасьць пазык у 1925 26 і 1926-27 гадох. Якога каня можна набыць за 68 руб., ці карову за 37 руб., або якая выйдзе будыніна за 50 р., калі нават прыкласьці і тое, што сам пазычнік можа ўкласьці ў гэтую справу? А гэта-ж сярэднія лічбы. Часта сустракаюцца пазыкі на гэтыя мэты ў 20-30 руб. А на рынку конь сярэдні каштуе 150-200 руб., і карова 100-150 руб. 1927-28 г. даў некаторае паляпшэньне, але яно ўсё яшчэ недастатковае. Зразумела, што гэта выклікае або скарыстаньне пазыкі пазычнікамі не па прызначэньні і пратэрміноўку яе, або набыцьцё такога, напрыклад, каня, які здохне праз кароткі час і паставіць закрэдытаваную гаспадарку і само таварыства ў больш цяжкае бязвыхаднае становішча.

Тое самае, калі ўзяць агульную сярэднюю суму ўкладзеных крэдытаў у адну закрэдытаваную сялянскую гаспадарку, якая к канцу 1926-27 г. раўналася 52 руб., а к канцу 1927-28—60 руб.

Якія мерапрыемствы могут быць здаволены ў бядняцкай гаспадарцы, якія па пераважнасьці мы павінны падтрымліваць, за—60 руб.?

Усе гэтыя факты і лічбы гавораць аб тым, што ў большасьці т-ваў працягваецца драбленьне, распыленьне крэдытных сродкаў. Т-вы, імкнучыся здаволіць як мага больш пайшчыкаў, ідуць па лініі найменшага супраціўленьня, адыходзячы ад асноўных правілаў эканомікі, і няправільным мэтадам выдачы крэдытаў зводзяць часта да нуля тую важную ролю, якая ўскладаецца на сел.-гасп. крэдыт партыяй і савецкай уладай.

Значыць атрымоўваецца, што дзяржава дае сыстэме вялікія сродкі, усё больш павялічвае тэрміны іх звароту і зьніжае процанты, а мы, няправільным накіраваньнем гэтых сродкаў, зьнішчаем увесь эфэкт, які павінен ад іх атрымацца. Справа прымае зусім катастрафічны зварот там, дзе ёсьць скрыўленьне сацыяльна- клясавай установкі.

Зразумела, што далей так пытаньне стаяць ня можа, і сыстэма сел - гасп. крэдыту, у прыватнасьці сел.-гасп. крэд. т-вы, павінна ў корані зьмяніць мэтады накіраваньня крэдытаў, каб забясьпечыць іх пэўную эфэктыўнасьць.

Пагэтаму практыку накіраваньня крэдытаў сел.-гасп. крэдытнымі т-вамі неабходна няўхільна будаваць на наступных падставах:

1. Абраную да закрэдытаваньня гаспадарку крэдытаваць не на адно толькі прызначэньне, а, калі гэта патрэбна, крэдытаваць на ўсе тыя патрэбы, без якіх немагчыма нармальнае вядзеньне гаспадаркі і прадукцыйнае скарыстаньне пазыкі (комплекснае крэдытаваньне гаспадаркі).

2. Не дапушчаць ні ў якім разе драбленьня крэдытаў і здавальняць крэдытуемае мерапрыемства так, каб крэдытныя сродкі разам з магчымым укладаньнем самога пазычніка складалі рынчаную яго каштоўнасьць.

3. У зьвязку з гэтым павінны значна падвысіцца як сярэдні памер пазыкі, так і сярэдняя запазычанасьць таварыству аднаго пазычніка, якая, па нашых правілах можа дасягаць 200 руб., а для беднаты па фонду— 400 руб.

4. Найбольшую ўвагу зьвярнуць на здавальненьне крэдытам беднаты. Крэдытная палітыка таварыства ў адносінах да індывідуальных гаспадарак будзе правільнай і вытрыманай толькі тады, калі процант беднаты ў складзе пазычнікаў з іх запазычанасьці будзе большым, чым у складзе пайшчыкаў, калі сярэдні памер пазыкі і сярэдняя запазычанасьць на 1 гаспадарку ў беднякоў будуць большыя, чым у астатніх пазычнікаў.

5. Тэрміны звароту пазык неабходна прызначаць з вучотам маёмаснага становішча пазычніка (большыя для беднаты). Ператварэньне доўгатэрміновых пазык у кароткатэрміновыя пазыкі не павінна мець месца.

6. Крэдыты накіроўваць па плянах з тым, каб найбольш спрыяць іміабагуленьню сялянскіх гаспадарак у калектывы і іншыя с.-г. каапэр. аб'яднаньні і перабудове сельскай гаспадаркі раёну ў напрамку, які найбольш адпавядае прыродным умовам раёну, сел -гасп. палітыцы земорганаў і ўздыму ўраджайнасьці наогул.

7. Прыняць за правіла праверку, непасрэдна ці праз упаўнаважаных і г. д., скарыстаньня пазык пазычнікамі, як паасобнымі, так і калектыўнымі, бо гэта падыме сярод іх дысцыпліну і волю да правільнага скарыстаньня крэдыту, а праз тое і забясьпечыць яго гаспадарчую эфэктыўнасьць.

Пры гэтай установцы мы зможам здаволіць крэдытам меншы лік гаспадарак, але праўленьне кожнага сел.-гасп. крэдытнага т-ва павінна памятаць лёзунг—„Лепш менш, ды лепш“.

Няхай мы сёньня здаволім крэдытам і меншы лік гаспадарак, але так, каб ад гэтага крэдыту атрымаўся пэўны гаспадарчы эфэкт.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Г. Хаскін

## Стан спажывецкай каапэрацыі Беларусі

*(Да справаздачы праўленьня Белкаапсаюзу на сэсіі савету Цэнтрасаюзу СССР)*

Першым годам каапэрацыйнага будаўніцтва трэба лічыць 1920 год.

Пры агульных шляхох разьвіцьця спажыўкаапэрацыі БССР і ўсяго Саюзу, асаблівыя народна-гаспадарчыя ўмовы БССР налажылі свой адбітак на каапэрацыйнае будаўніцтва БССР, у сэнсе яе адставаньня ад сярэдняга саюзнага ўзроўню.

Слаба разьвітая прамысловасьць, слабая прадукцыйнасьць сельскае гаспадаркі, абумоўленая значнай колькасьцю малазямельных гаспадарак, нявысокая якасьць глебы, мноства няўдобных зямель і г. д. характарызуюць БССР, як краіну, якая спажывае ня толькі па лініі прамтавараў, але і па лініі с.-г. прадуктаў.

Значэньне арганізацыйнага звароту ў БССР характарызуецца па БССР больш нізкімі паказальнікамі, чым у сярэднім па Саюзе, што відаць з наступных параўнальных дадзеных аб раздробным звароце на душу насельніцтва:

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|
| СССР | 82—15 | 85—94 | 88—97 |
| БССР | 47—00 | 52—50 | 53—40 |

Больш нізкі раздробны зварот на душу насельніцтва па БССР ляжыць ва ўмовах ня толькі больш нізкага прыбытку насельніцтва і адносна высока разьвітога ў БССР неарганізаванага гандлю (рынкі, унутрысялянскія і паміжпаселішчныя звароты), але і ў значнай ступені—у недазабесьпячэньні БССР асноўнымі спажывецкімі таварамі.

Недазабесьпячэньне БССР знаходзіць сваё адлюстраваньне ў больш нізкіх зваротах спажыўкаапэрацыі і з прамтаварамі на адну душу насельніцтва параўнальна з Саюзам. Калі ў сярэднім на душу насельніцтва па СССР спажыўкаапэрацыяй прададзена прамтавараў у 1926-27 г. на 17 р. 97 к., у 1927-28 г.—23 р. 15 к., 1927-28 г.—29 р. 99 к., дык па БССР адпаведна па гадох мы маем такія паказальнікі—13 р. 60 к., 16 р. 60 к. і 20 р. 30 к.

### Аргбудаўніцтва

Стварэньне ў Беларусі ў 1924 г. рэспубліканскага нацыянальнага цэнтру спажыўкаапэрацыі і арганізацыя 10 райсаюзаў, адпаведна колькасьці ў той час адміністрацыйных акруг, па сутнасьці зьяўляецца першым і асноўным арганізацыйным крокам па шляху аднаўленьня сыстэмы спажыўкаапэрацыі БССР у выніку гаспадарчага крызысу 1923 г.

Па меры аднаўленьня і ператварэньня спажыўкаапэрацыі БССР ў моцна наладжаную сыстэму далася магчымасьць ў 1927 г. правесьці далейшую рэарганізацыю на аснове ўзбуйненьня акрсаюзаў і пашырэньня раёну Белкаапсаюзу, як другога зьвенчаку ў адносінах да сельскае сеткі.

У выніку гэтае рэарганізацыі былі створаны зараз існуючыя райсаюзы: Віцебскі з аддзяленьнем у Полацку, Гомельскі з аддзяленьнем у Мазыры, Бабруйскі і Дняпросаюз з аддзяленьнямі ў Магілеве.

Існуючая і зараз, гэта сыстэма, як двухзьвенчаковая ў адносінах Менскае і часткі Бабруйскае акруг, і трохзьвенчаковая ў адносінах рэшты акруг, у выніку дэталёвага вывучэньня яе была прызнана поўнасьцю апраўдаўшай сябе і падлягаючай захаваньню на бліжэйшыя гады.

Да пачатку 1928-29 г. з прычыны насьпеўшае неабходнасьці дыфэрэнцыяцыі работы па лініі сельскага і рабочага сэктару Белрабсэкцыі, якая выконвала да гэтага часу толькі функцыі арганізацыйна-ідэёвага абслугоўваньня ЦРК, былі нададзены функцыі гаспадарчага абслугоўваньня.

У нізавым-жа сельскім зьвенчаку намеціўся рост шматкрамавага будаўніцтва.

Шматкрамавасьць у БССР пры цэлым радзе недахватаў і перабояў, усё-ж поўнасьцю апраўдала сябе па ўсіх лініях і галінах каапэрацыйнага абслугоўваньня.

Надзвычайна характэрным зьяўляецца той факт, што палітыка ўзбуйненьня знаходзіць самае актыўнае падтрыманьне з боку пайшчыкаў, якія ў масе сваёй зусім усьвядомілі ўсе выгады і перавагі шматкрамавага каапэратыву.

Што датычыцца рабоча-гарадзкой каапэрацыі, дык яе аргбудаўніцтва вылілася ў форму адзіных спажывецкіх аб'яднаньняў, што зусім вынікала з параўнальнай нязначнасьці гарадоў Беларусі.

Крамная сетка рабоча-гарадзкой каапэрацыі, пры ўсім сваім досыць значным разьвіцьці, усё-ж не пасьпявала за ростам каапэраваньня, з аднаго боку, і згортваньнем прыватнага гандлю—з другога.

| | На 1/X-26 г. | На 1/X-27 г. | На 1/X-28 г. |
|---|---|---|---|
| Колькасьць крам . . . . . . . . . | 377 | 417 | 530 |
| Кольк. пайшч. на 1 краму . . . . . | 210 | 242 | 296 |
| Кольк. агул нас. на 1 краму . . . | 1522 | 1403 | 1057 |

За апошнія гады асноўнае набліжэньне каапэрацыйнага апарату да рабочага насельніцтва знаходзіць сваё адлюстраваньне ў перамяшчэньні крамнага будаўніцтва на рабочыя ваколіцы.

### Гаспадарчае абслугоўваньне спажыўца

Роля і значэньне спажыўкаапэрацыі ў БССР, у сфэры разьмеркаваньня ў асноўным характарызуецца: а) забесьпячэньнем гарадзкога насельніцтва і сельскага насельніцтва спажывецкімі таварамі і б) загатоўкай с.-г. прадуктаў і сыравіны.

Моцны рост за апошнія гады гаспадарчых зваротаў спажыўкаапэрацыі па забесьпячэньню ператварыў яе ў асноўнага правадніка тавараў да спажыўца. Гэты рост ішоў ня толькі ва ўзроўні росту пакупных фондаў насельніцтва, але і за кошт выціскаsuccessfully прыватнага гандлю.

Разьвіцьцё зваротаў нізавых зьвенчакоў спажыўкаапэрацыі БССР на працягу апошніх год характарызуецца падвышаным тэмпам прыросту зваротаў у частцы с.-г. прадуктаў.

Гэты працэс адлюстроўвае ўстаноўку на ўзмацненьне работы каапэрацыі з сельска-гаспадарчымі прадуктамі, дзе зараз значную ролю адыгрывае неарганізаваны гандаль.

Другой асноўнай адзнакай якаснага разьвіцьця забясьпечваючай дзейнасьці зьяўляецца папаўненьне яе зваротаў таварамі, выстарчальнымі па ўмовах прамысловае прапановы і якія займаюць значнае месца ў спажывецкім бюджэце.

Адчак, будаваньне асартымэнту яшчэ далёка ад тых задач, якія стаяць перад спажыўкаапэрацыяй.

Абслугоўваньне спажыўца не абмяжоўвалася выключна пасярэдніцкай перадачай гатовага прадукту, а ішло таксама побач з разьвіцьцём вытворчасьцяй, якія зьвязаны з прасьцейшай перaапрацоўкай прадукта ў харчаваньня. У галіне хлебапячэньня і грамадзкага харчаваньня рабочая каапэрацыя мае значныя дасягненьні.

| | Грамадзкае харчаваньне | | | Хлебапячэньне | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 г. | 26-27 г. | 27-28 г. | 25-26 г. | 26-27 г. | 27-28 г. |
| Кольк. прадпрыемстваў . . . | 31 | 36 | 42 | 16 | 21 | 27 |
| Агульная выручка (у тыс. р.) | 2714 | 2769 | 3650 | 1545 | 2966 | 4786 |

Паданыя дадзеныя паказваюць на рост гэтых галін у 1927-28 г. 1928-29 г. прынёс у гэтых адносінах далейшыя зрухі, якія значна перавысілі плянавыя меркаваньні. Пераходзячы да другой асноўнай задачы спажывецкай каапэрацыі—загатоўчых апэрацый, трэба адзначыць узмацненьне актыўнасьці яе ў галіне ахвату сыравіны і збожжавых прадуктаў, якія даюцца сельскай гаспадаркай:

| Удзельная вага асноўных загатоўчых сыстэм | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. (плян) |
|---|---|---|---|
| Спажывецкая каапэр . . . . . . . . . . . . . | 21,8 | 28,1 | 32,9 |
| С.-г. каапэрацыя . . . . . . . . . . . . . . . . . | 91,6 | 34,3 | 38,7 |
| Дзяржаўныя арганізац. і інш. . . . . . . . . | 58,6 | 37,6 | 29,0 |

Спажыўкаапэрацыя досыць інтэнсыўна разьвіла экспартную дзейнасьць. Рост экспарту вызначыўся такімі абсалютнымі дадзенымі: у 1926 27 г. экспартавана на 286 тыс. руб., у 1927-28 г.—на 1029 тыс. р. і ў 1-ай палове 1928-29 г.—634 тыс. руб. Трэба дадаць, што гэты рост ішоў ня толькі за кошт пашырэньня работы з асноўнымі кантынгентамі, але ў вялікай меры за кошт усё большага ўцягненьня другарадных відаў (лектравы, грыбы, цыбуля, брусьніцы і г. д.).

## Арганізацыя і рацыяналізацыя таварапрасоўваньня

Па меры фармаваньня сыстэмы ў адзіную гаспадарку значна ўзрасьлі ўнутрыкаапэрацыйныя сувязі, якія зьяўляюцца выяўленьнем рацыяналізацыі функцый сыстэмы і іх дыфэрэнцыяцыі па асобных зьвенчаках.

| | Забесьпячаньне | | | Збыт загатовак | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Удзельная вага пакупнікоў у проц. | | | Спажыўтаварыствамі | | | | Саюзамі праз БКС |
| | РС і БКС | ЦРК і БКС | С. с/т у РС | Саюзам | Дзярж. арг. | Інш. каап. арг. | Перав. у забесьп. | |
| 1925-26 г. . . . . | 50,1 | 42,5 | 75,5 | 51,2 | 20,4 | 5,8 | 22,6 | 46,6 |
| 1926-27 г. . . . . | 60,0 | 47,3 | 73,5 | 48,4 | 17,5 | 8,7 | 25,4 | 35,9 |
| 1927-28 г. . . . . | 77,8 | 65,5 | 81,0 | 61,0 | 12,5 | 9,1 | 17,4 | 59,3 |

Больш нізкі каэфіцыэнт сувязі адзначаецца па лініі рабоча-гарадзкога сэктару па прычынах: па-першае—непасрэднае датыкальнасьці цэрабкопаў з шэрагам дробных вытворчых прадпрыемстваў і, па-другое—слабым

удзелам у цэнтралізованым звароце с.-г. прадуктаў. Гэтыя гандлёва-арганізацыйныя прабелы цяпер папаўняюцца гаспадарчай рольлю Белрабсэкцыі.

Арганізуючыя працэсы стварылі магчымасьць рацыяналізацыі шляхоў таварапрасоўваньня, пры тым ня толькі ў самой спажыўкаапэрацыі, але і за кошт ліквідацыі мноства інстанцый таварапрасоўваньня па лініі дзяржгандлю. Выявілася гэта ў ліквідацыі цэлага шэрагу дзяржгандлёвых аддзяленьняў (Мэталяскладу, Цукратрэсту, Солясындыкату, склады Продасілікату і Дзяржрыбсындыкату) з перадачай спажыўкаапэрацыі іх функцый.

Транзытны завоз тавараў атрымаў шырокае разьвіцьцё ў звароце БКС з райсаюзамі і ЦРК; у прасоўваньні-ж тавараў у сельскія зьвенчакі ён атрымаў вельмі невыстарчальнае разьвіцьцё:

| Удзельная вага транзыту ў зваротах | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. (плян) |
|---|---|---|---|---|
| | | (У процантах) | | |
| БКС, як рэспубліканскага цэнтру . | 87,7 | 93,6 | 95,2 | 97 |
| Райсаюзаў і аддзяленьняў БКСаюзу | — | — | 9,3 | 30 |

Слабое разьвіцьцё транзыту ў нізавы сельскі зьвянчак ў мінулым натыкалася на цэлы шэраг труднасьцяй аб'ектыўнага парадку (дробнараённасьць спажыўтаварыстваў, павагонныя адгрузкі і г. д.).

Усе гэтыя якасна-станоўчыя тэндэнцыі разьвіваліся на базе шырокага ажыцьцяўленьня за апошнія гады сыстэмы генэральных дагавораў, як найбольш рацыянальнай формы ўзаемадачыненьняў паміж каапэрацыяй і дзяржпрамысловасьцю. 1928-29 год характарызуецца ўкараненьнем асноўных прынцыпаў гэтае сыстэмы ва ўзаемадачыненьні паміж БКСаюзам і мясцовай саматужнай прамысловасьцю.

У 1927-28 годзе вызначыліся адзнакі пераходу гендагавораў на больш высокую ступень разьвіцьця, што знайшло сваё адлюстраваньне ў практыцы прышчапленьня сыстэмы папярэдніх заказаў, якія павінны стаць асноўнай формай якаснага плянаваньня звароту. Да апошняга часу, аднак, папярэднія заказы шырокага разьвіцьця не атрымалі, часткова зацьвердзіўшыся толькі ў тэкстыльнай галіне.

Пры ўсіх сваіх вялікіх перавагах, практыка генэральных дагавораў мае цэлы шэраг недахватаў. У першую чаргу сюды адносяцца сыстэматычныя перабоі ў адгрузках, з вынікаючым адгэтуль няроўнамерным рухам таварных патокаў. З другога боку, спажывецкая каапэрацыя БССР нярэдка сутыкаецца з фактамі замаскаванага процідзеяньня далейшаму разьвіцьцю гендагавораў, якое праяўляецца ў форме пагоршаньня ўмоў разрахункаў, незалежна ад зваротнасьці данай таварнай катэгорыі, невыкананьня агавораных асартымэнтаў, зацяжак у самым заключэньні дагавораў і, нарэшце, у спробах да непасрэдных сувязяй з нізоўкай, мінуючы саюзы.

Асобна трэба падкрэсьліць, што далейшае разьвіцьцё сыстэмы гендагавароў, як галоўнае рашаючае прадпасылкі для паглыбленьня дасягнутых посьпехаў у галіне плянавае арганізацыі таваразвароту, патрабуе ліквідацыі цэлага шэрагу існуючых у БССР дзяржгандлёвых і сындыкацкіх аддзяленьняў (як Саюзхлеб, Тэкстыльгандаль і інш.), ці тых, што выконваюць па сутнасьці лішнія функцыі „перадатчыкаў дублікату" спажыўсыстэме за салідную камісію або проста адрываюць ад каапэрацыі пэўную долю тавараў, якія з посьпехам могуць прайсьці праз каналы спажыўсыстэмы без усялякіх накладных выдаткаў.

## Выдаткі звароту

Дасягненьні спажыўсыстэмы ў галіне патаненьня таварапрасоўваньня вызначаюцца наступнымі дадзенымі (у %% да чыстага звароту па продажным кошце):

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|
| Накладныя выдаткі | 6,28 | 6,81 | 5,85 |
| Мат.-граш. страты | 1,54 | 0,94 | 0,69 |
| Падаткі | 1,46 | 2,45 | 2,68 |
| Агульна-гандл. выдат. | 9,81 | 8,57 | 7,45 |
| | 19,09 | 18,77 | 16,67 |
| Прыбытак | | | |
| Усяго кошт пасярэдніцкіх паслуг | 22,11 | 19,50 | 18,63 |

Падвышэньне катэгорыі незалежных выдаткаў у нізавых зьвенчаках у асноўным абумоўліваецца ўзмацненьнем цяжару падатковага абкладаньня, якое паглынала тыя некаторыя адносныя зьніжэньні, якія мелі месца па іншых элемэнтах незалежных выдаткаў (арэнда, кошт крэдыту і інш.). Па ЦРК падаткі павялічваюцца да 2,76 проц. у 1927-28 г. супроць 1,67 проц. у 1925-26 г., пры паніжэньні іншых незалежных выдаткаў з 2,40 проц. да 2,19 проц; па сельскіх спажыўтаварыствах падвышэньне падаткаў адпаведна з 0,97 проц. да 2,31 проц. пры стабільнасьці іншых незалежных. 1928-29 г. прынёс далейшае падвышэньне падаткаў.

Рэнтабэльнасьць спажыўсыстэмы БССР, якая абумоўлівалася ўзаемадзеяньнем паміж ступенямі зьніжэньня накладаньняў і выдаткаў, мела такія зьмены:

| Прыбытак | У %% да звароту па продажы 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | Нормы НКГ для 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Б. К. С. | 1,09 | 0,22 | 0,43 | 0,75 |
| Р. С. | 1,19 | 0,23 | 1,00 | 1,00 |
| Ц. Р. К. | 2,17 | 0,50 | 1,14 | 1,90 |
| С. Т. | 2,33 | 0,63 | 1,62 | 2,25 |

1926-27 г. прынёс рэзкае скарачэньне прыбыткаў у выніку больш моцнага зьніжэньня накідак, чым выдаткаў; 1927-28 г. даў ужо адваротныя суадносіны—рэнтабэльнасьць некалькі падвысілася, застаючыся ўсё-ж на прыкметна паніжаным, супроць норм НКГандлю, узроўні.

Але трэба адзначыць, што і гэта паніжэньне ў пэўнай ступені ішло за кошт рэнтабэльных загатоўчых апэрацый і падвышэньня прыбытку вытворчасьці. Значыць, па таварных апэрацыях недаборы норм прыбыткаў павялічваюцца.

Зьніжэньне выдаткаў у нізавых зьвенчаках свайго разьвіцьця атрымаць ня можа, бо пры такой устаноўцы ня можа быць ажыцьцёўлена асноўная праблема далейшай работы, г. зн. паляпшэньне якаснага боку абслугоўваньня спажыўца. Вырашэньне гэтай праблемы павінна ісьці побач пры скарыстаньні ўсіх рацыяналізатарскіх рэсурсаў, закладзеных у сыстэме, шэрагам дадатковых затрат, якія павінны быць кампэнсаваны нявычарпанымі яшчэ магчымасьцямі скарачэньня выдаткаў у гуртавых зьвенчаках.

Новыя формы накладаньняў прыбыткаў і выдаткаў для БССР, устаноўленыя НКГандлю на 1927-28 г.

| | Налажэньні 27-28 г. | Налажэньні 28-29 г. | Выдаткі 27-28 г. | Выдаткі 28-29 г. | Прыбыткі 27-28 г. | Прыбыткі 28-29 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Для саюзаў | 4,0 | 3,95 | 3,0 | 2,72 | 1,00 | 1,23 |
| „ Ц. Р. К. | 10,9 | 12,0 | 9,0 | 11,05 | 1,90 | 0,95 |
| „ С. Т. | 10,0 | 10,9 | 7,75 | 8,90 | 2,25 | 2,00 |

## Фінансы

Ва ўмовах значнага ўскладненьня функцый гаспадарчага звароту спажывецкай каапэрацыі праблема фінансаў набывае значэньне асноўнай прадпасылкі да вырашэньня ўсіх пытаньняў. Гэтым тлумачыцца тая сталая ўвага, якая спажывецкай каапэрацыяй зьвярталася да пытаньняў фінансавай і крэдытнай палітыкі. Будаваньне цэннасьцяй, якія мае спажыўкаапэрацыя БССР, паказвае падвышэньне долі зваротных сродкаў з 84,7 проц. на 1/Х-27 г. да 85,6 проц. на 1/Х-28 г. за кошт зьніжэньня ўдзельнае вагі немабільных актываў, і якое ідзе побач у пасыве з ростам удзельнае вагі ўласных сродкаў з 27,4 проц. да 31,2 проц.

Паявым капіталам пачынае належаць усё больш значнае месца.

Аднак дасягнутая паявым капіталам ўдзельная вага ва ўласных сродках сыстэмы яшчэ далёка невыстарчальная, тым больш ва ўмовах узрастаючага падцягваньня іх з раздробных зьвенчакоў у гуртавыя. Гэта падцягваньне абумоўліваецца ўсё ўзрастаючымі патрэбамі БКС і райсаюзаў ва ўнутраных рэсурсах, адпаведна ўзрастаючай ролі іх у арганізацыі каапэрацыйнага тавараабароту.

Рост уласных сродкаў у звароце праходзіў у тэмпах, якія абумовілі паступовае павялічэньне іх удзельнае вагі ва ўсіх зваротных фондах, па Белкаапсаюзе—ад 3,7 проц. на 1/Х-26 г. да 5,5 проц. на 1/Х-28 г., і адпаведна у райсаюзах—ад 8,4 проц. да 13,3 проц.; у сельскіх спажыўтаварыствах—з 3?,3 проц. да 40 проц і ў ЦРК з 10,7 проц. да 11,6 проц.

Наогул фінансавая гаспадарка спажыўкаапэрацыі БССР разьвіваецца ў бок арганічна здаравое пабудовы капіталаў. На дадзенай стадыі свайго стану яна яшчэ не ахватвае аб'ёму гаспадарчай дзейнасьці спажыўсыстэмы, тым больш ва ўмовах складанасьці ўсіх рыначных абставін і кан'юнктурных цяжкасьцяй.

## Самадзейнасьць і ўдзел у каапэрацыі пайшчыкаў

У апошнія гады на гэтым асноўным вучастку спажыўкаапэрацыя БССР мае значныя дасягненьні. У асноўным яны зводзяцца да таго, што інтэнсыўнаму працэсу колькаснага ўцягненьня насельніцтва ў каапэрацыю дапамагала ўзмацненьне матар'яльнага ўдзелу яго ў каапэрацыйным будаўніцтве.

Значная ўвага зьвернута на каапэраваньне бядняцка-батрацкай праслойкі сяла. У задачах поўнага ўцягненьня ў працягу бліжэйшых 2 год усіх беднякоў і батракоў вёскі праведзена работа да гэтага часу: ужо каапэравана на 1/Х—28 г. 83,7 тыс. беднякоў, і запраэктавана каапэраваньне ў 1928-29 г. ня менш 50 тыс.; пры максымальным напружаньні сыстэмы, пры правільным і своечасовым скарыстаньні фондаў гэта задача, як зусім рэальная, можа і павінна быць ажыцьцёўлена.

Пачынаючы з 1928-29 г. спажыўкаапэрацыя ажыцьцяўляе свой удзел у агульнай калектывізацыі сельскае гаспадаркі, тым самым узмацняючы аграмаджаньне спажываньня.

Трэба яшчэ паказаць, як на вельмі важнае мерапрыемства, на ўвядзеньне дыфэрэнцыяванага паю; яго рэалізацыя ўжо пачалася ўсюды.

Актыўнасьць і самадзейнасьць шырокіх каапэрацыйных мас у каапэрацыйным будаўніцтве ператвараецца ў асноўную, рашаючую і рухаючую сілу. Разьвіцьцё каапэрацыйнай грамадзкасьці, актыўны ўдзел мас ў кіраваньні і кантролі адчынілі шырокія магчымасьці да пераходу сельскага зьвенчаку на больш гібкія формы грамадзкага кіраваньня і разам з тым забясьпечваюць узмацненьне сацыялістычнага кіраўніцтва ў выбарчых органах. Процант спажыўтаварыстваў, што кіруюцца сходам упаўнаважаных, дасягнуў ў 1927-28 г. 75 проц., супроць 35 проц. у мінулым годзе.

Сацыяльны склад выбарчых органаў значна палепшыўся. Асабліва гэта сказалася ў выніках справаздачна-перавыбарчай кампаніі 1928 29 г. У складзе праўленьняў павялічылася ўдзельная вага рабочых і беднякоў з 35,5 проц. у 1926-27 г., 42 проц. у 1927-28 г. да 49,: проц. у 1928-29 г.; у рэвізійных камісіях адпаведна—20,7 проц., 25,5 проц. і 28 проц. Няўхільна ўзмацняецца ў выбарчых органах партыйная і камсамольская праслойка, яе ўдзельная вага падвысілася: у праўленьнях—з 28,8 проц. у 1926-27 г., 36,3 проц. у 1927-28 г. да 45,7 проц. у 1928-29 г.; у рэвізійных камісіях адпаведна—26 проц., 31,4 проц. і 36,5 проц.

---

Эвалюцыя будаўніцтва спажывецкай каапэрацыі БССР характарызуецца тэндэнцыямі паступовага ўмацаваньня і росту значэньня ня толькі як тавараправодзячай сыстэмы, але і як сыстэмы, якая арганізуе рабоча-сялянскага спажыўца. На сёньняшні дзень спажыўкаапэрацыя прадстаўляе сабою адзіную гаспадарчую сыстэму са строга разьмежаванымі функцыямі і аб'ёмам работы ў кожным зьвенчаку, што ўзводзіць яе ў асноўны падважнік рэгуляваньня рыначных суадносін. Самы факт гаспадарчае адсталасьці спажыўкаапэрацыі БССР наперад вызначае з усёй катэгарычнасьцю неабходнасьць энэргічных тэмпаў будаўніцтва каапэрацыі на ўсіх вучастках яе работы. Асноўнай умовай дзеля гэтага зьяўляецца зьмена ў корані палітыкі таварнага забесьпячэньня Беларусі на аснове прывядзеньня яе ўдзельнае вагі ў разьмяркоўваемых таварных фондах у адпаведнасьць з агульнай удзельнай вагой БССР ва ўсёй народнай гаспадарцы Саюзу. Стварэньне тых спрыяючых умоў ажыцьцяўленьня ўзмоцненага капітальнага перабудаваньня асноўных фондаў спажыўкаапэрацыі Беларусі надае сабою адзін з рашаючых зьвенчакоў у ланцугу мерапрыемстваў, якія патрэбны для нармальнага разьвіцьця спажыўсыстэмы Беларусі.

---

# Са справаздачы старшыні праўленьня Белсельсаюзу т. Дубіны

*(на пасяджэньні савету Белсельсаюзу 7/V 1929 г.)*

Сельская гаспадарка перажывае цяпэр эпоху ломкі старых спосабаў гаспадараньня, старых мэтадаў скарыстаньня сіл прыроды. Раздробленая сялянская гаспадарка пачынае перабудоўвацца ў гаспадарку буйную, абагуленую, сацыялістычную. Кіраўніком гэтага працэсу перабудовы, арганізатарам сельскай гаспадаркі павінна стаць і становіцца рабочая кляса, і каапэрацыя павінна пад кіраўніцтвам рабочае клясы зрабіцца сапраўдным будаўніком новых форм гаспадаркі.

Каб зрабіцца такім будаўніком новае сацыялістычнае гаспадаркі, каапэрацыя павінна, побач з усямерным разьвіцьцём збытавое працы, пашыраць усё больш і больш галіну вытворчага каапэраваньня, перабудоўваць сваю працу ў новым напрамку ўва ўсіх сваіх, якія пачынаюць толькі яшчэ разьвівацца, спэцыяльных сыстэмах.

Разгортваючы такія новыя формы, як контрактацыя, якія адчыняюць новыя магчымасьці ў галіне масавае калектывізацыі сялянскай гаспадаркі, у галіне пабудовы буйнай абагуленай сялянскай гаспадаркі, узмацняючы рост калгасаў і іх уплыў на сялянскую гаспадарку,—каапэрацыя павінна ўцягваць усё новыя і новыя масы беднаты і серадняцкага сялянства ў вытворчае каапэраваньне і садзейнічаць уздыму і каранной перабудове індывідуальнай сялянскай гаспадаркі.

Будуючы ўсю сваю працу ў напрамку абмежаваньня капіталістычных элемэнтаў вёскі і наступу на іх, у напрамку ўсямернае дапамогі бядняцка-серадняцкім індывідуальным гаспадаркам шляхам уцягненьня іх у свае шэрагі, у напрамку далейшага росту калектыўных гаспадарак, сел.-гасп. каапэрацыя вырывае найбольш глыбокія і найбольш жывучыя карэньні старых дасацыялістычных і нават дакапіталістычных адносін, забясьпечваючы гэтым паступовае перарабленьне дробных адсталых гаспадарак у буйную сацыялістычную гаспадарку.

Гэты працэс утвараецца цяпер у вёсцы, і каапэрацыйныя працаўнікі становяцца актыўнымі ўдзельнікамі першага падыходу да ажыцьцяўленьня каапэрацыйнага пляну Леніна, неразрыўную частку якога складае калектывізацыя сельскай гаспадаркі; калі каапэрацыя становіцца „простым, лёгкім і даступным для селяніна сродкам практычна будаваць сацыялізм", і калі неабходнасьць вытворчага накіраваньня дзейнасьці сел.-гасп. каапэрацыі, як кіруючую ідэю, нібы досыць добра зразумелі каапэрацыйныя працаўнікі і каапэрацыйная грамадзкасьць,—дык ужываньне, якое дала практыка першага падыходу каапэрацыі да гэтае вытворчай працы, надае сабою яшчэ далёка няскончаную задачу.

Увесь каапэрацыйны рух перажывае цяпер такое становішча, калі ў сувязі з праяўленай самадзейнасьцю і ініцыятывай шырокіх мас бедняты і серадняцтва ў адшуканьні шляхоў паляпшэньня свае гаспадаркі патрэбны далейшыя практычныя крокі ва ўсіх галінах каапэрацыйнай працы і перш за ўсё ў галіне вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі.

Вось гэту новую задачу—задачу вытворчага каапэраваньня, якую ў бліжэйшыя гады нельга адлучыць ад задачы падвышэньня ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі,—сельска-гасп. каапэрацыя і павінна разьвязаць, працуючы па-новаму, новымі мэтадамі.

Між іншым у нас у рабоце ёсьць яшчэ шмат старога, таго бюракратычнага, няжывога, бяздушных адносін да вялізарнейшае справы пабудовы сацыялізму, што робіць гэту новую задачу ў той-жа час задачай цяжкаю.

Мы яшчэ не адчуваем на справе, у нашай рабоце, што сел.-гасп. каапэрацыя ёсьць сапраўды жывая масавая арганізацыя, шчыльна зьвязаная працаю па гаспадарчаму з вытворчасьцю ў сельскай гаспадарцы. Мы яшчэ ў шэрагу выпадкаў бачым казённа-чыноўніцкі падыход да справы з боку адказных працаўнікоў, асабліва цэнтральнага і некаторых акруговых каапэрацыйных апаратаў, калі гэтыя працаўнікі ніколі самі не заглядваюць на склады с.-г. машын і прылад, ня ведаюць самі, што там робіцца: чаму псуюцца гэтыя машыны, чаму па некалькі месяцаў няма расцэнак на тавары (склады ў Менску, чыгункі і Акркрэдсельгаспсаюз), у якім выглядзе завозяцца машыны на вёску, як яны хаваюцца і як прадаюцца са складаў нізоўкай? каго менавіта мы забясьпечваем машынамі пераважна: бедняка, серадняка ці кулака?...—У нас няма сацыяльнага вучоту, і мы ня досыць цікавімся гэтай справай ў нашай штодзённай рабоце. І калі разабрацца належным чынам, дык наш друк быў праў, зьмяшчаючы артыкулы ў газэтах па гэтых пытаньнях—машын і складаў, выкрываючы ўсю хваробу іх.

Другое, Гомельскі Палессельсаюз да гэтага часу вядзе лесараспрацоўкі, гандлюючы лесам, не выдае грошы малочна-жывёлагадоўчаму саюзу затрымлівае гэтым разьвіцьцё малочнае каапэрацыі. Замест вызначаных па пляну 40 проц. крэдыту на вытворчае каапэраваньне,—выдае толькі 15 проц. (матар'ялы і пастанова праўленьня Белсельсаюзу ад 23 сакавіка 1929 г.), аддаючы вытворчыя крэдыты і наогул сродкі на непатрэбны

гандаль, перашкаджаючы асноўнай вытворчай рабоце па каапэраваньню вёскі, ня выконваючы паміж тым па гэтаму пытаньню пастанову праўленьня Белсельсаюзу ад 11 мая 1928 г.

Палессельсаюз, як забесьпячальны каапэрацыйны цэнтр сродкамі вытворчасьці, ня зьвязаны ў рабоце з акруговымі спэцыяльнымі саюзамі, і як быццам гэта справа яго ня тычыцца. Калі больш уважліва пакапацца, дык такіх прыкладаў можна знайсьці і па другіх акругах—яны ёсьць, што можна бачыць з матар'ялаў па абсьледваньню акруг. газэт, і ў выніку выездаў на месца членаў праўленьня Белсельсаюзу. Усё гэта сьведчыць аб тым, што мы сёньня ня маем таго рашучага пералому ў працы, які павінен быць згодна пастановы 15-га зьезду нашай камуністычнай партыі, што мы ня досыць павярнуліся да вытворчае работы па каапэраваньню і калектывізацыі сельскай гаспадаркі і не ўзяліся за гэту работу аберуч, са ўсёй рашучасьцю, што ў нас дзякуючы слабасьці нашага апарату ёсьць хвасты, якія цягнуць нас назад і шкодзяць нам працаваць па-новаму, па-сучаснаму.

Пагэтаму я і будую свой даклад, пачынаючы з гэтага, каб перад саветам больш завастрыць гэтае пытаньне.

За мінулы час, за шэсьць месяцаў, перад сыстэмай сел.-гасп. каапэрацыі стаяла галоўнейшая задача—падрыхтоўка і правядзеньне вясновае пасяўное кампаніі. Я павінен зазначыць, што да гэтай працы сыстэма зьверху да нізу прыступіла своечасова, яшчэ пачынаючы з кастрычніка месяца 1928 г. Але гэта падрыхтоўчая праца мела некаторы разрыў, які тлумачыцца тым, што нашы пляны ў практычным правядзеньні перарываліся ў сувязі з тым, што працаўнікі часткова адцягваліся для выкананьня іншых кампаній, а, з другога боку, мы самі, пачаўшы своечасова гэту падрыхтоўчую працу, не правялі яе такім тэмпам, якім мы павінны былі яе праводзіць. Дзякуючы гэтаму мы ў значнай частцы спазьніліся з правядзеньнем вясновае пасяўное кампаніі, асабліва спазьніліся па правядзеньню галоўнейшага мерапрыемства—па кантрактацыі.

На працягу лістапада-сакавіка месяцаў усе інструкцыі, усе дырэктывы, загады, якія мы павінны былі даць,—далі. Наш другі зьвенчак і, галоўным чынам, нізоўка яшчэ больш спазьніліся ў тым, што ня зусім зразумелі сэнсу правядзеньня кантрактацыі, ня гледзячы на тое, што з боку Белсельсаюзу і да сакавіка месяца былі дадзены амаль усе інструкцыі, формы дагавораў і інш., і выяжджаў шэраг працаўнікоў Белсельсаюзу і цэнтральных устаноў па правядзеньню пасеўкампаніі.

Потым, як вынік такое спозьненасьці, такіх нядбайных адносін да правядзеньня кантрактацыі, мы мелі і ў палітычным і ў эканамічным сэнсе бязумоўна адмоўнае зьявішча, калі. ня гледзячы на дадзеныя зусім яскравыя ўстаноўкі, кантрактаваць лішкі таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі, кантрактуючы ў першую чаргу нашы калектыўныя гаспадаркі і праводзячы кантрактацыю сярод беднаты, і г. д.,—па некаторых акругах гэта дырэктыва ня была панята, яна была перакручана. І мы мелі такое становішча, калі закантрактавалі ня лішкі, а агульную плошчу, і, напрыклад, такі выпадак, калі гаспадарку ў 3 дзесяціны закантрактоўвалі поўнасьцю. Зразумела, калі мы кантрактуем ня лішкі таварнае прадукцыі, а наогул ўсю пасяўную плошчу, дык вядома, што такая кантрактацыя ня будзе даваць ніякіх карысных вынікаў ні дзяржаве, ні самой сялянскай гаспадарцы.

Потым, ня гледзячы на тэрміны, што былі дадзены для спагнаньня кантрактацыі мінулага году і якія ўжо прайшлі, мы да гэтага часу маем спагнаньне па старой кантрактацыі толькі максымум каля 60 проц.

Такім чынам і мінулая кантрактацыя ў нас знаходзілася вельмі і вельмі ў нездавальняючым становішчы, і мы зараз прымушаны былі даць такія дырэктывы, каб да 15 мая поўнасьцю скончыць спагнаньне па старой кантрактацыі, дапушчаючы спагнаньне грашыма з тых гаспадарак, якія ня маюць ніякай магчымасьці зьвярнуць закантрактаваную прадукцыю натурай, і ў некаторых выпадках перазаключыць дагаворы.

Праўленьне Белсельсаюзу лічыць, што ў правядзеньні мінулай кантрактацыі маюцца вельмі значныя недахопы, якія мы павінны будзем самым рашучым чынам зьнішчыць, выправіць, каб у нашай працы пры правядзеньні кантрактацыі ў будучым годзе ўсё гэта ўлічыць і не дапусьціць тых памылак, якія, бязумоўна, мелі месца.

Потым, мы ня выканалі пляну нашых мясцовых загатовак па насеньню. Ёсьць пагроза, што наш плян па нарыхтоўцы 150.000 пудоў насеннай бульбы ў Гомельшчыне для Віцебскай і Полацкай акруг ня будзе выканананы, па-першае, таму, што мы прапусьцілі гэтую загатоўку, а падругое, таму, што апусьцілі рукі, калі наехалі загатоўцы з розных гарадоў. Замест таго, каб, пры наяўнасьці на мясцох апаратаў Наркамгандлю, усё-ж такі трымаць бульбяны рынак у сваіх руках і рашуча выконваць пляны нарыхтовак, некалькі паслабілі гэтую работу, і зараз цяжка быць упэўненым, што мы выканаем наогул плян Белсельсаюзу па завозу Віцебску і Полацку 400 тыс. пуд. бульбы.

Трэба адзначыць, што Мазырская акруга, ня гледзячы на тое, што мы далі толькі ў сакавіку нарад на адгрузку 50.000 пуд. насеннай бульбы, амаль што выканала свой плян. Значыць, тут вялікую ролю адыгрываюць ня толькі мясцовыя ўмовы, на якія мы больш за ўсё спасылаемся, але і вялікую ролю адыгрывае ўменьне працаваць, моцнасьць нашага апарату, прыстасаванасьць яго да загатовак.

Агульны недахоп правядзеньня вясеньняй пасяўной кампаніі—гэта тое, што мы маем задавальненьне нашага пляну па канюшыне толькі на 40 проц. Гэта, таварышы, бязумоўна, будзе мець агульны адбітак на правядзеньні агульнай нашай пасяўной кампаніі і асабліва будзе мець адбітак на ільнаводных раёнах — Віцебскай і Полацкай акругах.

Адсутнасьць малочнага інвэнтару таксама ў значнай частцы затрымлівае выкананьне пляну па малочнай каапэрацыі, па каапэраваньню сялянскіх гаспадарак, і мы толькі ў апошні час пачынаем выконваць наш плян, пачынаем атрымоўваць тыя заказы, якія былі дадзены беларускай прамысловасьці, а таксама і забесьпячальным цэнтрам сел.-гасп. забесьпячэньня ў Маскве.

Ня гледзячы на тое, што ў гэтым годзе наша сельская гаспадарка будзе амаль што поўнасьцю забясьпечана сел.-гасп. машынамі, мы маем шэраг недахопаў. Па-першае, галоўны недахоп ў тым, што мы не пасьпелі правесьці раёнаваньне складачных памяшканьняў, мы яшчэ не наладзілі сыстэмы транзытнага завозу проста ў нізоўку нашых сел.-гасп. машын і прылад. Дзякуючы гэтай неналаджанасьці мы мелі такое становішча, калі нашы акрсельсаюзы машыны і прылады завозяць да сябе на склады у акруговых цэнтрах, там выгружаюць і потым зноў пагружаюць на чыгунку і развозяць па раёнах у нізоўку. Такім чынам, мы мелі зусім лішнія накладныя выдаткі, як, напрыклад, Гомельская акруга—6 проц. накладных выдаткаў на гэтых адгрузках і выгрузках, зусім непатрэбных.

Ня гледзячы на шэраг недахопаў, якія мы адзначаем у сваім дакладзе, усё-ж у нас ёсьць упэўненасьць, што мы гэту пасяўную кампанію, бязумоўна, правядзём здавальняюча. У нас ёсьць такая надзея, што пры

сярэднім ураджаі мы ўсё-такі, ня гледзячы на цяжкасьці, праўда, не па кожнай акрузе, але ў сярэднім выканаем пастанову нашага ўраду наконт ўздыму ураджайнасьці ў гэтым годзе на 7 проц., і пашырэньня пасяўное плошчы на 3 проц. У нас такая рэальная ўпэўненасьць, пабудаваная на эканамічнай падставе, ёсьць.

Я хачу спыніцца на выкананьні нашага пляну па калектывізацыі. Я тут падам кароткія але вельмі характэрныя лічбы. Па рэспубліканскаму пляну калектывізацыі сельскай гаспадаркі сыстэмай сел.-гасп. каапэрацыі прадугледжваецца арганізаваць на працягу 1928-29 гаспадарчага году 360 калгасаў на плошчы 52.850 гэкт. На 15 красавіка гэтага году мы ў ліку гэтых заданьняў маем арганізаваных калгасаў 287 на плошчы 35.222 гэкт. Такім чынам, на працягу 5½ месяцаў гадавое заданьне па калектывізацыі сел.-гасп. каапэрацыяй выканана на 79,7 проц. па колькасьці калгасаў і 66,6 проц. на плошчы.

На першым месцы па якасьці калектывізацыі стаіць Гомельшчына.

Мы каапэравалі за гэтае паўгодзьдзе 68.244 сялянскія гаспадаркі і выканалі плян ўсяго толькі на 38,7 проц., што зьяўляецца невыкананьнем нашага пляну. Разам з гэты трэба адзначыць, што тэмп каапэраваньня значна адстае ад тэмпу арганізацыі сеткі. Усяго на 1/IV-1929 г. каапэравана 58,1 проц., у тым ліку—40,5 проц. каапэравана с.-г. крэдытнымі таварыствамі і 17,6 проц. вытворчымі аб'яднаньнямі.

Фонд беднаты не скарыстаны ў суме 57.509 руб. на 1/IV-29 г. Тут трэба вінаватых рашуча прыцягнуць да судовае адказнасьці.

Вось, гэтыя лічбы гавораць аб тым, што, ня гледзячы на пастанову ўраду, нашы дырэктывы і г. д., мы маем такое становішча, калі арганізацыя калектыўных гаспадарак ідзе больш па лініі дробных гаспадарак. Праўда, за апошні час мы маем значны пералом у бок арганізацыі найбольш буйных гаспадарак, напрыклад, у Бабруйшчыне, у Гомельшчыне, у Магілеўшчыне. Гэта ёсьць толькі першы крок гэтага пералому. Зусім кепска са справаю па каапэраваньню бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Ці будзе выкананы наш плян? У нас ёсьць такая ўпэўненасьць, што наш плян па калектывізацыі сельскай гаспадаркі і каапэраваньню будзе выкананы пры умове, калі да тых крэдытных сродкаў, якія мы маем ў суме 3.800 000 руб. на выкананьне гэтага пляну,—мы будзем мець яшчэ дадаткова 1 мільён руб., бо для таго, каб арганізаваць буйныя калектыўныя гаспадаркі, патрабуюцца вельмі і вельмі значныя сродкі, і пры ўмове ўзмацненьня нашага апарату, асабліва нізоўкі.

Вялікім недахопам у нашай працы за 1-е паўгодзьдзе гэтага году, а таксама і на працягу мінулага году гэта было тое, што мы да гэтага часу яшчэ не разгарнулі працы па правядзеньню індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі па нашай лініі. Я тут пералічваць падрабязна ўсё ня буду таму, што гэта зойме шмат часу. Але які малюнак мы маем у гэтым годзе з правядзеньнем галоўнейшага мерапрыемства па індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі нашай сыстэмай? Плян па пабудове шэрагу прадпрыемстваў на мясцох па перапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны ЭКАНА зацьверджаны на суму 1.978.000 руб.: па малочнай каапэрацыі—587.000 руб., па яйкавых апэрацыях—59.000 руб., па ільно-апрацоўчай—322.000 руб., па садова-гароднай—117.000 руб., па бульбяной—131.000 руб., па апрацоўчай бульбу каапэрацыі — 215.000 руб., па млынавай у калгасах—33.000 руб., па вапеннай—624.000 руб.

Я павінен зазначыць, што да правядзеньня індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі па нашай лініі мы да гэтага часу амаль яшчэ ня прыступілі, і ў мінулым годзе тыя сродкі, якія былі вызначаны па дзяржаўнаму бюджэту, амаль што не скарыстаны.

Чым гэта тлумачыцца? Тлумачыцца гэта ня тым, што само праўленьне не хацела ў мінулым годзе і ў гэтым годзе выконваць гэты плян, выконваць пастановы ўраду, а што мы яшчэ далёка не падрыхтаваны для вялікае справы. Наш апарат недастаткова зьверху да-нізу прыстасаваўся да пабудовы на мясцох гэтых прадпрыемстваў.

Некалькі хачу спыніцца на агнятрывалым будаўніцтве. Мы маем на 1 кастрычніка 1928 г. 182 агнятрывалыя таварыствы па Беларусі, і каапэраваных у агнятрывалыя таварыствы—4.563 пайнікі.

Трэба сказаць, што, ня гледзячы на тое, што ёсьць дырэктыва нашых органаў, што гэтыя агнятрывалыя таварыствы павінны быць перададзены або больш пэўна прыняты (бо некаму перадаваць, імі ніхто ня кіруе) Белкустпрамсаюзам, да гэтага часу гэта дырэктыва ня выконваецца. І мы бачым у нашай такой вялікай гаспадарчай справе, якая павінна шчыльным чынам увязвацца з правядзеньнем усіх агульных мерапрыемстваў па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, якая ў нашых беларускіх умовах пры недахопе будаўнічых матар'ялаў, магла-б адыграць, калі-б мы правільна і надобра яе арганізавалі, вялікую ролю ў нашым агульным будаўніцтве народнай гаспадаркі, мы гэта вялікае мерапрыемства маем яшчэ бяспрытульным.

Таму мы за апошні час гэта пытаньне паставілі перад ЭКАНА, каб наш урад вынес рашучую' пастанову, каб на гэта агнятрывалае будаўніцтва быў гаспадар, каб ён кіраваў гэтай вялікай справай.

Зараз мы склалі пяцігодку сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі Беларусі. Гэта пяцігодка прапушчана праз дзяржплян, і ў бліжэйшыя часы мы гэту пяцігодку павінны будзем дакласьці прэзыдыуму ўсесаюзнага каапэрацыйнага цэнтру у Маскве. Для таго, каб не адцягваць вашу ўвагу ад тых пытаньняў, якія мы сёньня ставім ў парадку самакрытыкі нашых недахопаў, мы рашылі спэцыяльна і падрабязгова на гэтым пытаньні ня спыняцца сёньня, а паставіць пяцігодку на наступным пасяджэньні савету.

---

С. Кудзінаў

# Калгасы Беларусі і вясеньні сеў

У гэтую пасеўную кампанію, як ніколі, перад сацыялістычным сэктарам сельскае гаспадаркі паўстаюць вялізарныя задачы: рашучы курс на арганізацыю буйных калгасаў, калгасаў-гігантаў, мерапрыемствы па ўзбуйненьню існуючых калгасаў, канкрэтныя задачы масавай калектывізацыі вёскі, ажыцьцяўленьне пастановы ўраду аб аграмінімуме для калгасаў, якой уводзяцца абавязковыя для калгасаў агрыкультурныя палепшаньні ў сельскай гаспадарцы, індустрыялізацыя электра- і радыёфікацыя калгасаў.

## Арганізацыя новых калгасаў

Аднэй з галоўных задач калгассаюзаў і земорганаў сёньня зьяўляецца ўсялякая дапамога бядняцка-серадняцкім масам сялянства, якія жадаюць пабудаваць сваё жыцьцё на падставе калектывізацыі—зарганізавацца ў калгасы.

Але да апошняга часу большасьць нанова арганізуемых калгасаў—дробныя; сярэдні памер калгасу ў параўнаньні з лічбамі на 1/IV г. г. мала павялічыўся—з 123 гэкт. толькі да 129,9 гэкт. (на 6,9 гэкт.).

Трэба адзначыць, што некаторыя акркалгассаюзы, напрыклад, Магілеўскі і Віцебскі, ў сваіх плянах намецілі непасільныя задачы па арганізацыі дужа вялікай колькасьці калгасаў, і што іх пляны застануцца няжыцьцёвымі, нявыкананымі.

Якасны бок ствараемых калгасаў па акругах высьвятляюць наступныя лічбы (на 20/IV—29 г.):

| НАЗВА АКРУГ | Сярэдні памер калгасу (у гэктар.) | Сярэдняя колькасьць аб'яднаных двароў |
|---|---|---|
| Аршанская | 98,1 | 12,6 |
| Бабруйская | 162,2 | 13,6 |
| Віцебская | 87,8 | 10,3 |
| Гомельская | 214,6 | 18,8 |
| Менская | 96,1 | 10,0 |
| Магілеўская | 106,4 | 14,9 |
| Мазырская | 172,9 | 12,9 |
| Полацкая | 102,2 | 12,2 |
| У сярэднім па БССР | 129,9 | 13,4 |

Такім чынам, найбольш буйныя калгасы ствараюцца ў Гомельшчыне, Бабруйшчыне і Мазыршчыне. Зусім дрэнная справа ў гэтым напрамку ў Віцебшчыне, Меншчыне і Аршаншчыне.

Канечне, сярэдняя плошча калгасаў у гэтых акругах некалькі падвысіцца пасьля земляўпарадкаваньня за кошт 30 проц. прырэзкі і іншых галін, але-ж гэта ня выхад.

## Буйныя калгасы

У той час, калі цяпер у калгасным будаўніцтве бярэцца стаўка на буйныя калгасы, плошчай у некалькі тысяч гэктараў, якія апрацоўваюцца трактарнымі калёнамі, абслугоўваюцца рознымі складанымі машынамі,—калгасы ў 100-150 гэкт. зьяўляюцца больш чым дробнымі.

Пагэтаму трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на ставарэньне больш буйных калгасаў, на ўзбуйненьне існуючых і на арганізацыю куставых аб'яднаньняў калгасаў.

Што мы маем у гэтым напрамку па акругах? Трэба прызнацца, што яшчэ вельмі мала...

Гэта відаць з наступнага: нанова арганізаваных калгасаў, якія маюць плошчу звыш 200 гэкт., маецца па акругах: Аршанскай—4 калгасы, Бабруйскай—24, Віцебскай—2, Гомельскай—20, Менскай—6, Магілеўскай—7, Мазырскай—13, Полацкай—1, а ўсяго 77 калгасаў.

Гэта адзначае, што толькі 20,3 проц. ад усіх нанова арганізаваных калгасаў маюць плошчу звыш 200 гэкт.

Буйных-жа калгасаў на сёньня мы маем так мала, што іх можна без усялякай цяжкасьці пералічыць. Гэта: па Бабруйскай акрузе—у вёсцы Кароткавічы—калгас з 75 сямей на плошчы 1000 гэкт.; у вёсцы Чапялі—з 62 двароў—на 349 гэкт., „Расьсьвет—852 гэкт. і яшчэ шмат калгасаў;па Гомельскай акрузе—1 калгас на плошчы 1000 гэкт. у вёсцы Аровічы, і 20 калгасаў на плошчы ад 200 да 600 гэкт. кожны; па Магілеўскай акрузе—арцель „Ленінскі Шлях"—з 372 сябрамі—на плошчы да 1600 гэкт.; арцель „Чырвоны Ўсход"—300 гэкт., „Фрайгайт" і „Наер Вег"—па 400 гэкт., „імя 10-годзьдзя БССР"—360 гэкт.; па Мазырскай акрузе—1 калгас на плошчы 1000 гэкт., у Пятрыкоўскім раёне.

### Куставаньне калгасаў

У мэтах паляпшэньня агравытворчага абслугоўваньня калгасаў і іх індустрыялізацыі ў кожнай акрузе арганізаваны куставыя аб'яднаньні калгасаў. Да апошняга часу па БССР налічваецца 41 куставое аб'яднаньне, у якія ўваходзяць каля 250 калгасаў.

Асноўнымі недахопамі ў справе куставаньня калгасаў зьяўляюцца адсутнасьць ў цэлым шэрагу кустоў куставых аграномаў, вялікі радыус некаторых кустоў, які дасягаў 15-20 вёрст, і, у паасобных выпадках, ахапленьне кустовым аб'яднаньнем цэлых адміністрацыйных раёнаў, што наогул не дае магчымасьці нармальна абслугоўваць такія кусты.

### Перарастаньне ў складаныя формы

У гэтым годзе пачала разгортвацца праца па пераводу прасьцейшых калгасаў у больш складаныя формы. Гэтае цікавае зьявішча перарастаньня адных вытворчых форм у больш складаныя ствараецца ў выніку большага абагуленьня сродкаў вытворчасьці гэтых калгасаў. Па БССР з 1/X—28 г. па 15/IV—29 г. маецца 40 выпадкаў такога перарастаньня, у тым ліку— 1 садова-гароднае т-ва перарасло у с.-г. арцель, 29 таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі—у арцелі і камуны і 10 арцеляй—у камуны.

### Забесьпячэньне сродкамі вытворчасьці

Пасяўнымі крэдытамі калгасы БССР забясьпечаны амаль што ў поўным памеры іх пляну (на ўгнаеньне, насеньне і сельска-гаспадарчыя машыны). Крэдыты выдаюцца на падставе разьмеркаваньняў акркалгассаюзаў.

Насеньнем калгасы наогул будуць забясьпечаны, за выключэньнем лубіну і вікі. Апроч таго, для калгасаў Аршаншчыны не хапае насеньня пшаніцы і бульбы, для калгасаў Меншчыны і Магілеўшчыны—канюшыны.

Таксама больш-менш забясьпечаны калгасы і мінэральным угнаеньнем, за выключэньнем Менскай, Магілеўскай, Аршанскай і Бабруйскай акруг (апошняя забясьпечана калійным угнаеньнем толькі на 10 проц.).

Сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі калгасы таксама задаволены, за выключэньнем трактараў, якіх не хапае Полацкай акрузе—10, Бабруйскай—9, Магілеўскай—2. Апроч таго, калгасам Аршаншчыны не хапае 59 складаных машын (канюшынных сеялак, сенакасілак, сартыровак, жняярак, конных грабель), а таксама 85 культыватараў, акучнікаў і палольнікаў; калгасам Меншчыны не хапае дыскавых сеялак і інш. Амаль што ўва ўсіх акругах няма малочнага інвэнтару.

### Насеньняачыстка і контрактацыя

Насеньняачыстка ў калгасах праводзілася больш-менш здавальняюча. Уласнае насеньне ачышчана ўсімі калгасамі поўнасьцю на 100 проц., а таксама ачышчана каля 100.000 пудоў сялянскага насеньня. Звыш 35 проц. усяго гэтага насеньня ачышчана калгасамі Віцебскай акругі.

Выяўленьне якасьці насеньня ў парадку праверкі ўсхожасьці і гаспадарчай ужытнасьці ў большасьці калгасаў не праводзілася.

Кантрактацыя ў калгасах у параўнаньні з мінулым годам значна павялічылася, але-ж плянавыя заданьні яшчэ ня выкананы.

Слабы тэмп кантрактацыі сярод калгасаў Бабруйшчыны тлумачыцца наступнымі прычынамі: вялікімі нормамі здач прадукцыі кантрактуемых культур, параўнальна малым авансам па некаторых культурах і цэлым шэрагам недарэчнасьцяй і недахопаў ў кантрактацыі мінулага году.

У Полацкай і Аршанскай акругах кантрактацыя калгасамі ў значнай меры ня выканана па тых-жа прычынах. У некаторых раёнах Полаччыны (Ветрынскім, Полацкім) ёсьць выпадкі, калі калгасы зусім адмаўляюцца ад заключэньня ўмоў на доўгатэрміновую кантрактацыю.

Па Магілеўшчыне калгасы выканалі 20,6 проц. заданьня, якое дадзена на ўсіх кантрактантаў акругі наогул. Доўгатэрміновая кантрактацыя праводзіцца выключна сярод калгасаў. Але-ж асобныя культуры кантрактуюцца ў распыленым выглядзе (лён, ячмень).

## Земляўпарадкаваньне калгасаў

Земляўпарадкаваньне калгасаў ува ўсіх акругах, як правіла, праводзіцца ў першую чаргу. Аднак ёсьць выпадкі па некаторых акругах, калі ў справе земляўпарадкаваньня калгасаў маецца шмат недарэчнасьцяй і недахопаў.

Напрыклад, па Аршанскай акрузе ёсьць шмат выпадкаў, калі ў плян Акрза ўключаны тыя калгасы, якія ня значацца ў пляне акркалгассаюзу і наадворот. Гэта сьведчыць аб тым, што паміж імі ў справе земляўпарадкаваньня калгасаў няма дагаворанасьці.

Полацкі акркалгассаюз таксама ня прымаў дастатковага ўдзелу, і ўрэшце, магчыма тое зьявішча, што ня ўсе калгасы будуць земляўпарадкаваны.

Па Магілеўскай акрузе ў плян работ Акрза уключаліся да выкананьня ўсе старыя і арганізаваныя да 20/III—29 г. новыя калгасы, згодна заявак райвыканкомаў, а таксама ўсе калгасы ільнаводных раёнаў, дзе павінна праводзіцца поўнае земляўпарадкаваньне 51 калгасу. Такім чынам, плян арганізацыі новых калгасаў у 1929 г. у Магілеўскай акрузе будзе сарваны.

## Пасеўкампанія будзе праведзена здавальняюча

У гэтым годзе па БССР вылучана звыш 200.000 руб. фондаў на кааперэраваньне беднаты ў калгасы. Па папярэдніх лічбах гэтых фондаў скарыстана каля 125.000 руб. Пэўных зьвестак аб скарыстаньні гэтага фонду на мясцох у акркалгассаюзах няма. Ёсьць выпадкі, калі на мясцох не рабілася адпаведнага растлумачэньня аб парадку скарыстаньня гэтага фонду.

Ня гледзячы на цэлы шэраг недахопаў, калгасы БССР больш-менш падрыхтаваліся да вясеньняга севу. Мерапрыемствы па падвышэньню ўраджайнасьці і пашырэньню пасеўплошчы, а таксама і за конт аграмінімуму для калгасаў шырока папулярызаваліся як на нарадах, так і спэцыяльных курсах для калгасьнікаў, на сходах беднаты, каапэрацыйнага актыву і г. д. па ўсіх акругах.

Усе калгасы сваечасова прыступілі да сяўбы. Ніякіх перабояў ў гэтай справе няма. Ёсьць упэўненасьць, што пасеўкампанія ў калгасах будзе праведзена здавальняюча.

У шэрагу акруг праводзяцца конкурсы калгасаў на лепшае правядзеньне вясеньняе пасеўкампаніі (Меншчына), на лепшы ўраджай (Гомельшчына).

Апроч таго, калгасы БССР захоплівае магутная хваля сацыялістычнага спаборніцтва.

**Філ.**

# Аб паявым накапленьні Менскага цэрабкопу

Да ўзмоцненага збору паёў Менскі ЦРК прыступіў з сакавіка м-ца 1928 г., з моманту ўвядзеньня 16-руб. паю. З гэтай мэтай былі перагледжаны і значна скарочаны тэрміны ўплаты паявых узносаў. Сход упаўнаважаных ухваліў пастанову, каб дэфіцытныя тавары, тавары па крэдыце, па паніжаным кошце абеды ў сталоўках адпушчаліся толькі пайшчыкам, якія сваечасова пакрываюць паявую запазычанасьць.

Цэрабкоп правёў мітынг-пераклічку і ў працягу 35 дзён сабраў 23.000 р. паявога капіталу, замест 4.000 за гэты-ж тэрмін у 1926-27 гаспадарчым годзе.

У выніку за 1927-28 гаспадарчы год было сабрана 158.056 руб. паявога капіталу. Гадавое заданьне Белрабсэкцыі было выканана на 109 проц. З агульнай сумы сабранага паявога капіталу 78.000 руб. паступіла праз крамы шляхам рэалізацыі паявых марак.

Са жніўня месяца паступленьні паявых квітанцый сталі больш дробнымі; тады былі распрацованы кантрольныя лічбы па збору паёў праз крамы, быў арганізаваны конкурс на лепшую краму і лепшы каапактыў, праведзена некалькі пленумаў каапактыву з пытаньнямі аб паянакапленьні і нарад загадчыкаў. Арганізацыйная сэкцыя прапрацавала пытаньне аб мэтадах збору паявых узносаў. У выніку за I квартал 1928-29 гаспадарчага году было сабрана паявых узносаў 56.788 р., ці 75,6 проц. заданьня, і за II квартал—51.000, замест кантрольнай лічбы ў 100.000 руб.

Такім чынам, гадавое заданьне Белрабсэкцыі на 1928-29 гаспадарчы год пакуль выканана толькі на 35 проц. Усяго паявога капіталу МЦРК на 1/VI-29 г. мае 405.543 руб., замест 208.014 руб. на 1/VI-28 г.

Посьпехі ёсьць, але сярэдні пай застаецца яшчэ ня высокім. На 1/X-27 г.—5 р. 86 к., на 1/X-28 г.—8 р. 05 к. і на 1/III-29 г.—9 р. 22 к. Нізкі сярэдні пай тлумачыцца вялікай колькасьцю пайшчыкаў, якія карыстаюцца ільготным паем (студэнты-стыпэндыяты плацяць—2-р. пай, утрыманцы-жонкі пайшчыкаў—3 р., інваліды вайны і працы—5 р., беспрацоўныя зусім вызвалены ад уплаты паю).

Невыстарчальна шпаркі тэмп паступленьня паявых узносаў часткова тлумачыцца тым, што з боку партыйных і прафэсіянальных ячэек на мясцох яшчэ ня створана выстарчальнае грамадзкае думкі вакол пытаньня сваечасовага пагашэньня паявое запазычанасьці, і каапактыў гэтую работу праводзіць бяз іх падтрыманьня.

З 1 красавіка зацьверджаны дыфэрэнцыяваны пай. У бягучым годзе на збор паёў ЦРК зьвяртае выключную ўвагу. Уводзіцца вучот паступленьня паёў і запазычанасьці па кожным калектыве пайшчыкаў, устаноўлены больш строгі вучот за станам уплаты паю пры водпуску дэфіцытных тавараў. Крэдыт выдаецца толькі поўнапайным пайшчыкам.

Ужываюцца меры да пашырэньня сыстэмы ўплаты паявой запазычанасьці шляхам авансаваньня прадпрыемстваў. Гэтыя мерапрыемствы праводзяцца строга са згоды самых пайшчыкаў у паасобку кожнага калектыву. У выніку ўсіх гэтых ужытых мер кантрольная лічба па збору паёў Менскім ЦРК, трэба думаць, будзе выканана з перавышэньнем.

**Аграном Кудзінаў**

# Ільнаводства на Шклоўшчыне

(*Магілеўская акруга*)

З 16 раёнаў Магілеўскай акругі вызначана 5 прамысловых і на палову прамысловых ільнаводных раёнаў. Сярод іх Шклоўскі раён мае асабліва важнае значэньне:

Пасевы ільну ў раёне з кожным годам пашыраюцца. Так, калі ў 1927 г. было пасеяна ільну 1993 га, то ў 1928 г.—2340 га, а ў 1929 г.—будзе пасеяна звыш 2600 га.

### Ільнаводная каапэрацыя

Ільнаводная каапэрацыя існуе ў раёне з 1928 г.: 31 сакавіка мінулага году было арганізавана Чарнянскае ільнаводнае таварыства, у раён дзейнасьці якога ўваходзіць Чарнянскі сельсавет з колькасьцю 400 сельскіх гаспадарак.

Пры арганізацыі ў таварыства ўвайшло 105 членаў, а ў сучасны момант лік іх павялічыўся да 142.

У мінулым годзе таварыства правяло кантрактацыю лёну на плошчы 45 га. У гэтым годзе ім закантрактавана 100 га.

Пры таварыстве маецца пракатны пункт з машынамі заморганаў, а таксама з уласнай ільнатрашчоткай.

У рабоце таварыства ёсьць шмат труднасьцяй: давялося шмат клапаціцца, пакуль акрсельсаюз пачаў адпускаць таварыству крэдыты на кантрактацыю лёну. Ня гледзячы на шмат запытаньняў, акрсельсаюз ні разу не паслаў свайго інструктара або спэцыялістага ільнавода для дапамогі таварыству ў яго рабоце і інш.

Акрсельсаюз наогул зварочвае мала ўвагі на ільнаводства ў раёне, асабліва з боку правядзеньня аграмерапрыемстваў сярод ільнаводаў. Аб гэтым сьведчыць наступны факт: у раёне была арганізавана і праведзена ільнаводная выстаўка, на якую акрсельсаюзам было вызначана 150 руб. для прэмій ільнаводам за лепшыя экспанаты. Але-ж абяцанка—цацанка: ільнаводы, якія павінны атрымаць прэміі, толькі дарэма б'юць ногі, ходзячы ў раён. Акрсельсаюз да апошняга часу не паравёў гэтыя грошы.

Крэдытныя таварыствы чакаюць ад лёну толькі прыбыткаў, якія ім перападаюць пры кантрактацыі насеньня і валакна. Гэта добра, але-ж трэба не забывацца пра паляпшэньне ільнаводства, а аб гэтым яны і не падумаюць.

Вось чаму трэба ўзмацніць ільнаводнае таварыства, надаць яму раённы напрамак, надаць яму права кантрактацыі на большай плошчы, даць яму магчымасьць павесьці агрыкультурную работу па ільнаводству.

### Як забясьпечаны ільнаводы да пасеўкампаніі?

У гэтым годзе намечана пасеяць у раёне лёну на плошчы 2600 га, што дае 11,1% пашырэньня пасеўплошчы ў параўнаньні з мінулым годам.

Ільнанасеньнем раён забясьпечаны поўнасьцю: па пляну меркавалася нарыхтаваць 114,7 тон ільнанасеньня, а зарыхтавана 158 тон (137%) выкананьня пляну.

Дрэнна стаіць справа з насеньнем канюшыны: у той час, калі агульная патрэба вызначана ў 11,2 тоны, загатоўлена толькі каля 2,5 тон (22%). Гэта будзе вельмі дрэнна адбівацца на замацаваньні шматпалёвых ільняных севазваротаў і наогул будзе зрываць правільную ільнаводную работу ў раёне.

Таксама адчуваецца значны недахоп у штучным угнаеньні: прымаючы пад увагу, што ў раёне будзе праведзена кантрактацыя лёну на плошчы каля 1650 га, трэба завезьці ў раён дадаткова ня менш 16 тон калійнай солі.

Машынамі па ачыстцы ільнанасеньня раён быў забясьпечаны: працавала ільнатрашчотак заморганаў—5, крэ-

дытных таварыстваў —2, ільнаводнае таварыства—1, усяго—8, а таксама 4 ільняных трыеры.

Ачыстка ільнанасеньня праводзіцца: ужо ачышчана 98 проц. усяго ільнанасеньня па раёну.

Акрсельсаюз, завозячы ў раёны штучнае ўгнаеньне, невыстарчальна падлічыў патрэбы гэтых раёнаў. Так, у Шклоўскі раён завезена 113,5 тон рознага ўгнаеньня, калі там закантрактавана пад лёнам 1350 га (будзе закантрактавана да 1650 га), тады, калі ў Хоцімскі раён завезена 138,9 тон угнаеньня, а кантрактуецца ўсіх культур 590 га, з якіх пад лёнам толькі 80-100 га.

Гэта часткова тлумачыцца тым, што пляны завозу былі дадзены акрсельсаюзу ў сьнежні, а кантрактацыі—у лютым, а таксама тлумачыцца і тым, што акрсельсаюзам ня было атрымана ад Белсельсаюзу 10 вагонаў угнаеньняў для рэгуляваньня.

### Шматпалёвыя севазвароты

У ільнаводных гаспадарках раёну за апошнія гады ўводзяцца шматпалёвыя севазвароты з пасевам лёну.

Уводзяцца 4-х, 5-ці, 7-мі, 8-мі, 9-ці палёвыя севазвароты Найбольш распаўсюджаны па раёне 7-мі палёвыя севазвароты з наступнай чарговасьцю пасеваў: 1) папар, 2) жыта, 3) бульба, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5) канюшына 1-га году, 6) канюшына 2-га году, 7) лен.

У апошні час спэцыялістым ільнапяньковага камітэту пры СНК БССР т Румянцавым прапануецца для ільнаводных раёнаў вельмі добры 5-ці палёвы севазварот: 1) бульба ранняя, 2) зімовая або яравая пшаніца з падсевам канюшыны, або мешаніны траў, 3 і 4) канюшына 2-га году або мешаніна траў і ўздым пласту, 5) пасеў лёну па пласту.

Пасеў раньняе бульбы можна часткова зьмяніць пасевам лубіну на зялёнае ўгнаеньне; лубін можна таксама сеяць і пасьля ўборкі бульбы ў тым выпадку, калі ён будзе заворвацца пад яравую пшаніцу.

Гэты 5-ці палёвы севазварот лёгка зрабіць 6 і 7-палёвым. У выпадку 6-палёвага ільнянога севазвароту канюшыны, або мешаніны траў пакідаецца не на 2, а на 3 гады. У выпадку 7-мі палёвага севазвароту рабіць таксама, толькі пасьля ільну сёмым полем сеюць авёс.

Такі севазварот вельмі кампактны. Ён можа даць вельмі добрыя вынікі ў сэнсе эфэктыўнасьці, бо пасеў лёну робіцца па пласту, што садзейнічае падвышэньню ўраджайнасьці і выхаду добрага валакна. Пры такім севазвароце забясьпечваецца максымальная плошча пасеву лёну (адна пятая) і сеюцца найбольш цэнныя збожжавыя культуры (пшаніца), а таксама атрымліваецца ў гаспадарцы шмат кармоў, што дае магчымасьць надаць гаспадарцы жывёлаводны ўхіл.

### Больш увагі ільнаводзтву

У Шклоўскім раёне, як прамыслова-ільнаводным у гэтым годзе праводзіцца суцэльнае земляўпарадкаваньне. Таму асабліва важна, каб у мэтах увядзеньня і замацаваньня шматпалёвых ільняных севазваротаў земляўпарадкаваемыя раёны абслугоўваліся аграномамі—ільнаводамі. Між тым, аграном-ільнавод, што ёсьць у раёне, у хуткім часе павінен пайсьці на тэрзбор, і, такім чынам, уся агрыкультурная і агратэхнічная работа па ільнаводзтву ў раёне будзе сарвана.

Трэба зьвярнуць больш увагі на Шклоўскі раён, як ільнаводны. Трэба яго забясьпечыць сталым абслугоўваньнем спэцыялістых - ільнаводаў. Трэба, каб акрсельсаюз пачаў весьці ў Шклоўскім раёне паглыбленую работу па палепшаньні ільнаводзтва, ажыцьцяўляючы ў гэтым напрамку належныя мерапрыемствы. А сродкі для гэтай мэты ў акрсельсаюзе ёсьць у выстарчальнай колькасьці,

Трэба аказаць усялякую дапамогу Чарнянскаму ільнаводнаму таварыству, якое кроўна зацікаўлена ў тым, каб ільнаводзтва ў Шклоўскім раёне мацнела, ахапляючы ўсе сялянскія гаспадаркі раёну.

С. К.

# Калгаснай сыстэме трэба надаць гаспадарчыя функцыі

(*У парадку абгаварэньня*)

Тэмп калгаснага будаўніцтва значна павялічыўся, што сьведчыць аб надзвычайна вялікім імкненьні бядняцка-серадняцкіх колаў сялянства да калгаснага будаўніцтва.

Гэты вялізарны рух застаў нас з недастаткова ўзброенымі сродкамі вытворчасьці і кадрамі калгасных працаўнікоў.

Між тым, у сувязі з уваходам у калгасы цэнтральнае фігуры вёскі—серадняка, праблемы калгаснага будаўніцтва робяцца надта складанымі, паколькі высунулася неабходнасьць абагуленьня больш-менш значнай серадняцкай маёмасьці.

Адгэтуль ствараецца неабходнасьць значнай перабудоўлі ў арганізацыйным сэнсе калгаснага кіраўніцтва, высоўваецца праблема ўзмацненьня апэрацыйнае і рэгулюючае ролі калгаснае сыстэмы ў справе калгаснага будаўніцтва.

Гэта праблема ў сваю чаргу будзе вырашана толькі наданьнем вышэйшым зьвенчаком нашае калгаснае сыстэмы, Белкалгассаюзу і акруговым саюзам калгасаў, апэрацыйна-гаспадарчых функцый.

Што мы маем у сучасны момант у справе забесьпячэньня калгасаў сродкамі вытворчасьці і збыту таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі калгасаў?

У гэтай справе трэба адзначыць надзвычайную неразьбярыху, адсутнасьць чоткасьці і яскравасьці.

Забесьпячэньне і збыт калгасаў праводзіцца праз сыстэму сельскагаспадарчай каапэрацыі.

Такая форма забесьпячэньня калгасаў і збыту іх таварнай прадукцыі праз складаны апарат цэлага шэрагу розных каапэрацыйных аб'яднаньняў значна ўскладняе ўсю справу. Калгасны цэнтр павінен заключаць з усімі гэтымі каапэрацыйнымі цэнтрамі генэральныя дагаворы, на падставе якіх акруговыя саюзы калгасаў дагаварваюцца з усёю сыстэмаю сель-гас. каапэрацыі на мясцох па пытаньнях забесьпячальна—збытавых апэрацый з калгасамі. Вядома, што пры гэтым няма магчымасьці дастаткова забясьпечыць інтарэсы калгасаў.

Пры гэтым такая справа, як індустрыялізацыя калгасаў, часта высьлізае з рук сыстэмы калгасаб'яднаньняў. Мерапрыемствы па правядзеньню кантрактацыі ў калгасах таксама недастаткова адбіваюць ажыцьцяўленьне момантаў, якія садзейнічаюць рэканструкцыі іх сельскае гаспадаркі.

Усё гэта выклікае неабходнасьць перадачы гаспадарчых функцый калектыўным цэнтрам—усебеларускаму і акруговым саюзам калгасаў. Пры такім вырашэньні пытаньня ўся справа па забесьпячальна-збытавых апэрацыях калгасаў значна спросьціцца: ня будзе цэлага шэрагу лішніх інстанцый, ня будзе лішніх накладных выдаткаў, якасьць прадукцыі значна падвысіцца. Апроч таго, калгасцэнтры гаспадарча значна ўзмоцняцца, а іх сувязь з усёю сваёю сыстэмай зробіцца больш шчыльнай.

Гэта значна патаніць ўвесь апарат калгассаюзаў, дасьць магчымасьць паступова перавесьці іх на самаакупаемасьць.

На нарадзе калгасных цэнтраў СССР, якая нядаўна скончылася, усе гэтыя пытаньні ўсебакова абгаварваліся.

Нарада прызнала неабходным перш-на-перш тэрмінова паставіць пытаньне аб перадачы калгаснай сыстэме кіруючых апэрацыйна-гаспадарчых функцый. У бліжэйшы час неабходна распрацаваць праэкт закону па гэтаму пытаньню з такім разьлікам, каб пераход на новае палажэньне быў ажыцьцёўлены не пазьней пачатку 1929-30 году.

**Ф—аў**

# Практыка работы бюро скаргаў

За год з невялікім гандлёвая сетка Менскага ЦРК вырасла ў два разы з лішнім. ЦРК мае 141 краму, 27 ларкоў, 36 буфэтаў і 12 сталовак.

Звароты ЦРК з 15 міл'ёнаў ў 1927-28 гаспадарчым годзе ўзрастуць у бягучым годзе да 24 міл'ёнаў. Колькасьць пайшчыкаў перавысіла 50 тысяч. Члены прафсаюзаў каапэраваны на 94 проц.

На аснове гаспадарчага росту за апошнія гады значна ўзрасла каапэрацыйная грамадзкасьць і, асабліва, ў галіне грамадзкага кантролю. За апошнія месяцы, часткова ў сувязі з нашымі цяжкасьцямі тварнага забесьпячэньня і часткова з падрыхтоўкай кампаніі да чысткі радоў каапэрацыйнага апарату, у праўленьне кожны дзень прадаўжаюць паступаць шматлікія скаргі і прапановы.

Каб стварыць грамадзкую думку вакол пытаньняў ўзаемаадносін працаўнікоў прылаўку са спажыўцамі, а таксама, каб уцягнуць у гэтую работу больш каапэрацыйнага актыву і пайшчыкаў, у кастрычніку 1928 г. праўленьнем ЦРК было арганізавана бюро скаргаў.

Бюро скаргаў складаецца з 9 чалавек: 2 ад праўленьня, 6 упаўнаважаных (усе з вытворчых калектываў) і адзін з калектыву служачых ЦРК.

Больш за ўсё паступіла скаргаў на прадаўцоў за праяўленьне пратэкцыянізму, грубасьці, за водпуск тавараў па знаёмству і вышэй устаноўленых норм і г. д. З разгледжаных скаргаў на прадаўцоў вынесена 11 папярэджаньняў, 7-мі пастаўлена на від, 7-мі абвешчаны строгія вымовы з папярэджаньнем. За перавышэньне цэн, сыстэматычную грубасьць, зьнявагі 4 прадаўцоў пастаноўлена зьняць з работы. Да 10 скаргаў не пацьвердзілася. Ня добрыя адносіны спажыўцоў да прадаўцоў. З 27 скаргаў, пераважна на грубасьць спажыўцоў, 8 пайшчыкам абвешчана папярэджаньне, 3—на від, аднаму абвешчана вымова з апублікаваньнем ў друку і г. д. За перапродаж каапэрацыйных тавараў адна пайшчыца выключана зусім і некалькі на тэрмін. Частка скаргаў на спажыўцоў перадана ў РСІ і ў крымінальны вышук. Асабліва шмат скаргаў разьбіралася за падчысткі ў каапкніжках і перадачы няпайшчыкам.

Меры ўзьдзейнічаньня—папярэджаньне, запіс у каапкніжках, паведамленьне ФЗМК і выключэньне ўмоўна на тэрмін і г. д.

Усе пастановы бюро за невялікім выключэньнем праўленьнем ЦРК зацьверджаны. Такім чынам, бюро зьяўляецца дапаможным органам праўленьня.

Акрамя скаргаў ад пайшчыкаў і прадаўцоў, бюро таксама разьбірае заметкі, што прысылаюцца рэдакцыямі газэт, заметкі, ужо зьмешчаныя ў друку, выпадкі абмену крэдыту і часткова скаргі па кнігах скаргаў.

Для папярэдняга дасьледваньня скаргаў прыцягваецца каапэрацыйны актыў. Падтрымліваецца цесная сувязь з лёгкай кавалерыяй ЦРК.

Шасьцімесячная практыка работы сьцьвярджае бязумоўную жыцьцёвасьць і патрэбнасьць існаваньня бюро скаргаў. Аб гэтым можа сьведчыць тая акалічнасьць, што на бюро ў дзень пасяджэньняў прыходзяць „паслухаць“ шмат работнікаў крам, каапактыву і нават пайшчыкаў. На справаздачных сходах пайшчыкаў, а таксама на сходзе ўпаўнаважаных праўленьню запрапанавана работу бюро скаргаў пашырыць.

Нашы недахваты, галоўным чынам, зводзяцца да таго, што з-за недахвату часу і непрыстасаванасьці апарату скаргі пайшчыкаў разьбіраюцца на бюро толькі найбольш характэрныя, дзякуючы чаму частка скаргаў разглядаецца ў адміністрацыйным парадку.

# НА МЯСЦОХ

**Гэршковіч**

## Да зьезду сампрамкаапэрацыі Бабруйшчыны

Сампрамкаапэрацыя займае не апошняе месца ў сацыялістычным сэктары народнае гаспадаркі нашае краіны.

Вялікая работа прароблена сыстэмай сампрамкаапэрацыі за апошні год. Рост і дасягненьні акрсампрамсаюзу характарызуюць сабой далейшыя пэрспэктывы яго работы.

Так, супроць мінулага году ёсьць рост арцеляй на 80 адзінак, ці на 168 проц. Павялічэньне членаў у іх на 1448 чал., ці на 227 проц., а разам на 1/I—1929 г. акрсампрамсаюз аб'ядняе 140 арганізацый з колькасьцю членаў: у арцелях—2501 і ў крэдытных прамысловых таварыствах—4263.

Прароблена вялікая работа па аздараўленьню сацыяльнага складу арцеляй і таварыстваў; як да перавыбарчай кампаніі, так асабліва пры правядзеньні перавыбарчай кампаніі была праведзена генэральная чыстка арцеляй.

Вялікая работа прароблена і ў галіне каапэраваньня беднаты. Сампрамсаюзам праводзілася сыстэматычная работа ў гэтым напрамку, і за год мы маем у выніку накіраваньня ў арцелі і арганізацыю новых арцеляй па горадзе ў колькасьці—220 чал. і па раёну—137, а разам—357 чал. Акрамя доўгатэрміновых пазык, якіх адпушчана на гэтыя мэты ў суме 10 400 р., саюзам адпушчана з фонду каапэраваньня беднаты—3.945 р., і яшчэ цэлы рад ільгот і відаў дапамогі прадастаўлена гэтай частцы каапэраванай масы.

Зьвернута шмат увагі на пытаньне ўцягненьня жанчын і моладзі ў сампрамкаапэрацыю.

Праведзена ўзбуйненьне арцеляй шляхам злучэньня з 29 арц.—11 буйных арцеляй і мэханізацыі многіх з іх.

Побач з ростам колькаснага складу арцеляй і яго якаснага паляпшэньня раслі і яго звароты па куплі матар'ялаў і збыту прадукцыі.

Закупка за год складае—2.525.000 р.—павялічэньне супроць мінулага году на 149 проц.

Збыт за год складае 2.819.200 р.

Як закупка, так і збыт у большасьці сваёй ішлі па лініі сампрамсаюзу праз дзяржаўныя і каапэрацыйныя арганізацыі.

Чыстага прыбытку арцелі і таварыствы маюць за мінулы год каля 147.000 р.

Некаторыя арцелі ў нязначнай колькасьці закончылі свае апэрацыі са стратай, якая ў агульнай суме вызначаецца ў 15.742 р.

Зводны балянс усіх арцеляй на 1 января—1929 года складае 1.713.052 р. Рост супроць мінулага году на 142 проц.

Суадносіны ўласных сродкаў да пазычаных—1:3.

Зводны балянс крэдытна-прамысловых таварystваў на 1 студзеня 1929 г. складае 446.720 р.

Суадносіны уласных сродкаў да пазычаных—1:2½.

Уласныя сродкі арцеляй складаюць—541.328 р., або 26,3проц. да балянсу.

Рост уласных сродкаў супроць мінулага году на 299.608 р., або на 197 проц.

Уласныя сродкі крэдытна-прамысловых таварыстваў складаюць 110.247 руб.

За апошні год зьвернута шмат увагі капіталанакапленьню; у мэтах гэтага ва ўсіх амаль арцелях арганізаваны „унутраныя пазыкі“ у памеры 2-тыднёвага заробку.

У горадзе сярод арцеляй разьмешчана дадаткова „пазыка будаўніцтва“, якая дала каля 40.000 р.

За апошні год у горадзе будуецца так званы „Гарадок сампрамкаапэрацыі“, дзе будуць працаваць да 400-500 чал. (трыкатажна-панчошна-ткацк., шавецка-загатоўч. і швейна-кравецкая арцелі). Адзін вялікі будынак ужо гатоў, і ў ім ужо працуе мэханізаваная фабрыка панчошна-трыкатажных ткацкіх вырабаў. Рэшта пабудоў пры спрыяючых умовах забесьпячэньня будаўнічымі матар'яламі будуць скончаны да 1 жніўня 1929 г.

Вялікі зрух ёсьць і ў галіне вядзеньня культработы сярод арцеляй, але ня ўсё яшчэ зроблена ў гэтай галіне.

Яшчэ шмат і цэлы шэраг дасягненьняў можна было-б пералічыць, але абмяжуемся самымі асноўнымі, паданымі ў гэтым артыкуле.

Нямінуча былі і памылкі ў такой вялікай рабоце. Мы зусім ня хочам іх захоўваць. Але ў асноўным клясавая лінія ў рабоце сампрамкаапэрацыі Бабруйшчыны была правільная, і ўся работа праводзіла я на аснове дырэктыў, якія дадзены партыйнымі арганізацыямі і 3-м зьездам упаўнаважаных.

---

Ф

# Праверым работу крам

Праўленьне Менскага ЦРК арганізавала чарговы „налёт“ на крамы для праверкі адпускных цэн і ўстанаўленьня правільнасьці вагі на адпушчаны тавар. У праверцы ўдзельнічала 30 чалавек упаўнаважаных і членаў каапкамісій, прадстаўнікі акргандлю, рэвізійнай камісіі і групкомаў калектыву служачых. Падрыхтоўка да „налёту“ вялася строга канспірацыйна. Удзельнікам абсьледваньня былі выдадзены каапкніжкі, кошыкі і грошы. Было праверана 29 крам, зроблена 165 розных закупак, з якіх, галоўным чынам, прадметы харчаваньня. Закуплены тавар правярала спэцыяльная камісія.

У выніку з агульнага ліку закупленых тавараў зарэгістравана пераважгі ад 2 да 25 грамаў на 40 прадметаў, у агульнэй складанасьці ў 398 грам Недавагі—19 выпадкаў, прыкладна, у такой-жа норме, а ўсяго недаважана 325 грам., пры чым на купленым формавым хлебе не хапала больш 100 грам Куплены тавар у 2 крамах меў недавагу на ўсе прадметы. Перавышэньня цэн таксама зарэгістравана ня было, за выключэньнем аднаго выпадку, было ўзята на 5 кап. больш. Канстатавана, што ў большасьці крам не даюць рэшты 1-2 кап. Такіх выпадкаў аказалася 6.

Пацьвердзілася, што ў мясных крамах пануе пратэкцыянізм і кумаўство. У 57 краму была паслана „налётчыца“ добра апранутая, знаёмая мясьніку. Мяса ёй была выдзена добрае якасьці, бяз костак і з вагою больш, чым трэба. Пасьля яе ў той-жа магазын была паслана другая ўпаўнаважаная, кепска апранутая. Мяса, якое яна купіла, было значна горшае якасьці, з вялікай колькасьцю костак, пры чым не хапала вагі.

Наогул-жа камісія вынесла заключэньне, што тавар адпушчаецца па правільнай вазе і па прэйс-курантнай цане, за выключэньнем аднаго выпадку. Выпадкі недавагі камісія схільна лічыць неправільнасьцю вагі.

Праўленьне ЦРК ужывае меры да зьнішчэньня заўважаных недахватаў.

---

**Макар Валацуга**

# Па каапэрацыйных ухабах

*(Дарожныя нататкі Макара Валацугі)*

... Дык я іду, а сьнег растае. Дык я яшчэ іду, а сьнег яшчэ растае. Урэшце—я прыходжу ажно ў вёску Загалоўе, Глінскага сельсавету. Прыходжу, а там перавыбары каапэрацыйных упаўнаважаных. Я гэтак і ша-сьць на перавыбары. Вядома-ж, што цікава. Дык я шша-сьць, а там „таварыш“... Буяльскі з Бярэзінскага спажывецкага таварыства. Ён ужо зрабіў справаздачу і робіць перавыбары.

— Таварышы,—кажа Буяльскі,—нам патрэбны людзі—во! не такія людзі, каторыя ні „цэ“ ні „бэ“, а іменна людзі—во! Мы павінны выбіраць, а ня то што... І выбраць нашым сходам...

Дык ён гэтак кажа, а я зірк на „наш“ сход. Зірк, а на ім тры чалавекі (бо ў гэты момант якраз здарыўся пажар у в. Залядзьдзе, дык уся бедната пабегла яго тушыць). Сядзяць сабе гэтыя тры чалавекі, а „таварыш“ Буяльскі:

— Хто, можна сказаць, за мяне—падымеце рукі?

І „сход“—падымае...

— Аднагалосна,—падлічвае Буяльскі рукі.

І я, канешне, бачу і ня спрачаюся супроць таго, што „аднагалосна“.

— А хто за Азёмку Яўдакімавага?—ставіць Буяльскі на галасаваньне.—Ну, хто, паўтарае ён,—за царкоўнага старасту?

І я таксама бачу і чую „аднагалосна“.

— То калі яно так, то няхай ужо і будзе-так,—вырашаю я,—супроць сходу не падскочыш.

І я ізноў іду і чую лямант з-за узгорку:

— А каб яму немачы і безгалоўя! А каб яму трасцы, ліха яго галаве...

— Трэба-ж гэта,-чую я далей,—то траюрадным братом, то цёшчы, то... чорту лысаму!.. Кажа гэта знаемая мне цётка, размахваючы правым кулаком, і кляне Навасёлкаўскага крамара Лобана Міхаля.

— Такую-то падэшву і ўсю на цырубінкі распрадаў,—кажа мне цётка.—А ні на рубчык мне, беднай удаве, не пакінуў.—І каму распрадаў, га? Каму? Сваім.

— То што васпан на гэта скажаш?—пытае ў мяне цётка.

— Нічога, кажу, нельга сказаць. Тут, кажу, патрэбен падыход.

Вёрст з дзесяць прайшоў. Цяпер, здаецца, мацней шчабечуць вераб'і. А вунь на полі, па чорнай ральлі, спацыруе фанабэрыстая—варона. Во-во, варона, здаецца, каркне і паляціць. І мне хочацца, каб яна не паляцела. Мне здаецца, што яна гатова паляцець у мястэчка Лельчыцы, аж да Іцэля Ваймана, да мясьніка Лельчыцкага спажывецкага таварыства. Гатова паляцець і сказаць:

— Іцэль, чаму ты прадаеш без чаргі, буйным гандляром, і разам з імі і Лельчыцкаму начальству мяса? Чаму ты выбіраеш лепшае і тлустае мяса для гэтых асоб, га?

Але пакуль я разважаю аб вароне, пакуль я іду, як раптам наганяе мяне дзядзька.

— Сядайце, таварыш,—кажа дзядзька,—падвязу. І я, пакуль уяўляю аб тым, што кажа мне дзядзька—губляю з майго зірку фанабэрыстую варону.

— Цьфу!—плёвае дзядзька, калі я сеў ды еду.—Цьфу!—раз-по-разу плёвае ён.

— Ці ня нудзіць вас?—пытаюся я.

— Отож-бок-то, што нудзіць,—адказвае мне дзядзька.

— Мусіць нешта зьелі дрэннае?—цікавасьць бярэ мяне.

— Отож-бо-то, што дрэннае...

І дзьдзяка апавядае мне аб тым, што ён зьеў. Ен плёвае яшчэ і яшчэ раз і кажа:

— Гэта-ж я быў у капэратара Чупрыка. Дык трэба сказаць—ён якраз пералічваў каціныя, а потым сабачыя і тхарыныя скуркі. І от пералічыўшы іх... (Тут дзяьдзька яшчэ раз плюнуў і сказаў: „Да таго гоніць сьліну, ажно адкуль яна бярэцца!) Дык ён, пералічыўшы іх, адважыў мне селядца. І от скажэце-ж—двума пальцамі... толькі двума пальцамі ўзяўся за селядзец, а як нудзіць. Аж пякотка пячэ! Цьфу! Мусіць яго рукі вельмі ўжо былі нацёрты гэтымі тхарынымі скуркамі. Бо ён вельмі доўга іх пералічваў: бадай, з усяе Случчыны сабралі іх.

— Дык я зьеў гэтага селядца..

І от тут дзядзьку пачало нудзіць. Мне ажно шкода стала старога. Ляпей-бы ўжо няхай ён галодны быў, як меў есьці гэтага селядца.

Вечарам, калі я заначаваў у старога дзядзькі, ён мне расказаў аб растратчыку.

У Каралёўстанскай каапэрацыйнай краме,—пачаў дзядзька,—крамар Шакуль, каб затоіць 600 рублёў каапэрацыйных грошай, сам сабе руку прастрэліў. От узяў гэтак, рассыпаў троха медзякоў і срэбра,—нібы та яго абрабавалі,—і прастрэліў. Але кулю дасталі з яго рукі. У самым плячуку сядзела. Цяпер ужо зусім загаілі рану на яго плячуку у бальніцы. Так што цяпер Шакуль зусім бяз болю ў руцэ сядзіць у Менскім допры.

— От да чаго даводзіць людзей зайздрасьць на грамадзкія грошы,—скончыў дзяьдзька.

На заўтра раніцою я накіраваўся і іду цяпер да каапэратываў у Самахвалавіцкі раён і далей.

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

**Кароль Бітэль**

## Застой у нямецкай спажывецкай каапэрацыі

Цэнтральны саюз нямецкіх спажывецкіх аб'яднаньняў марудзіць сёлета з сваёй гадавой статыстыкай. Можна сказаць: пусты барабанны бой! Высьвятляецца, што шматхвалёныя „вялікія чаканьні" на 1928 г. сябе не апраўдалі. Хоць зварот і павялічыўся, але далёка не ў такой меры, як гэта чакалася.

Прычыны вядомы: шырокія масы пралетарыяту, што надаюць сабой аснову ў спажывецкіх аб'яднаньнях, зьяўляюцца беспрацоўнымі, ці працуюць скарочаны час; рэальная зарплата зноў панізілася, і, дзякуючы падвышэньню ставак арэнды і ўкосных падаткаў магчымасьці для пражыцьця зрабіліся яшчэ горшымі. Тут можна, да-рэчы, заўважыць, што міл'ённая арганізацыя спажывецкіх каапэратываў не аказала ніякага падтрыманьня пралетарыяту ў часе яго барацьбы за паляпшэньне свайго матар'яльнага становішча.

Для самога цэнтральнага саюзу яго 25-гадовы юбілей адзначаецца тым, што агульны зварот яго мясцовых аб'яднаньняў упяршыню ў 1928 г. дасягнуў 1 міл'ярду. Яго 1051 мясцовае аб'яднаньне, з 2,8 міл'ёнамі членаў, мела ў сваіх 9605 разьмеркавальных пунктах зварот у 1046 млн. марак. Уласныя сродкі пры гэтым складалі 48 міл'ёнаў марак, а чысты прыбытак—52,9 міл'ёнаў. Усяго было занята 49700 рабочых і служачых.

Яшчэ і ў гэтым годзе не пазбавіліся катастрофы інфляцыйнага пэрыоду. Эканамічная магутнасьць спажывецкіх аб'яднаньняў усё яшчэ слабейшая параўнальна з даваенным пэрыодам. Гэта нам відаць з супастаўленьня сумы звароту, што прыпадае на 1 члена. У 1913-14 г. ён складаў па сучасных цэнах 420 марак (276 даваенных марак), а ў 1928 г.—толькі 373 маркі, ня гледзячы на тое, што цяпер каапэрацыя значна павялічыла свой таварны асартымэнт і адчыніла спэцыяльныя магазыны (гандлёвыя дамы, мясныя крамы і інш.). Так што пасьля 1919 г. ніякага прагрэсу, а наадварот—устойлівы рэгрэс.

Значна палепшылася становішча з „удзелам ў справах" і ўкладамі, як гэта відаць з дадзеных, што тут падаюцца:

| | На члена ў цэнтральным саюзе | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1914 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| Зварот | 287 | 159 | 253 | 335 | 373 |
| Удзел у справ. | 19,66 | 4,35 | 10,97 | 15,15 | 17,10 |
| Уклады | 46,72 | 14,37 | 43,06 | 70,75 | 95,70 |

У той час, як „ўклады" перавысілі даваенную норму, „удзел у справах" нават не дасягнуў даваеннага становішча. У гэтым годзе працягваўся працэс скарачэньня колькасьці членаў. Да вайны было 1,72 млн. членаў, у 1916 годзе лік іх перавысіў 2 млн., у 1924 г.—3,51 млн. Далей з году ў год гэтая колькасьць пачынае ўсё памяншацца. У 1927 г.—2,93 млн., а ў 1928 г.—толькі 2,80 млн. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што гэтае скарачэньне ішло галоўным чынам за лік групы рабочых і служачых, у той час, як група „свабодных заняткаў", дзяржаўных і гарадзкіх чыноўнікаў, можа адзначыць нават некаторае абсалютнае павялічэньне. Такім

чынам, у апошнім годзе прыкметны адыход пралетарыяту з нямецкіх спажывецкіх аб'яднаньняў пры адначасовым павялічэньні ліку дробнай буржуазіі.

Хоць эканамічна становішча каапэрацыі за апошні год і палепшылася, але яна не дасягае даваеннага ўзроўню. Таксама абстаіць са зваротам, што прыпадае на гандлёвую адзінку.

**Звароты на адзінку**

| | 1914 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Разьмер пункту | 95200 | 45900 | 85000 | 95000 | 108898 |
| Штат. ад. апар. | 22400 | 11800 | 22700 | 24400 | 25285 |

Апарат спажыўаб'яднаньняў, такім чынам, цяпер далёка не нагружаны, і працаўнікі крам не скарыстаны рацыянальна.

Таварныя запасы павялічыліся з 103,5 млн. да 115,2 млн. Уласная прадукцыя павялічылася з 241 млн. да 302 млн.

Таварыства гуртавых закупак (ГЕГ) у Гамбургу павялічыла свае звароты сёлета толькі на 19,12 проц., і замест паўміл'ярда, што чакаўся, зварот даў толькі 444 міл'ёны. Затое звароты з уласнай прадукцыяй дасягнулі надзвычайнага павялічэньня (66 проц.).

**Звароты з уласнай прадукцыяй ГЕГ у Гамбургу**

| | 1913 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Агульны зварот | 154,05 | 168,47 | 294,17 | 373,04 | 444,37 |
| Уласн. прадукц. | 10,11 | 26,30 | 45,68 | 63,14 | 104,72 |
| Рабоч. і служ. | 2019 | 3598 | 4698 | 5960 | 75,64 |

Гэта адносна буйнае разьвіцьцё ГЕГ застаецца за апошнія гады буйнейшым плюсам нямецкага каапруху.

Больш дэталёвыя падрабязнасьці за апошні год можна будзе пачарпнуць са справаздач паасобных саюзаў. Пакуль ёсьць толькі справаздачы Паўднёва-Заходняй Нямеччыны і Саксоніі. Абедзьве гэтыя справаздачы яшчэ больш рэзка падкрэсьліваюць стан дэпрэсіі ў каапэрацыі. П.-з. Нямеччына (агляд спажыўкаапэрацыі за 23 лютага) піша, напрыклад, што звароты, якія чакаліся, „аказаліся ніжэй на цэлых 11,9 проц. У той-жа час гандёвыя выдаткі павялічыліся, з чым трэба ўсімі сродкамі павесьці барацьбу".

Зьмяншэньне ліку членаў-рабочых тут асабліва адчуваецца. Адрасаваная прафсаюзам адозва наконт гэтага просіць іх зьвярнуць больш увагі на каапэрацыю.

У Саксоніі—бацькаўшчыне нямецкай рабочай каапэрацыі—праўленьне саюзу падкрэсьлівае, што чаканае павялічэньне зваротаў сябе не апраўдала, і што паасобныя каапэратывы гаспадарылі зусім нездавальняюча.

Прычыны застою трэба шукаць, з аднаго боку, у скарачэньні пражытачнага мінімуму пралетарскіх мас, а з другога, у тым наступленьні, якое буйны капітал харчовых трэстаў і гандлёвых канцэрнаў з іх сеткаю адздяленьняў ужыў з мэтай аўладаньня спажывецкім рынкам.

Да таго-ж яшчэ традыцыйны раздробны гандаль вядзе пасьпяховую канкурэнцыю з спажывецкімі аб'яднаньнямі, дыскрэдытуючы іх і надаючы 5-процантную скідку.

Таксама, як і ў іншых краінах, нямецкія спажывецкія аб'яднаньні за апошнія гады павінны весьці вострую канкрэтную барацьбу.

Толькі ў цесным аб'яднаньні з пралетарскімі масамі і супольнай рабоце з масавымі пралетарскімі арганізацыямі ляжыць шлях перамогі дэпрэсіі апошняга году.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## „Коллективист“—двухнедельный журнал, № 8 за 1929 г.

Пачынаецца часопісь першамайскім артыкулам. Далей ідзе артыкул аб праверцы і чыстцы партыйных радоў. Не абмінуты і дзень друку – яму адведзены дзьве старонкі.

Найбольшае месца ў часопісі адведзена пытаньням будаўніцтва калгасаў.

Даволі цікавым па сваёй думцы зьяўляецца артыкул А. Біцэнкі „Подготовка кадров“. У ім аўтар угрунтавана даводзіць аб удзяленьні ўвагі да падрыхтоўкі пры тэхнікумах і ВНУ спэцыялістых калгаснага руху. Справа сур‘ёзная. Бо ў той час, калі мы калгаснаму руху надаем вялікае значэньне і ўвагу, дык з кіраўнікамі гэтага руху ў нас абстаіць справа горш.

Карысным і своечасовым зьяўляецца артыкул „Весенние болезни рогатого скота“, дзе высьвятляюцца найбольш пашыраныя вясеньнія хваробы жывёл.

Адведзена некалькі старонак аддзелу „Комсомольцы в борьбе за урожай“, дзе ў выглядзе артыкулу і хронікі даюцца весткі аб рабоце камсамольцаў за падвышэньне ураджайнасьці па ўсяму СССР.

У аддзеле „Наши опыты“ калгасьнікі дзеляцца сваёй практыкай па тых ці іншых галінах гаспадаркі, падмацоўваючы гэта лічбамі.

Па рознастайнасьці свайго матар‘ялу часопісь досыць багатая.

Ілюстраванасьцю (зьмешчана да 40 малюнкаў на 64 стар.) і падборам матар‘ялу часопісь вабіць і цікавіць чытача.

А. В-к.

## „Молочное хозяйство“—журнал Всероссийского союза молочной кооперации, № 5—6, март 1929 г.

„Садзейнічаць падняцьцю сельскае гаспадаркі наогул і некаторых яе галін у асаблівасьці: зерневыя, тэхнічныя культуры і жывёлагадоўля,—вось тыя заданьні, якія стаяць зараз перад савецкай уладай і савецкай грамадзкасьцю“.

Таму аб ільготах малочнай гаспадарцы па с.-г. падатку і пачынае свае першыя старонкі часопісь.

Далей ідзе зварот Маслацэнтру да свае сыстэмы, у якой гаворыцца аб тых задачах, якія стаяць перад малочнай каапэрацыяй у часе пасеўнае кампаніі:

„Аднэй з асноўных задач малочнае каапэрацыі зьяўляецца павялічэньне кармавых рэсурсаў, як асноўнае базы малочнае гаспадаркі,“ чытаем мы ў адозьве.

Досыць цікавым па сваёй думцы і зьместу зьяўляецца артыкул В. Зорына „Реформа накопления паевых капиталов в молочной кооперации“, які ставіцца на абгаварэньне.

Аб міжнародным гандлі згушчаным і сухім малаком падае досыць падрабязныя лічбы ў сваім артыкуле В. Васілеўскі. Ён паясьняе ў паасобку аб экспарце і імпарце больш буйных малочных краін за апош. гады.

З практычнага вопыту апавядаюць аб ролі пэргамэнту ў ахове масла ад запляськеньня праф. С. Каралёў і асьпірантка Шуніна.

У часопісі ёсьць аддзел „В порядке самокритики“, дзе пішацца аб недахватах на мясцох. Удзелена ўвага на перавыбарчую кампанію малочнае каапэрацыі, саюзаў, арцеляй. Ёсьць старонка майстра. Даецца зводка малочнага рынку як нашага Саюзу, так і розных краін.

Прымаюць удзел у часопісі выдатныя прафэсары-спэцыялістыя і цэлы шэраг працаўнікоў, зацікаўленых гэтаю справаю.

Адносна самой часопісі трэба сказаць, што разьлічана яна больш на супрацоўнікаў каапэрацыі, а не на шэраговага чытача. Амаль зусім адсутнічае ілюстраванасьць, і яе пашырыць не пашкодзіла-б для большае нагляднасьці.

Ал. Яз-віч.

## „Кооперативное строительство“—двухнедельный журнал Ленинграда и Ленинградской области, № 8, 1929 г.

Першае, што можна сказаць аб часопісі, гэта актуальнасьць зьмешчанага матар‘ялу. Матар‘ял увесь практычны і карысны. Каротка інфармавана аб пастановах XVI партканфэрэнцыі, аб пасеўнай кампаніі, і што сяляне гавораць аб ёй. Тут адведзена месца і паходу за ўраджай, перавыбарам каапэрацыі, пытаньням сампрамкаапэрацыі і рацыяналізацыі. Зьмешчана старонка спраўчніка, дзе дадзены навейшыя пастановы і загады ўраду. Акрамя гэтага „сухога“ матар‘ялу, дадзены два мастацкіх нарысы „На льняным дварэ“ і „Даўняе мастацтва“. Матар‘ял зьмешчаны спэцыфічна для Ленінградзкай вобласьці, як відаць і з самога органу, але гэта не пашкодзіць чытацу яго беларускаму каапэратару. Можна шмат чаго запазычыць у сэнсе каапработы. З боку тэхнічнага часопісь выдадзена зусім добра. Даны добрыя клішэ, нават хроніка і тая ілюстравана малюнкамі. Часопісь каштуе 50 кап., што трохі задорага. І. Сіні.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Тэзісы-рэзалюцыя

**па дакладу намесьніка старшыні праўленьня Белсельсаюзу тав. Красоўскага аб сучасным становішчы і далейшым напрамку арганізацыйна-інструктарскай працы сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі**

(*Працяг*)

### Садова-гародная каапэрацыя

19. Асноўнай іх працай павінна зьявіцца зарыхтоўка і збыт прадуктаў садоўніцтва і гародніцтва і тэхнічная перапрацоўка пладоў і садавіны. Таварыствы павінны арганізоўвацца з буйным раёнам дзейнасьці. Арганізацыя арэндных садова-гародных таварыстваў не дапушчаецца, а аб'яднаньне весьці галоўным чынам на сялянскіх садох, садох калгасаў з падсобнай арэндай садоў дзяржаўнай маёмасьці.

20. Арганізацыю садова-гароднае каапэрацыі лічыць мэтазгодным праводзіць па трохступянёвай сыстэме ў таварных раёнах. Улічваючы, што ў даны момант гэты від аб'яднаньняў з боку сельсаюзаў абслугоўваецца недастаткова, лічыць мэтазгодным арганізацыю гэтых саюзаў правесьці ў бліжэйшыя два гады, пры чым у гэтыя саюзы павінны ўвайсьці і пчалярныя таварыствы.

Да арганізацыі садова-гародных саюзаў арганізацыйна-апэрацыйную працу праводзяць акрсельсаюзы.

### Іншыя спэцыяльныя аб'яднаньні с.-г. каапэрацыі

21. Пасялковыя, насеннаводныя, ільнаводныя, рыбаводна-рыбалоўныя і млынарныя таварыствы павінны застацца ў акрсельсаюзах і ўваходзіць сябрамі праз сел.-гасп. крэдытныя таварыствы.

### Сел.-гасп. крэдытныя таварыствы

22. Абслугоўваньне сел.-гасп. крэдытных таварыстваў павінна праводзіцца па-раённа, пры чым лічыць нагрузку на аднаго інструктара ў колькасьці 12 таварыстваў. Інструктар, замацаваны да раёну, павінен працаваць ня менш $2-1^1/_2$ г. у адным раёне

23. Аргаддзелам саюзаў неабходна прыняць крокі к таму, каб арганізацыйнае абслугоўваньне сел.-гасп. крэдытных таварыстваў праводзілася па лініі саюзаў, а за банкам павінны застацца толькі функцыі арганізацыі і кантролю крэдыту.

У мэтах асноўных мерапрыемстваў па разгортваньню далейшага будаўніцтва сыстэмы і адхіленьня маючыхся недахопаў у падвойным кіраўніцтве с.-г. крэдытным таварыствам неабходна ў гэтым годзе правесьці рэарганізацыю двух сельсаюзаў у сельска-гаспадарчыя крэдытныя саюзы.

24. Як пазычковыя, так і іншыя апэрацыі павінны быць пабудаваны з разрахункам максымальнага абслугоўваньня бядняцкіх гаспадарак і вытворчых аб'яднаньняў с.-г. каапэрацыі. Пры выдачы пазычак сачыць за тым, каб ня было скарачэньня тэрміну.

Пры правядзеньні дастаўчых апэрацый увесьці ў практыку працы авансы і задаткі сяброў т-ва.

У мэтах пашырэньня зарыхтоўчае працы ўвесьці каапэрацыйную даплату па важнейшых пунктах.

25. Прымаючы пад увагу, што с.-г. крэдытныя т-вы зьяўляюцца гаспадарчым цэнтрам на вёсцы, у буйных таварыствах і грашова-моцных запрашаць на працу аграномаў для правядзеньня працы сярод сябраў таварыства (калгасаў і інш. вытворчых аб'яднаньняў).

26. Адзначаючы недастатковую ўвагу па спагнаньню пратэрмінаваных пазык, лічыць першачарговаю задачай усіх работнікаў сыстэмы прыняцьце ўдзелу ў спагнаньні пазык шляхам растлумачальнай кампаніі сярод пайшчыкаў своечасовай выбаркі судовых загадаў, вывешваньня ў с/саветах і ў інш. установах сьпісаў пратэрміноўшчыкаў.

27. Сучасная праца с.-г. крэдытных таварыстваў зьяўляецца надзвычайна складанай і унівэрсальнай, у сувязі з правядзеньнем праз іх разам з крэдытнай і забесьпячальнай работай зарыхтовак усіх відаў прадукцыі сельскай гаспадаркі, а адсюль вынікаюць розныя недахопы ў працы, чаму з арганізацыяй спэцыяльных саюзаў апошнія павінны накіраваць сваю працу на адлучэньне зарыхтоўчай працы ад с.-г. крэдытных т-ваў і перадачу іх цалкам спэцыяльнай нізавой сетцы.

## У галіне каапэрацыйнае асьветы

28. Дзейнасьць с.-г. крэдытнай каапэрацыі ў галіне каапэрацыйнае асьветы павінна пайсьці па наступнаму:

а) падрыхтоўка і перападрыхтоўка каапэрацыйных працаўнікоў;

б) масавая культасьветная праца;

в) праца каапэрацыі ў друку.

29. Для ажыцьцяўленьня паказаных вышэй задач па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы каапэрацыйных працаўнікоў неабходна правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы:

а) арганізаваць курсы па перападрыхтоўцы членаў праўленьняў, рахункаводаў і спэцыялістаў нізавых аб'яднаньняў;

б) склікаць курсы-канфэрэнцыі для шырокага каапэрацыйнага актыву з пастаноўкай дакладаў на больш жыцьцёвыя пытаньні дзейнасьці с.-г. каапэрацыі;

в) праводзіць адборку з каапэрацыйнага актыву для пасылкі ў навучальныя ўстановы.

30. У галіне масавае культасьветпрацы разам з дакладамі, лекцыямі і гутаркамі павінна быць зьвернута ўвага да масавых гуртковых аб'яднаньняў вясковага актыву, нарад жанчын і моладзі, а таксама арганізацыі вытворчых нарад па пытаньнях вытворчага каапэраваньня, абагульваньня с.-г. вытворчасьці, арганізацыі дапамогі беднаце і г. д., прыстасоўваючы гэтыя нарады пры касах і інш. вытворчых аб'яднаньнях.

31. Сельска-гаспадарчая каапэрацыя павінна прыняць шырокі ўдзел у раённых выстаўках, конкурсах і вопытна-паказальных мерапрыемствах (паказальныя сады, гароды, вучасткі, хлявы для жывёлы і г. д.).

32. Разам з гэтым працу распачаць у галіне радыёфікацыі і кінофікацыі.

33. У мэтах выкананьня прыведзеных вышэй мерапрыемстваў у галіне масавай культасьветпрацы на мясцох, да гэтай справы павінны быць прыцягнены ня толькі сілы каапэрацыйнага актыву, але і ўся мясцовая палітыка-асьветная арганізацыя і, у першую чаргу, мясцовая агранамія.

34. У галіне працы с.-г. каапэрацыі ў друку павінны быць праведзены наступныя мерапрыемствы:

а) масавае распаўсюджваньне часопісяй „Сел.-хоз. кооперация", „Молочное хозяйство", „Коллективист" і газэты „Кооперативная деревня". Апошняя павінна стаць масавай газэтай для ўсіх пайшчыкаў сыстэмы, для чаго разгарнуць шырокую кампанію па яе распаўсюджваньню;

б) арганізацыя каапэрацыйных гурткоў і садзейнічаньне іх працы;

в) удзел мясцовых каапэрацыйных арганізацый у цэнтральных і мясцовых органах агульнага і каапэрацыйнага друку.

## У галіне працы па ўцягненьню моладзі ў с.-г. каапэрацыю

35. Канкрэтнымі формамі ўцягненьня моладзі ў практычны ўдзел у працы с.-г. каапэрацыі павінна зьявіцца наступнае:

а) шырокае скарыстаньне скліку нарад камсамольцаў-домагаспадароў з пастаноўкай на гэтых нарадах канкрэтных задач у справе дапамогі с.-г. каапэрацыі;

б) пастаноўка на сходах ячэек і камсамольскага актыву дакладаў па асобных, больш актуальных момантах працы с.-г. каапэрацыі;

в) практыка дачы больш актыўнай частцы моладзі заданьняў па асобных пытаньнях каапэрацыйнай працы;

г) уцягненьне больш актыўных камсамольцаў у якасьці практыкантаў пры выкананьні інструктарскіх абсьледваньняў і рэвізій;

д) забеспячэньне выстарчаючае колькасьці месц за моладзьдзю пры ўкамплектаваньні с.-г. каапэрацыйных курсаў;

е) у мэтах большага каапэрацыйнага выхаваньня моладзі практыкаваць больш рашучыя высоўваньні камсамольцаў на кваліфікаваную працу ў каапэрацыі і прыцягненьне да справы кіраваньня і аспадарчай дзейнасьці нізавых каапэрацыйных арганізацый праз увод асобных актыўна праявіўшых сябе камсамольцаў у склад органаў кіраваньня і рэвізіі. Адным з відаў азнаямленьня з каапэрацыйнай працай павінна зьявіцца ўдзельнічаньне актыўных камсамольцаў ва ўсіх пасяджэньнях кіруючых органаў каапэрацыі, зьездах, нарадах і г. д.

## У галіне працы сярод сялянак

36. У галіне працы сярод сялянак прызнаць неабходным у першую чаргу ўцягнуць у каапэрацыю сялянак, у такія галіны гаспадаркі, дзе жаночая праца зьяўляецца пераважнай, напр.: малочныя, яйка-птушкаводныя, гародніцтва, першапачатковая апрацоўка ільну і г. д.

Да справы каапэраваньня і ўцягненьня апошніх у каапэрацыйнае будаўніцтва павінны быць прыцягнуты дэлегацкія сходы.

37. Арганізацыйныя пляны саюзаў у галіне працы сярод сялянак павінны ахапляць наступныя канкрэтныя моманты і мерапрыемствы:

а) выяўленьне і вучот бядняцкіх гаспадарак сялянак у мэтах іх каапэраваньня;

б) устанаўленьне сыстэматычнага групавога інструктаваньня жаночага актыву па пытаньнях каапэрацыйнае працы;

в) практыка склікаmakes ня менш 2 разоў у год пры саюзах нарад жанчын, як працуючых у кіруючых органах нізавых каапэратываў, так і больш актыўнай часткі жанчын;

г) у тых раёнах, дзе жаночая частка насельніцтва больш слаба ахоплена каапэрацыяй, прызнаць мэтазгодным увядзеньне нарад жанчын каапэраваных гаспадарак, наддаючы гэтым нарадам масавы характар;

д) наддаць справе папулярызацыі закону аб „заместительстве“ больш шырокія формы, даючы гэтым самым магчымасьць асобным гаспадаркам прыняць непасрэдны ўдзел у гаспадарчай дзейнасьці каапэратыву.

38. У мэтах вылучэньня больш актыўных жанчын на кіруючую працу ў каапэрацыі лічыць неабходным устанаўленьне вучоту выбарчага жаночага каапэрацыйнага актыву.

39. У мэтах падвышэньня вытворчае кваліфікацыі сялянак і падрыхтоўкі з іх каапэрацыйна-пісьменных арганізатараў прызнаць неабходным павялічэньне разьмеру пасылкі жанчын на правадзімыя с.-г. каапэрацыяй спэцыяльнага вызначэньня курсы.

## Укамплектаваньне інструктарскага апарату і нізоўкі

40. Пасьпяховае правядзеньне пастаўленых задач у значнай меры будзе залежаць ад падбору адпаведнага інструктарскага апарату як па колькасьці, так і па якасьці.

Пры падборы інструктарскага апарату неабходна прад'яўляць к гэтым асобам адпаведныя веды.

Кожны інструктар павінен мець пазнаньні ў галіне рахункаводзтва і статыстыкі з тым, каб ён мог правільна арганізаваць гэтую працу.

Пры гэтым трэба адзначыць, што кожны інструктар павінен мець веды ў агульных рысах, як паставіць тую ці іншую апэрацыю.

41. У даны момант адным з адмоўных бакоў у працы інструктарскага апарату зьяўляецца непастаянны склад інструктарскага апарату. Аднэй з галоўных прычын цякучасьці інструктарскага апарату зьяўляецца нізкая і неаднолькавая аплаты працы ў розных саюзах. Белсельсаюзу распрацаваць нормы ставак інструктарам па ўсіх саюзах і прыняць крокі да правядзеньня іх у жыцьцё.

42. Пры падборы працаўнікоў для акруговых саюзаў неабходна арганізаваць вучот працаўнікоў нізавой сеткі з мэтай іх высоўваньня на больш адказную працу. Разам з гэтым неабходна наладзіць вучот усяго каапэрацыйнага складу працаўнікоў.

43. У сувязі з наддачай с.-г. каапэрацыі шэрагу абавязкаў па прыняцьцю шырокага і практычнага ўдзелу ў мерапрыемствах па падвышэньню ўраджайнасьці— узяць курс на агранамізацыю апаратаў пры саюзах па паасобных спэцыяльнасьцях, а ў галіне ільнаводзтва ў гэтым годзе, як вопыт, правесьці прыкамандыраваньне аграномаў-ільнаводаў да с.-г. кр. т-ваў у больш буйнух ільнаводных раёнах

44. Прадугледжваючы неабходнасьць сталага папаўненьня кадраў с.-г. каапэрацыі кваліфікаванымі працаўнікамі, зьвярнуць большую ўвагу на пастаноўку працы Беларускага Дзяржаўнага Каапэрацыйнага Тэхнікуму ў напрамку:

а) правядзеньня агляду навучальных плянаў тэхнікуму з боку адпавядаемасьці іх запатрабаваньням сыстэмы;

б) неабходнасьці рэарганізацыі тэхнікуму, прыстасаваўшы гэта да запатрабаваньняў сыстэмы;

в) большай увагі сыстэмы да камплектаваньня тэхнікуму практычнымі працаўнікамі с.-г. каапэрацыі;

г) належнай увагі і чуласьці да разьмеркаваньня і скарыстаньня студэнтаў тэхнікуму.

## Увязка працы ўсяе сыстэмы

45. Правільны напрамак арганізацыйнай і гаспадарчай працы каапэрацыі можа быць ажыцьцяўлёны толькі тады, калі ўсе віды і зьвенчакі с.-г. каапэрацыі будуць надаваць сабою адзіную сыстэму, кіруемую і напрамляемую адзіным рэспубліканскім цэнтрам. Такім цэнтрам на бліжэйшыя гады працы павінен зьявіцца Белсельсаюз. За апошнім, акрамя абслугоўваньня розных відаў с.-г. аб'яднаньняў, якія не ўваходзяць у спэцыяльныя саюзы, павінна застацца агульнае кіраўніцтва выдзеленымі рэспубліканскімі цэнтрамі (калгассаюз і малочна-жывёлаводны саюз) і акруговымі, якія ня маюць сваіх рэспубліканскіх цэнтраў.

# Постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров Союза ССР

## О паевых взносах в потребительские общества

**ЦИК и СНК Союза ССР постановляют:**

1. Изложить ст. 7 постановления ЦИК и СНК Союза ССР от 20 мая 1924 г. о потребительской кооперации (Собр. Зак. Союза ССР 1928 г., № 3, ст. 25) в следующей редакции:

7. „Размер вступительного взноса членов в потребобщества устанавливается не свыше 50 коп. Уплативший вступительный взнос с момента уплаты становится членом общества.

Размер паевых взносов членов в потребобщества устанавливается общим собранием членов (собранием уполномоченных), при чем для различных групп пайщиков, в зависимости от их имущественного положения, могут быть установлены различные размеры паевых взносов (дифференцированные паевые взносы) в соответствии с инструкцией, издаваемой Центросоюзом Союза ССР. В этой инструкции в частности должны быть предусмотрены: а) нормы дифференцированного паевого взноса для различных категорий пайщиков, а равно рассрочка по уплате этих паевых взносов; б) категории пайщиков, освобождаемых от уплаты паевых взносов, а равно уплачивающих пониженные паевые взносы.

Примечание. Наличие у члена общества более одного паевого взноса не дает никаких преимуществ в управлении обществом и пользовании его услугами".

2. Дополнить указанное постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров Союза ССР от 20 мая 1924 г. (Вестник ЦИК, СНК и СТО Союза ССР 1924 г., № 5, стр. 172) ст. ст. $7^1$, $7^2$, $7^3$ следующего содержания:

„$7^1$. Для лиц, работающих по найму Центросоюзом Союза ССР устанавливаются нормы паевых взносов в размере от 15 до 50 руб. в зависимости от заработка.

Отступления от этих норм, вызываемые местными условиями, допускаются по соглашению республиканских центров потребкооперации с республиканскими советами профессиональных союзов, а в краях (областях) по соглашению краевых (областных) союзов потребкооперации с краевыми (областными) советами профессиональных союзов".

„$7^2$. Для лиц, занимающихся сельским хозяйством, средние нормы паевых взносов устанавливаются Центросоюзом Союза ССР в размере от 10 р. до 40 р.

Центры потребкооперации союзных и автономных республик и краев (областей) устанавливают в соответствии с нормами, установленными вышестоящими кооперативными центрами, средние нормы дифференцированного паевого взноса для отдельных местностей".

„$7^3$. По обязательствам общества каждый член его несет ответственность в размере причитающегося с него полного паевого взноса (ст. 7)".

3. Предложить правительствам союзных республик внести, в связи с настоящим постановлением, соответствующие изменения в законодательство союзных республик.

Председатель Центрального Исполнительного Комитета Союза ССР **М. Калинин.**

Зам. Председателя Совета Народных Комиссаров Союза ССР **В. Шмидт.**

И. о. Секретаря ЦИК Союза ССР **А. Толоконцев.**

Москва, Кремль, 6 февраля 1929 г.
Изв. ЦИК 9/II 1929 г., № 33.

# Тлумачэньне Белкаапсаюзу

Праўленьне Белкаапсаюзу ў сваёй пастанове ад 5/II 1929 г. (пратакол № 49/179), якая надрукавана ў бюлетэні БКСаюзу за 1929 г., № 4, стар. 14—17, устанавіла канкрэтны парадак увядзеньня дыффэрэнцыраванага паю ў спажывецкіх каапэратывах БССР. Нормы паявых узносаў, устаноўленыя гэтаю пастановаю, цалком адпавядаюць прыведзенай вышэй пастанове ЦВК і СНК СССР ад 6/II 1929 г. Да іх трэба дадаць, каб ва сіх спажывецкіх таварыствах на сходах упаўнаважаных пры ўстанаўленьні дыфэрэнцыраванага паю былі ўнесены адпаведныя зьмены ў § 12 і 16 статуту, як-та: арт. 12 прыняць у наступнай рэдакцыі:

„Кожная асоба, якая ўступае ў члены сп. т-ва, павінна ўнесьці ўступны ўзнос у памеры*) . . . кап. і абавязковы пай у наступных памерах:

А. Сяляне: а) вызваленыя ад с.-г. падатку . . . . . . . . . . 10 руб.
б) якія плоцяць с.-г. падатак без надбаўкі і з надбаўк. 25 „
в) якія абкладзены с.-г. падаткам у індывідуальным парадку . . . . . . . . . . . . . . . . 40 „

Б. Рабочыя, служачыя і саматужнікі:

а) якія зарабляюць штомесячна да 50 руб. . . . . . . 15 руб.
б) „ „ „ ад 60 р. да 100 р. . . . 20 „
в) „ „ „ „ 100 „ „ 150 „ . . . 30 „
г) „ „ „ „ 150 „ „ 225 „ . . . 40 „
д) „ „ „ звыш 225 р. . . . . . . 50 „

Увага 1. Чырвонаармейцы і чырвонафлётцы і малодшы камсклад, якія атрымліваюць у месяц менш 20 руб., плоцяць толькі ўступны ўзнос у памеры 50 кап., ад унясеньня паю аслабаняюцца на ўвесь час іх службы ў Чырвонай арміі, альбо флоце.

Увага 2. Групы насельніцтва, якія не прадугледжаны гэтым §. разьмяркоўваюцца па катэгорыях абавязкавага паю праўленьнем т-ва па ўзгадненьню з саюзам спаж. т-ваў. Пры гэтым для асобных груп насельніцтва (сялян-беднякоў, беспрацоўных, нізка-аплачваемых рабочых і служачых і гэтак далей) могуць быць устаноўлены паніжаныя памеры абавязковага паю, або поўнае аслабаненьне ад яго ўнясеньня.

Увага 3. Уступны ўзнос не зварочваецца членам т-ва ні пры іх выбыцьці, ні пры выключэньні іх са складу таварыства.

Увага 4. Большы памер паю не дае ніякіх пераваг члену т-ва ў кіраваньні справамі таварыства і карыстаньні яго паслугамі.

§ 16. Прыняць у наступны рэдакцыі:

„Па абавязацельствах спаж. т-ва кожны член яго нясе адказнасьць усёй сумай абавязковага паю, які ўстаноўлены для яго, згодна § 12 гэтага статуту. Дадатковая адказнасьць звыш гэтае сумы не ўстанаўляецца“.

# Усім спажывецкім таварыствам БССР

НКФ БССР 27/II 1929 г. за № 3131 растлумачыў, што пунктам „о“ арт. 11 Палажэньня аб падаходным падатку ад 15/X 1926 г. прадугледжаны не паявыя ўзносы каапэрацыйных арганізацый у свой саюз, а ўступныя ўзносы, і толькі апошнія ўзносы (а не паявыя) падлягаюць выключэньню з абкладаемага падаходным падаткам чыстага прыбытку арганізацый. Аб гэтым паведамляем усе спажывецкія таварыствы БССР у адмену нашага тлумачэньня, якое было зьмешчана ў бюл. Белкоопсаюзу за 1928 г., № 2, стар. 20 і за 1929 г., № 1-2, стар. 31, аб тым, што паі, якія ўнесены ў Саюз. падлягаюць вылічэньню з прыбыткаў пры абкладаньні іх прыбытковым падаткам.

Старшыня Праўленьня Белкаапсаюзу **Наўлянскі.**

Юрысконсульт **Мораз.**

*) Нельга ўстанаўляць уступны ўзнос больш 50 кап.

# Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

## па дакладу аб дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ў 1927-28 г.

Выслухаўшы даклад Кіраўніка Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Адзначыць наступныя галоўныя дасягненьні ў працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту за 1927-28 г.:

а) правільнае ў асноўным накіраваньне крэдытаў па паасобных групах пазычальнікаў (у сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі 50 проц. усіх крэдытаў супроць 46 проц. у 1926-27 г,; у індывідуальны сэктар—10.582.000 руб., з іх у бядняцкія гаспадаркі 49 проц. і ў серадняцкія 49 проц.);

б) плянавае забесьпячэньне крэдытнымі сродкамі калектыўных і савецкіх гаспадарак і іншых вытворчых аб'яднаньняў (усяго выдана 10.574.000 р., што дае рост супроць 1926-27 г. на 71 проц.);

в) павялічэньне ліку каапэраваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з 30,2 проц. на 1 кастрычніка 1927 г. да 40 проц. на 1 кастрычніка 1928 г., пры чым за лік фонду каапэраваньня беднаты каапэравана ў 1927-28 годзе 34.390 бядняцкіх гаспадарак;

г) сваечасовае задавальненьне крэдытамі мерапрыемстаў для вясеньняй пасеўнай кампаніі, што дае рэальную дапамогу беднаце;

д) павялічэньне крэдытаў на мэліарацыю, тэхнічныя культуры, травасеяньне і інш., значны рост сродкаў на кантрактацыю (на 218 проц. супроць мінулага году) і сродкаў на мерапрыемствы для павялічэньня ўраджайнасьці (мінэральнае ўгнаеньне на 145 проц., гатунковае насеньняводзтва на 140 проц.);

е) павялічэньне сеткі сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў на 90 таварыстваў, у зьвязку з чым сярэдні лік гаспадарак, якія абслугоўваюцца адным таварыствам, паменшыўся з 3.263 да 2.650.

Прыняць да ведама, што па даных Белсельбанку зводны балянс сыстэмы за мінулы год павялічыўся на 27.024.700 руб., гэта значыць на 52,4 проц., і асноўныя капіталы павялічыліся на 3.214.400 руб., гэта значыць на 55,8 проц.

2. Адзначыць наступныя недахопы ў працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту за 1928-29 г.;

а) вельмі слабы тэмп прыцягненьня сялянскіх сродкаў: укладаў, паявых узносаў, задаткаў на сродкі вытворчасьці і інш. (На 1 кастрычніка 1928 г. сялянскіх укладаў усяго 328.000 р.);

б) шэраг недахопаў у скарыстаньні фондаў крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты; невыстарчальна абгаварваецца скарыстаньне гэтых фондаў з групамі беднаты; у нізавой сетцы затрымліваецца каля 100.000 р.;

в) паграрзкаючае пратэрмінаваньне пазычак, якія складаюць на 1 студзеня 1929 г. 1.800.000 руб.;

г) скарыстаньне сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі сродкаў не па прызначэньні, укладаньне крэдытных сродкаў у гандлёвыя апэрацыі, скарачэньне тэрмінаў пазычак, перавышэньне процантаў па пазычках і інш.;

д) недастатковая праверка і нагляд за скарыстаньнем пазычак па прызначэньні непасрэднымі пазычальнікамі (індывідуальнымі гаспадаркамі і арганізацыямі);

е) недастатковае плянавае разьмеркаваньне крэдытаў сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі.

3. Даручыць праўленьню Белсельбанку зрабіць наступныя захады для ўзмацненьня сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і палепшаньня фінансаваньня сельскае гаспадаркі:

а) узмацніць фінансаваньне аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі;

б) паставіць у бягучым годзе асноўнай задачай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту прыцягненьне сродкаў сялянства праз уклады, асабліва мэтавыя, а таксама праз далейшае ўнядрэньне ў пачатковую сетку агульна-банкаўскіх апэрацый і большага ўцягненьня яе ў працу па правядзеньні разрахункаў паміж горадам і вёскай, у паасобку больш практыкаваць разрахункі лесараспрацоўчых, шляхава-будаўнічых і іншых гаспадарчых арганізацый з сялянствам праз сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту. Да 1 кастрычніка 1929 г. павялічыць суму сялянскіх укладаў да 1.500.000 руб.;

в) пашырыць да 1 кастрычніка 1929 г. нізавую сетку сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, павялічыўшы яе да 350 крэдытных таварыстваў;

г) бяручы пад увагу тое, што сродкі сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту зьяўляюцца невыстарчальнымі для задавальненьня крэдытамі патрэб сельскае гаспадаркі БССР, даручыць Народнаму Камісарыяту Фінансаў і акруговым выканаўчым камітэтам прасачыць, каб у гэтым годзе былі цалкам вылучаны з бюджэту сумы, прызначаныя ў асноўныя капіталы банку і акруговых таварыстваў сельска-гаспадарчага крэдыту;

д) працягваць работу да далейшага зьнішчэньня недахопаў у скарыстаньні фондаў крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты, больш прыцягваючы да гэтай працы беднату;

е) дабівацца найбольш мэтазгоднага і эфэктыўнага скарыстаньня крэдытаў пазычальнікамі праз праверку скарыстаньня як апаратам сыстэмы, так і ўтварэньня адпаведнага актыву на мясцох, прыцягваючы да гэтага сельсаветы;

ж) даручыць Белсельсаюзу і Белсельбанку на працягу двух месяцаў распрацаваць пытаньне аб разгрузцы крэдытных таварыстваў ад некаторых снабжэнчасказбытавых функцыяў;

з) даручыць акруговым і раённым выканаўчым камітэтам прыняць захады да ажыўленьня працы саветаў, кіраўніцтваў і рэвізійных камісій крэдытных таварыстваў і больш зьвяртаць увагі на крэдытна-каапэрацыйную працу ў вёсцы, не дапушчаць частых зьмен старшынь сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў бяз ведама і папярэдняга ўзгадненьня з акрсельсаюзамі і акрсельбанкамі, рашуча змагацца са злоўжываньнямі і растратамі ў сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах;

і) запрапанаваць Белсельбанку, акруговым і раённым выканаўчым камітэтам ужыць захады да спагнаньня пратэрмінаваных пазычак, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на спагнаньне пазычак з злосных няплатнікаў—больш заможных гаспадарак;

к) запрапанаваць Белсельбанку разам з Народнымі Камісарыятамі Земляробства і Фінансаў на працягу месяца распрацаваць парадак плянаваньня ў Белсельбанку сродкамі, якія маюць рэспубліканскае значэньне, і на мясцох сродкамі, якія маюць мясцовае значэньне;

л) запрапанаваць Белсельбанку арганізоўваць курсы па магчымасьці доўгатэрміновыя для павялічэньня кваліфікацыі супрацоўнікаў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *М. Галадзед*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР *Л. Дубавіцкі*

25 сакавіка 1929 г.
г. Менск.

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*